ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

11 ліпеня 1997 г. № 28/3904 Кошт 3 000 руб.





*Мільгаюць згадкі-знічкі,*
*А то плывуць ракой...*
*Спяшае электрычка —*
*Не конка і не брычка —*
*Ды наш вязе настрой...*

*Фота Анатоля КЛЕШЧУКА*

# КОЛА ДЗЁН

***Беларусь — аграрная краіна. І няма большых турбот у яе грамадзян, чым своечасова пасеяць і зжаць, падкарміць і скарміць, падрыхтавацца да восені, зімы, вясны... Такая думка прыходзіць у галаву, калі паглядзіш колькі дзён запар навіны па нашым тэлебачанні, паслухаеш радыё. Асабліва заўважны гэтакі “ўхіл” дзяржаўных СМІ ў параўнанні з расійскімі, якія мы яшчэ пакуль маем мажлівасць бачыць і чуць. Там даўно ўжо нарыхтоўка кармоў не толькі не навіна нумар адзін, а зусім знікла з экранаў. Як, дарэчы, і ва ўсім свеце. Тое, што натуральнае, будзённае, там не навіна, не падзея — там гэта проста праца, а не “бітва за...” Думаецца, і нашым журналістам не надта цікава рабіць рэпартажы пра падрыхтоўку тэхнікі да жніва ці ферм да зімы. Абыходзіліся ж яны без “сельгаспраблем” яшчэ колькі гадоў таму, і недахопу ў разнастайнай, жывой інфармацыі, патрэбнай гледачу, не было. Але сёння ў нас сітуацыя іншая, “устаноўкі” іншыя і, адпаведна, патрабаванні да службы навін іншыя: калі вяртацца назад, у савецкія часы, дык ва ўсім...***

## *ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ*

Па значнасці для будучыні Еўропы саміт краін-членаў НАТА, што адбыўся 7—9 ліпеня ў Мадрыдзе, пераўзышоў усе астатнія падзеі мінулага тыдня. Здарылася тое, у што да апошняга не хацелі верыць толькі на Беларусі і з чым даўно змірыліся ў Расіі: як сцвярджаюць палітычныя аглядальнікі, НАТА без крывавых баёў адваявала ў Расіі Усходнюю Еўропу. На сустрэчы прынята рашэнне аб уступленні ў НАТА новых членаў — Чэхіі, Польшчы, Венгрыі, на падыходзе Румынія, Славенія і краіны Балтыі, уваходжанне якіх у блок НАТА — справа часу. Украіна падпісала з 16 краінамі, што ўваходзяць у блок, дагавор, паводле якога НАТА бярэцца дапамагаць Украіне ў абароне яе незалежнасці, — зразумела, ад каго... Такім чынам, Беларусь зноў аказалася на мяжы падзелу Еўропы, на мяжы цывілізаванага свету і... Расіі... Дарэчы, прэзідэнт Расіі не прыняў удзел у мадрыдскай сустрэчы. Не паехаў на яе і прэзідэнт Беларусі, спаслаўшыся (паводле слоў прэс-сакратара) на неадкладныя справы, падрыхтоўку да... Аднак сваю ацэнку падзеям у Мадрыдзе А. Лукашэнка даў: пашырэнне НАТА на Усход ён назваў “мажліва самай вялікай памылкай заходніх палітыкаў XX стагоддзя”. Думаецца, час пакажа, хто памыляўся і ў чым. Праўда,”свядомыя памылкі” называюцца трохі інакш.

## *ПРЫГАВОР ТЫДНЯ*

Карэспандэнта ОРТ на Беларусі Паўла Шарамета МЗС нашай краіны пазбавіла акрэдытацыі... Такой была рэакцыя на ягоны шараговы рэпартаж пра падрыхтоўку да ліпеньскіх святкаванняў у Мінску. Рэакцыя дзіўная, непрадказальная і неадэкватная. Зрэшты, можа, і натуральная і заканамерная, калі ўлічыць нядаўнія высылкі з Беларусі карэспандэнтаў РТР Леаніда Свірыдава і НТВ Аляксандра Ступнікава. Журналістам хочуць паказаць іх месца і навучыць іх, як трэба працаваць...

## *ТАЯМНІЦА ТЫДНЯ*

Колькі каштавала бюджэту Беларусі святкаванне Дня Рэспублікі, Свята 930-годдзя Мінска, вайсковы парад, водная феерыя ды іншае, мы, пэўна, ніколі дакладна не даведаемся. Дазнацца пра гэта не змагла нават уніклівая “Свабода”. Называецца толькі адна лічба, але і яна ўражвае: на падрыхтоўку да Свята горада пайшло 50 мільярдаў рублёў, альбо больш за 1,5 мільёна долараў. Крыўдна, але жыхары астатніх гарадоў Беларусі назіралі за святкаваннем па тэлевізары.

## *ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ*

1 ліпеня ля вёскі Камень Кобрынскага раёна трапіў у аварыю аўтобус, на якім ехалі на аздараўленне ў Бельгію дзеці-чарнобыльцы. Тры хлопчыкі і дзяўчынка загінулі на месцы, 62 дзяцей былі шпіталізаваны з рознай цяжкасці траўмамі... Астатнія 228 школьнікаў на наступны дзень на трох аўтобусах паехалі адпачываць. Беларусь даведалася пра трагедыю на дарозе толькі пасля святаў.

## *НОВАЎТВАРЭННЕ ТЫДНЯ*

14 ліпеня на Беларусі пачнуцца ўступныя экзамены ў ВНУ і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Кантраляваць іх ход будзе спецыяльная камісія, створаная па даручэнні прэзідэнта. Узначаліў яе чамусьці не кіраўнік сістэмы адукацыі, а старшыня Дзяржкамдруку У. Замяталін. Як бачым, у нас не давяраюць не толькі выкладчыкам, але і галіновым міністрам.

## *НАВІНА ТЫДНЯ*

“У гэтую восень новых выбараў не будзе...” — паведаміў журналістам намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта І. Пашкевіч. Яны немагчымыя нават тэарэтычна, а не тое што практычна. Для гэтага неабходна, каб Нацыянальны сход прызначыў іх і самараспусціўся, альбо прэзідэнт распусціў Нацсход. Ні пра адно, ні пра другое размовы пакуль няма... Такім чынам, мажлівасць выбараў “пераносіцца” ўжо цяпер на вясну—лета 1998 года.

## *ЧУТКА ТЫДНЯ*

У СМІ прамільгнула інфармацыя пра тое, што нібыта прэм’ер-міністр РБ С. Лінг падаў на імя прэзідэнта прашэнне аб адстаўцы. Дыму без агню не бывае? Пачакаем... Нешта дыміцца нібыта і каля кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі. Што ж, такая работа. Гэта ж не служба пажарніка, як яе з зайздрасцю ўяўляюць у народзе: спі сабе ў шапку, пакуль не загарыцца...

АДГАЛОСКІ

# Гуляць дык гуляць!

*Ці з тых ты, хто пазірае*
*як глядач?*
*альбо хто ўдзельнічае?*
*— альбо хто*
*не звяртае ўвагі,*
*праходзіць міма?*
**Ф. Ніцшэ**

Без сумневу, урачыстасці, наладжаныя з 2-га па 5-га ліпеня беларускімі ўладамі, уражанні пакінулі. Мы мусілі святкаваць дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, 930-годдзе Мінска, Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Што ж, адзначаць паважаныя даты належным чынам — варта, аднак сталася гэтак, што празмернае жаданне стварыць атмасферу грандыёзнасці, сцвердзіць, нібыта краіна квітнее, штучнае нагрувашчванне святаў адно на адно спарадзілі камічнасць і недарэчнасці. Так, напрыклад, арганізатары ўрачыстасцяў праігнаравалі той гістарычны факт, што першая згадка пра Мінск зафіксавана ў “Летапісе мінулых гадоў” ад 3 сакавіка 1067 года. Гэтую дакладную дату з тае прычыны, што раней свята нашай сталіцы традыцыйна адзначалася ў першыя дні ліпеня, падчас шматлікіх мерапрыемстваў старанна замоўчвалі. Досыць цьмяна ўсё і з пераносам дня Незалежнасці нашай краіны паводле вынікаў лістападаўскага рэферэндуму мінулага года. Да таго ж, гэтае свята чамусьці называлі Днём Рэспублікі (рэспубліка — гэта форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць выбраным на пэўны тэрмін органам, а таксама краіна з такім дзяржаўным ладам), хаця дастаткова сімвалічна. А наколькі маральна і мэтазгодна ў сэнсе эканомікі было праводзіць гэткія шыкоўныя святочныя мерапрыемствы пасля напаткаўшых краіну трагічных падзеяў? “Баляваннем падчас чумы” ахарактарызавалі такія дзеянні ўладаў у адпаведных заявах некаторыя палітычныя партыі Беларусі. А колькі насамрэч грошай было выдаткавана на названыя ўрачыстасці, мы наўрад ці даведаемся. Адно відавочна — процьма.

Што ж адбывалася тымі днямі ў Мінску? Напачатку былі, натуральна, гэтак званыя афіцыйныя мерапрыемствы. Так, 2 ліпеня адным з галоўных былі ўрачыстыя пасяджэнне і канцэрт, прысвечаныя дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Прамаўляў кіраўнік дзяржавы. Анічога новага, дваццаць сёмага ліпеня... народ... рэферэндум... брацкая Расія і г.д. Але — па-беларуску. І нельга было не пагадзіцца, слухаючы А. Лукашэнку, з ягоным сцвярджэннем, што “не было такога ліха, якое б абмінула нашу старонку”. Аднак мы спадзяёмся на лепшае! Спадзяёмся заўжды...

На наступны дзень адбыўся парад, на якім гледачоў было менш, чым ягоных удзельнікаў. Зноў давялося чуць прамову прэзідэнта, якая сталася амаль ідэнтычнай той, што была напярэдадні (але гэтым разам — па-руску). Па галоўнай плошчы сталіцы шпацыравалі вайскоўцы і вядомыя ў краіне і свеце спартсмены, праехалі баявыя машыны, праляцелі над Мінскам самалёты і верталёты. Вайсковы і паветраны парады прымаў галоўнакамандуючы беларускіх узброеных сіл Аляксандр Лукашэнка, а спартыўны — прэзідэнт Нацыянальнага Алімпійскага Камітэта. Народ тым часам чакаў гулянняў.

Чацвёртага ліпеня распачаліся ўрачыстасці, прымеркаваныя паводле задумы ўладаў да 930-годдзя нашае сталіцы. Вялікай колькасці святочных мерапрыемстваў папярэднічала афіцыйная цырымонія адкрыцця. Спачатку выступіў Уладзімір Ярмошын, які яшчэ раз зазначыў, што наступствы ўрагану не ёсць перашкода святкаванням. А вось далей адбылося, на маю думку, зусім недарэчнае. Ад імя шматлікіх дэлегатаў гарадоў іншых краін слова браў мэр Масквы Юры Лужкоў. Пасля кароценькага непасрэднага віншавання праз няўцямныя фразы і сцвярджэнні, накшталт таго, што, маўляў, Масква — гэта малодшая сястра Мінска, праз своеасаблівую інтэрпрэтацыю гістарычных звестак, Лужкоў пачаў прамаўляць як на палітычным мітынгу. Карацей кажучы, мэтанакіравана і, мажліва, дальнабачна асвойваў беларускую прастору. Потым папулярнага мэра Лужкова змяніў папулярны эстрадны спявак Газманаў і натхнёна выканаў на свяце Мінска песню пра Маскву(!). Ніякаватасць сітуацыі была відавочнай, таму вядучыя трансляцыі гэтых урачыстасцяў на Беларускім тэлебачанні пафасна запэўнівалі, што песня нібыта ўвасабляе еднасць двух, вядома якіх, народаў.

Працягвала святкаванне тэатралізаванае прадстаўленне-шэсце “Стагоддзі па-над Мінскам”. Паглядзець эпізоды з гісторыі роднага горада прыйшло багата мінчан. Выглядала ўсё маштабна і відовішчна. Безумоўна, народу такое шоу не магло не спадабацца, а для многіх яно сталася адначасова і своеасаблівым ліквідаваннем непісьменнасці ў галіне гістарычных ведаў.

На гэтым усё далёка не скончылася. Быў і агонь нябесны на вадзе, і была ў дзеянні конная міліцыя ў парку Чэлюскінцаў, і былі непрабіўныя чэргі ў крамы і прыбіральні, калі мінчане актыўна даводзілі, што піва — беларускі нацыянальны напой.

Зразумела, усяго нельга было пабачыць, а, значыць, цяпер і не апісаць. Аднак пра адну акцыю, што адбылася тымі днямі, мабыць, самую цікавую, варта распавесці. Сквер імя Я. Купалы — месца, дзе панаваў дух насамрэчнай беларускасці. Гэта вельмі выразна кантраставала з пафаснымі, відавочна ангажаванымі прамовамі аб Саюзе з Расіяй, песнямі маракоў і г.д., што аніякім чынам не стасавалася з тым фактам, што наша краіна мусіла святкаваць дзень Незалежнасці. Так, напачатку прысутныя ў скверы адзначылі 115-я ўгодкі народзін слыннага нашага паэта-песняра Янкі Купалы. А ўжо пасля быў наладжаны фестываль-праект “Песнярок”, які ўяўляў з сябе выступленні айчынных гуртоў, што выконвалі па некалькі сваіх песень і па адной кампазіцыі з рэпертуару “Песняроў”. Гэткая атмасфера падахвочвала моладзь раз-пораз агучваць, але без палітычнай аздобы, — “Жыве Беларусь!”. Напрыканцы спявалі самі “Песняры”, якіх гледачы асабліва ўдзячна віталі, калі тыя адну са сваіх песень прысвяцілі памяці нашых беларускіх дзетак, што трагічна загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Увогуле ж склалася ўражанне, што арганізатары імпрэзы “Песнярок” свядома пакінулі сваю акцыю ў некаторай ступені па-за межамі свят (маўляў, хочаце — святкуйце). Трэба меркаваць, з розных прычын.

Святочнасць згаданых дзён паступова сыходзіла, аднак даўгачаснасць і размах урачыстасцяў пэўным чынам зацьміла Купалле, сіл на якое не засталося ані ў людзей, ані ва ўладаў.

Яшчэ нямала будуць абмяркоўваць у краіне гэтыя святы альбо псеўдасвяты (як каму заўгодна). Прычым часцяком з палітычнай афарбоўкай. Так, да прыкладу, апазіцыя даволі доўга будзе турбавацца грашыма, што пайшлі на святочныя мерапрыемствы. А ўлады — сцвярджаць, што нібыта дасягнута духоўная еднасць з народам і распавядаць, як свабодна і часам свавольна пачувалі сябе падчас святкаванняў беларусы.

Відавочным жа падалося адно. Наш народ можа выходзіць вялікай грамадой не толькі на дэманстрацыі. На жаль, такая мажлівасць выпадае зрэдку.

**Кірыла ПАЗНЯК**

З НАГОДЫ

# Паўтарэнне пройдзенага

Нядаўняе шумнае пазбаўленне Паўла Шарамета, загадчыка бюро ОРТ у Мінску, акрэдытацыі сталася яшчэ адной выразнай ілюстрацыяй таго, што беларускія незалежныя СМІ апынуліся ў ціхім заняпадзе. І вось чаму. Натуральна, што А. Лукашэнка, падпісаўшы саюзныя пагадненні з Расіяй, мусіць уздзейнічаць на тамтэйшае насельніцтва. Аднак расійскія тэлевізійныя каналы і перыядычныя выданні, як неаднаразова наракаў сам прэзідэнт, відавочна псуюць імідж кіраўніка нашай дзяржавы. Былі высланы з Беларусі А. Ступнікаў і Л. Свірыдаў, цяпер чарга П. Шарамета. Нехта будзе наступны? Ды галоўнае не ў гэтым. Няўжо айчынныя незалежныя СМІ менш вострыя на язык за названых тэлежурналістаў? Пэўна ж, не. Папросту мясцовая крытыка ўладам, што камарыны ўкус. А вось калі нашыя журналісты выступалі з адпаведнымі публікацыямі ў расійскім друку, то рэакцыя кіраўніцтва была імгненнай. Такім чынам, здарэнне з карэспандэнам ОРТ лішні раз нагадвае нашым незалежным выданням, што яны перажываюць пэўны крызіс.

Па-першае, тыражы нашых недзяржаўных СМІ грамадска-палітычнага накірунку, на жаль, не павялічваюцца. Усе разам узятыя апазіцыйныя газеты не здольныя канкурыраваць у гэтым плане з адным-двума масавымі дзяржаўнымі выданнямі. “Свабода”, “Имя”, “Народная воля”, “БДГ” “абслугоўваюць” строга акрэслены электарат БНФ, АГП, БСДГ і г.д. (блізка 2 млн. чалавек). Агульны тыраж усіх нашых апазіцыйных выданняў не большы за пяцьсот тысяч асобнікаў. Такім чынам, чытачы гэтых апазіцыйных газет, а, значыць, сама апазіцыя варыцца ва ўласным соку. І ёй застаецца адно што ўвасабляць у рэаліі канцэпцыю рэвалюцыйнай меншасці.

Па-другое, змест незалежных СМІ нібыта касцянее, набывае, нейкі застылы стан. Публікацыі ў многіх газетах дужа падобныя, паўтараюць адна адну. Так, метад паўторнага, неаднаразовага ўздзеяння на чытача і слухача досыць прадуктыўны, аднак тут гэта не пройдзе. Бо чытач той жа “БДГ” — гэта сталы чытач, і яму патрэбна ў першую чаргу інфармацыя. Да таго ж, гэты чытач пераважна высокаадукаваны чалавек. А чытаючы “Свабоду”, скажам, яе гэтак званыя аналітычныя матэрыялы, часам здзіўляешся: няўжо рэдакцыя лічыць, што тое, што яны хочуць давесці да чытача, трэба тлумачыць тым, хто заўсёды бярэ ўдзел у дэманстрацыях? “Имя” ж, якое лічыцца вельмі апазіцыйнай ды яшчэ інтэлектуальнай газетай, ніяк не выяўляе сябе як нацыянальнае выданне. “Народную волю” псуе невыразнасць яе старонак і адначасова ці не знарочыстая іх пафаснасць.

Нарэшце, па-трэцяе, у стасунках беларускіх незалежных СМІ і ўлады знікае нават раздражняльны эфект. Кіраўніцтва краіны навучылася моўчкі ўспрымаць выпады апазіцыйнай прэсы, не зважаць на яе “прыколы”, і гэта дало пэўны вынік. Перастаў лятаць бумеранг — і не стала цікавасці сачыць за тым, адкуль ён кінуты і куды вернецца.

Гэта толькі вельмі кароценькія развагі пра цяперашні стан беларускіх незалежных СМІ. Як то кажуць, з нагоды. Ды, думаецца, ёсць каму разгарнуць тэму.

**К. П.**

ІМПРЭЗЫ

# "Я — з Віцебска!"

У Віцебску скончыліся чарговыя Міжнародныя Шагалаўскія дні і чарговы Міжнародны Шагалаўскі пленэр. На выніковай выставе былі прадстаўлены творы 26 мастакоў — удзельнікаў пленэру. Канчатковы склад удзельнікаў бліжэй да заканчэння крыху змяніўся. Прыехаў яшчэ адзін мастак з Расіі, прыехала мастачка з Грэцыі. Былі змены ў беларускай "камандзе".

Міжнароднае журы прысудзіла Гран-пры мінскаму мастаку Алесю Ксяндзову. Яшчэ адзін беларус сярод лаўрэатаў — Сяргей Цімохаў з Полацка. Астатнія ўзнагароджаныя — Сюзана Петрусевіч з Латвіі, Раймондас Савіцкас з Летувы, Яўген Гінзбург з Расіі.

Чынны ўдзел мелі ў Шагалаўскім свяце і самі віцебчукі. Да свята была прымеркавана маштабная культурніцкая акцыя "Я — з Віцебска" (вялікая выстава віцебскіх мастакоў і сцэнічная дзея — харэаграфія і дэманстрацыя сучаснай моды). Ад многіх я чуў, што творчасць "мясцовых" уражвае не меней чым экспазіцыя "гасцей". Выстава "Я — з Віцебска" стаіць у шэрагу аналагічных, хоць і не такіх маштабных акцый. А гэта выстава сучаснай беларускай графікі з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, твораў мінскага фотамастака Уладзіміра Парфянка, экспазіцыя з Германіі, іншыя імпрэзы.

Асобна трэба сказаць пра адкрыццё выставы літаграфій Марка Шагала з музея ў Ніцы і фонду Іды Шагал. Мінчукі бачылі яе раней. Гэта выстава ў Віцебскім мастацкім музеі — адна з кульмінацый свята. Цяпер Віцебск мае нешта накшталт нашага Траецкага прадмесця. Гэта вуліца Пакроўская, на якой адкрыты Дом-музей Марка Шагала і часткова зымітавана гістарычнае асяроддзе. З гэтай нагоды на вуліцы адбылася тэатралізаваная імпрэза.



Апошняй кропкай свята і ягонай самай высокай нотай стала начное відовішча "Прысвячэнне Майстру", афіцыйнае закрыццё Дзён і пленэра ў скверы побач з Віцебскай ратушай. Цудоўная рэжысура, натхнёныя выканаўцы, усхваляваная і расчуленая публіка...

Можа скласціся ўражанне, што Дні і пленэр былі напоўнены выключна вернісажамі і прэм'ерамі. Але была найперш работа для розуму і душы. Плён гэтай працы яшчэ наперадзе.

**П. В.**

*На здымку: Арт-цэнтр Марка Шагала ў Віцебску.*

*Фота БЕЛТА*

ЭКСЛІБРЫС

## Каханне пад акупацыяй

*Славамір Адамовіч. Вершы. Мінск, 1996.*

**Не памылюся, калі скажу, што С. Адамовіч сёння адзін з самых папулярных беларускіх паэтаў. Вось і гэты зборнічак паэзіі, які літаральна мільгануў перад вачыма, прыйшлося прасіць у аўтара, бо не дакупіцца. О, парадоксы беларускага літаратурнага жыцця! Паэт, сведамы беларус і нацыяналіст стаўся вядомым дзякуючы вершу, напісанаму... па-руску. Але ў гэтым і заключаецца сакрэт С. Адамовіча, які прывёў яго ўрэшце да... папулярнасці. Бо асноўнае, што характэрна для вершаў гэтага зборніка, як, мабыць, і для ўсёй паэзіі апошніх гадоў С. Адамовіча, у чым ён сам, урэшце, і прызнаецца, гэта — "маленькі сцёб".**

**Няма, пэўна, такой тэмы ў чалавечым жыцці, дзе б паэт не "сцебануўся". Жаданне шакіраваць, паралізаваць чытача, уразіць тэмаю верша, абурыць урэшце паводзінамі лірычнага героя — любімыя сродкі С. Адамовіча ў паэзіі. Ён піша "антымаральныя" вершы, "наязджаючы", напрыклад, на бясспрэчны інстытут каталіцкага касцёла, цэлібат, ці на іншы, ужо грамадскі інстытут, на сям'ю, ці з гонарам заяўляе: "Я палюбіў цябе, дзяўчо, маніякальна... табе трынаццаць... а мне ўжо трыццаць тры". Часам ён з асалодаю смакуе антыэстэтычныя нюансы, ці сам свядома праграмуе іх. Цяжка з гэтага зрабіць сапраўдную паэзію, і С. Адамовіч, хіба што, не здолеў пераканаць мяне ў адваротным. Вось, апяваючы ў "Одзе" жаночыя вусікі, ён піша: "Пад рымскім носам чорны вус блішчыць у сонечным святле", як быццам бы гэта не кабета, а якінебудзь кірасір. Вось такім чынам, правяраючы ў вершах сябе: "Адмоўна сведчыць Васэрман. Я ажываю", паэт адначасова правярае і чытача, ягоную здольнасць успрымаць паэтычны "сцёб", і не больш таго.**

**Можна казаць пра больш ці менш удалыя практыкаванні ў "сцёбе" С. Адамовіча, бо, паўтаруся, няма такіх тэм, якія былі б забароненыя для паэта. Можна паціснуць плячыма, чытаючы чарговую варыяцыю на тэму арганісткі, можна смяяцца, уяўляючы кэдэбэшніка і паэта, які горача пераконвае каханку: "Пакуль ён стаіць за дзвярыма, Мы будзем спружынай рыпець...", можна проста пасміхнуцца, чытаючы "пагрозы" паэта: "Калі ты здрадзіш мне аднойчы, Ад гэтай здрады атрымаўшы Так многа-многа асалоды... Я ўспомню дзе ляжаць набоі".**

**І пра сур'ёзныя, нават трагічныя рэчы метадычнага знішчэння беларускай культуры, дзяржавы, незалежнасці, а каго зараз з беларускай інтэлігенцыі яны не хвалююць, якое адбываецца на нашых вачах, паэт таксама піша са "сцёбам". Ён ведае, хто ў гэтым вінаваты, як, урэшце, ведаем і ўсе мы, але людзям "з цвёрдым каркам і чэрствым сэрцам", як напісана пра такіх у Біблії, любы гумар недаспадобы.**

**Сярод "сцебанутай" паэтычнай руды ёсць у гэтым зборнічку і золата паэзіі. "І я стаю, чакаю каханую, Боты мае юхтавыя прыемна рыпяць" — з задавальненнем чытаю я. "Я прыйшоў. Ты рабі, што трэба: Расцалуй, альбо прагані, Альбо выплаві з мяне срэбра На сваім залатым агні" — і гэта добра. Найлепшы твор у зборнічку, як мне падаецца, паэма "Алжыр": "Мы не баімся арыштанцкай робы, Мы за Радзіму робім гэты крок" — піша С. Адамовіч. Пагодзімся, нават калі гэты крок зроблены ў форме паэтычнага "сцёбу".**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ФЕСТЫВАЛІ

# Сёння — "базарны" дзень!

### У ВІЦЕБСКУ ЎРАЧЫСТА АДКРЫВАЕЦЦА VI МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ "СЛАВЯНСКИЙ БАЗАР-97"

Самая дакладная і падрабязная інфармацыя пра яго — у віцебскім прэс-цэнтры, вакол якога ўжо гуртуюцца акрэдытаваныя на фестывалі журналісты. Але сёетое ведаюць і ў сталіцы: "базарныя" дні прывабяць шматлікіх (у тым ліку й тэлевізійных) гледачоў конкурсам маладых выканаўцаў, фестывалем дзіцячых шоу-праграм, кінапаказамі ды мастацкімі выстаўкамі, канцэртамі "зорак" расійскай эстрады Валерыя Лявонцьева, Філіпа Кіркорава, гуртоў "Іваншукі-Інтэрнэшнл", "Агата Крысці" ды інш.

Падчас "Славянского базара" ўрачыста адзначыць сваё 10-годдзе Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Як паведаміў на мінскай прэс-канферэнцыі яго мастацкі кіраўнік маэстра Міхал Фінберг, юбілейны фестывальны канцэрт адлюструе творчыя набыткі калектыву за 10 гадоў. Праграму будзе весці знаны маскоўскі каментатар Святаслаў Бэлза; лаўрэаты фестываляў, у якіх удзельнічаў аркестр, выканаюць у яго суправаджэнні папулярныя песні; павітаюць юбіляра такія вядомыя асобы, як Юры Саульскі, Ігар Лучанок, Алег Лундстрэм, Юры Антонаў, Валеры Сюткін, Алёна Свірыдава... Упершыню на "Славянском базаре" будуць годна прадстаўлены салісты-спевакі ды інструменталісты аркестра. Прагучаць лепшыя песні беларускіх кампазітараў, напісаныя на выдатныя ўзоры беларускай паэзіі. І гэта радуе...

**С. Б.**



*На здымку: летні амфітэатр зноў прымае гасцей.*

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛТА*

НАДЗЁННАЕ

Павел МІСЬКО

## Латафагі

*Народ быў такі ў час Гамера,*
*Што страціў і гонар, і памяць,*
*Бы змусілі чары хімераў*
*Не помніць нічога, не цяміць.*
*Зайшлі там усе не ў завулак,*
*А ў пастку якуюсь, тупік,*
*На дурню сядзеў*
*там прыдурак*
*І высалопваў язык.*
*Суседа ўдалося абкрасці —*
*То цешыцца будзе, цвяліць,*
*Смяяцца, аж хліпаць ад шчасця,*
*І пальцам ля скроні круціць.*
*Спявалі: "Што ўбіў, то і ўехаў,*
*Што стрэў, то адразу і з'еў!"*
*Праца лічылася грэхам,*
*Дэвіз быў: дзе злез, там і сеў.*
*"Ну й што, калі плюнулі ў вочы?*
*Дык Божая ж гэта раса!"*
*"Спі! Сутак нам Бог*
*не прыточыць!" —*
*Яшчэ там любілі казаць.*
*Жылі, як бур'ян-пустазелле,*
*Як марная ў полі трава,*
*Не ведалі, нібы з пахмелля,*
*Нашто на плячах галава.*
*...Народ жыў такі ў час Гамера*
*І вымер, заснуўшы навекі...*
*Легенда ці казка? А веру...*
*Лёс гэткі ва ўсіх недарэкаў.*

ПОГЛЯД

# "Няпростая" філасофія ў краіне прастакоў

Няпраўда, што беларусы — дурныя калгаснікі і нацыянальныя недавумкі! Яны проста зацятыя кансерватары і меланхолікі, якія вельмі марудна паддаюцца знешнім уздзеяннням і не спяшаюцца адмаўляцца ад старых звычак. Нават калі тыя звычкі такія недарэчныя, як сённяшняя вера ў геній "калгаснага цара", шчаслівае савецкае "ўчора" або халяўна-інтэграцыйнае "заўтра". Сярод іх трапляюцца і выкапнёвыя анахранізмы, з паталагічнай нелюбоўю да гандлю і гандляроў, да людзей, якія "нажываюцца на гарбе сапраўдных вытворцаў — рабочых і сялян".

Гэты, бадай, яшчэ феадальны забабон паспяхова пераэжыў сацыялізм з імперыялізмам і патрапіў у постіндустрыяльны час, калі абмен, рух і спажыванне тавараў стала сімвалам і асноўнай праблемай эпохі. Бо галоўнае сёння — не **колькі** зрабіць, а **як** збыць, знайсці спажыўца. У час, калі ва ўсім свеце гандаль і рэклама — паважаная і зусім не простая справа, у нас па савецка-феадальнай традыцыі галоўны герой — чалавек з віламі, кувалдай ці ў горшым выпадку — з ружжом. Калі ж у цябе ў руках калькулятар, а на плячах яшчэ галава — то не інакш махляр, спекулянт ці злодзей.

На жаль, такая ўбогая філасофія пануе ў галовах большасці "простых людзей" і не пакідае "няпростым" шанцаў змяніць жыццё да лепшага. Даўно вядома, што наперад, да заможнасці і працвітання рухае грамадства эліта — тэхнічная, навуковая, духоўная, палітычная. Рухавік і тэлефон, камп'ютэр і штучны інтэлект, сучасныя сацыяльна-палітычныя інстытуты стварыў не мужык з рыдлёўкай і не баба з сярпом, а тыя "няпростыя" людзі, якія заўсёды вытыркаліся з агульнай масы, не ўпісваліся ў прамалінейную камуністычную перспектыву, а зараз — у дубовую беларускую "вертыкаль". У выніку простыя становяцца больш беднымі і злымі, а эліта вымушана сыходзіць у эміграцыю або прыкінуцца таксама "простай". Каб змяніць сітуацыю, мала памяняць аднаго чалавека ці кіруючую вярхушку, трэба змяняць філасофію і псіхалогію працоўных, беспрацоўных і падрастаючых "мас". Можна сказаць, што сёння трэба ствараць культ "няпростага чалавека", ідэал новага беларуса. Тым больш гэта актуальна на фоне моцнага ціску амерыканскай і расійскай маскультур, якія нясуць пераважна спрошчаныя, прымітыўныя ідэалы, часцей адмоўнага характару. Чаго варты прыклад лёгкага ўзбагачэння на тэлегульнях, феномен новых рускіх, жорсткасць амерыканскіх трылераў, расійскай "чарнухі" і г. д.

Ідэал новага беларуса, на маю думку, мусіць мець іншыя рысы. Па-першае — культ адукацыі, культ набыцця новых, сучасных ведаў. Па-другое — гістарычна-нацыянальная дасведчанасць, адчуванне сваіх каранёў і папярэднікаў. Трэцяе — культурная арыентацыя на еўрапейскія — як больш блізкія нам — традыцыі. Чацвёртае — павага да прыватнай свабоды і асабістых перакананняў чалавека як працяг старой беларускай традыцыі.

Такім чынам, культ "няпростага чалавека" ёсць спроба звярнуцца да творцы, зрабіць стаўку на больш здольных і незалежных, таленавітых і свабодных. Менавіта ў такіх людзях мае патрэбу Беларусь, менавіта яны змогуць скрануць яе з мёртвай кропкі.

У гэтай сувязі ўзнікае адно вялікае пытанне — адсутнасць элітарнай беларускай адукацыі. Сёння не існуе вышэйшых беларускамоўных навучальных устаноў нават у гуманітарнай сферы, не кажучы ўжо пра тэхнічную, эканамічную, медыцынскую, юрыдычную. А патрэба ў сучаснай, еўрапейскага ўзроўню адукацыі, у прэстыжных беларускамоўных установах будзе нарастаць. Гэта пры тым, што палітыка "мовна-языковага равенства" ў лепшым выпадку выключае дапамогу з боку ўлад, а ў горшым і саму магчымасць такой адукацыі на Беларусі.

Дык што, зноў за мяжу? Ці мо адкрыць беларускі універсітэт у Львове, Смаленску ці Вільні? І зноў "простыя людзі" будуць працейшыя, бедныя — бяднейшыя, дурныя — дурнейшыя... Аднак, здаецца мне, што ёсць тут нехта не зусім такі прастак, якім хоча прыкінуцца. Можа, вы яго ведаеце?

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

## Пленэр у Дудутках

Першы гарадскі пленэр скульптараў адбыўся ў 1989 годзе, наступны — праз год, пасля чаго наступіла працяглая паўза. Перапынак доўжыўся аж да гэтага года, каб выліцца адразу ў дзве мастацкія акцыі. У дзень, калі закрываўся чарговы гарадскі пленэр, адбылося адкрыццё Міжнароднага пленэра маладых скульптараў з удзелам Міністэрства культуры.

Месца правядзення яго выбрана надзвычай удала: гэта вядомы ўжо ў рэспубліцы Дудзічы, якім прадпрымальнік Яўген Будзінас вярнуў старажытнае найменне Дудуткі. Было штосьць сімвалічнае ў тым, што ўдзельнікі акцыі — госці з Расіі, Казахстана, Кыргызстана разам з мясцовымі калегамі перш пазнаёміцца з матэрыяльнай культурай беларускай зямлі, адчуюць, чым яна жыла і жыве, дакрануцца да яе каранёў.

Адзіны ў Беларусі недзяржаўны музей, які належыць фірме "Паліфакт", вельмі прыдатны для такога знаёмства. Колькі слоў аб перадгісторыі музея. Задумаўшы заняцца сельскай гаспадаркай і набыўшы 170 гектараў зямлі ў Пухавіцкім раёне, Я. Будзінас як пісьменнік не мог не зацікавіцца мінулым гэтай мясцовасці. Высветлілася, што яно звязана са шляхецкім, мастацка адораным родам Ельскіх.

Міхала Ельскага называлі "літоўскім Паганіні", Аляксандр быў этнографам, стваральнікам геаграфічнага атласа і музея, Казімір — скульптарам. Іх продак Юзэф Прозар, першы ўладальнік памесця, некалі прывёз сюды 20 рамеснікаў з Германіі. Мабыць, сам дух гэтай зямлі падказаў ідэю стварэння музея пад адкрытым небам (так званага скансена), дзе будуць адноўлены традыцыйныя рамёствы і побытавая культура народа.

Экскурсія ў Дудутках, як звычайна, пачалася з ветрака, перавезенага сюды з Гомельшчыны, прадоўжылася па рэштках воднага парку, які плануецца аднавіць, зрабіла перапынак ля купальскага кастрышча. Нашым гідам была кандыдат геаграфічных навук Г. Патаева, дырэктар створанай пры комплексе турыстычнай фірмы. Гаспадар, старшыня праўлення "Паліфакта", замяняў яе толькі двойчы: пры дэманстрацыі аднаго цікавага апарата з дэгустацыяй "беларускай самапальнай" і ў стаярцы. Там паглядзець было што: старажытныя чоўны, падвешаная маслабойка ў выглядзе калыскі, рэдкая прылада — "заменнік жонкі", з дапамогай якой не дужа цвярозы шляхціц знімаў боты... А ці даводзілася вам бачыць даваенныя аўтамабілі — "Жукфольксваген", "Мышаня", напаўдраўляны "членавоз" для камандавання рэйха? Усе яны рэстаўруюцца ў спецыяльнай майстэрні. Панская карэта, арлоўскія рысакі, басейн у выглядзе агромністай бочкі, паходная французская кухня часоў Напалеона — адным словам, экзотыка, адроджаная старасветчына...

На афіцыйнай частцы адкрыцця пленэра словы прывітання сказалі намеснік міністра культуры В. Гедройц, загадчык аддзела музеяў і выстаў С. Маслоўскі, сакратар праўлення Саюза мастакоў С. Гарбунова. Прысутным прадставілі рэктара Інстытута праблем культуры У. Скараходава, загадчыка кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў У. Слабодчыкава, а таксама непасрэдных апекуноў творчай моладзі — выкладчыка Аляксандра Фінскага (ён мастацкі кіраўнік) і дырэктара музея Тамару Станкевіч, на чые плечы леглі арганізацыйныя клопаты.

У адкрыцці Міжнароднага пленэра, які адбыўся згодна мемарандума аб культурным супрацоўніцтве чатырох дзяржаў, прынялі ўдзел супрацоўнікі пасольстваў Расіі, Казахстана, Кыргызстана.

Праз 20 дзён маляўнічыя куточкі сучаснага маёнтка аздобяць драўляныя скульптуры. Будзьце ўпэўнены: людзі, аб'яднаныя жаданнем жыць па-чалавечы, здольныя ацаніць прыгожае...

**НАШ КАР.**

## Памяці Варлена Бечыка

Пачаў працу Дабрадзейны літаратурна-мастацкі фонд Ларысы Кароткай, створаны ў памяць пра яе сына — пісьменніка Варлена Бечыка. Заснавальнікі фонду — выпускнікі Прылуцкай сярэдняй школы Мінскага раёна, якую ў свой час канчаў і В. Бечык.

*Даведкі па тэлефонах: 213-44-61, 264-07-20, 249-37-01.*

Разліковы рахунак N 3015100010017 у філіяле "Белбудінвест" АА "Белкамбанка", код 744.

# Клод ЖАЛІФ: "У палітычным плане час даверчага і пастаяннага дыялога яшчэ не надышоў"

### З НАДЗВЫЧАЙНЫМ І ПАЎНАМОЦНЫМ ПАСЛОМ ФРАНЦЫІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ КЛОДАМ ЖАЛІФАМ ГУТАРЫЦЬ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ

**— Спадар Пасол! 14 ліпеня Французская Рэспубліка адзначае нацыянальнае свята ў памяць пра падзеі 1789 года. Ці не маглі б Вы нагадаць нашым чытачам пра тыя далёкія і незабыўныя дні?**

— Пастаноўка вашага пытання вымагае ўдакладнення і для гэтага трэба ўспомніць падзеі, якія прывялі да ўстанаўлення Нацыянальнага свята: пасля вайны 1870 года і Парыжскай камуны ў Францыі ўсталёўваецца Рэспубліка; аднак манархістаў у Асамблеі большасць, і яны рыхтуюць вяртанне каралеўскай улады. Толькі ў часе выбараў 1876 года перамогу атрымліваюць рэспубліканскія партыі і новы рэжым канчаткова стварае свае інстытуты. Зыходзячы з гэтага, у 1880 годзе 14 ліпеня становіцца нацыянальным святам; але, каб не выклікаць вялікай незадаволенасці сярод часткі грамадскасці, закон, які яго абвяшчаў, не ўдакладняў прычыны выбару гэтай даты. Такім чынам, утварыліся два 14 ліпеня: 14 ліпеня 1789, дзень узяцця Бастыліі, які сімвалізуе паўстанне і перамогу над тыраніяй, і 14 ліпеня 1790 года, Свята Федэрацыі (прайшло ў Парыжы на Марсавым Полі, там, дзе цяпер знаходзіцца Эйфелева Вежа), якое было, у часе рэвалюцыі, адным з рэдкіх момантаў нацыянальнага адзінства розных састаўных грамадства і ў святкаванні якога прымаў удзел сам кароль, які на той час яшчэ быў на троне. Дык вось, 14 ліпеня — гэта адначасова і сімвал свабоды (1789), і сімвал адзінства (1790).

**— Ваша краіна штогод адзначае 14 ліпеня сваё нацыянальнае народнае свята. Якое ж сімвалічнае значэнне гэтай падзеі для французскага народа сёння і як гэтая дата адзначаецца ў Францыі?**

— Дзень 14 ліпеня хутка страціў свой палітычны аспект (перамога левых над правымі), які ён меў у 1880-ым. Яго зрабіла вельмі папулярным, трошкі парадаксальным чынам, тое, што, пачынаючы з першых гадоў святкавання, ён быў адзначаны правядзеннем ваеннага параду: гаворка ішла аб тым, каб падняць прэстыж французскай арміі, пасля ганебнага паражэння ў 1870 годзе ў вайне з Прусіяй, у вачах грамадскасці, якое марыла толькі аб рэваншы. Гэты каларытны і патрыятычны спектакль спадабаўся народу, і 14 ліпеня становіцца нагодай для спантаннага і забаўляльнага збору народа. У такім выглядзе ён захаваўся да нашых дзён, у ім мы пакінулі традыцыйны ваенны парад, менш за ўсё прызначаны дэманстраваць сілу, хутчэй гэта нагода паказаць усім, жывым і мірным чынам, саюз арміі і нацыі.

**— Вы з'яўляецеся першым Паслом Французскай Рэспублікі ў Беларусі. За час знаходжання на гэтай адказнай пасадзе зроблена нямала для наладжвання ўсебаковага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі. Што Вам не ў поўнай меры ўдалося здзейсніць з задуманага?**

— Ніколі нельга заставацца задаволеным у поўнай меры сваёй дзейнасцю. Але, шчыра кажучы, я не думаю, што можна было б зрабіць больш, чым было зроблена. У палітычным плане час даверчага і пастаяннага дыялога яшчэ не надышоў, але ён прыйдзе, і ўсё, што мы паспрабавалі зрабіць, гэтаму паслужыць. З пункту гледжання эканамічных і камерцыйных адносін вынік мог бы быць лепшым, але абставіны гэтаму не спрыялі; шмат патэнцыяльных партнёраў здолелі пазнаёміцца адзін з адным і дзеянні пачалі разгортвацца. Што да супрацоўніцтва ў галіне культуры і тэхнікі, дык яно надзейна заваявала сваё месца і яму спадарожнічае вялікі поспех: менавіта ў гэтай галіне ёсць значны зачын на будучае, гэта ёсць фактар збліжэння інтэлектаў.

**— Звычайна дыпламатычны пратакол не дазваляе службовым асобам падрабязна гаварыць пра факты асабістага жыцця. Але сёння, напэўна, той выпадак, калі можна трошкі адысці ад гэтага правіла. Калі ласка, раскажыце пра сябе і сваіх блізкіх.**

— Пратакол мае свае патрабаванні. Але, на шчасце, ён не накладвае поўную забарону на дэманстрацыю асабовых якасцей дыпламатаў. Сапраўды, у гэтай прафесіі складана цалкам падзяліць жыццё прафесійнае і асабістае, прыватнае. Але гэта ўяўляе і пэўныя выгоды, у прыватнасці, для жонкі, якая ўдзельнічае, больш чым пры любой іншай прафесіі, у дзейнасці свайго мужа: мая жонка, знаходзячыся заўсёды са мною ў Мінску (нашы дзеці і ўнукі жывуць у Парыжскім раёне), высока ацаніла кантакты, якія ў яе былі тут. Акрамя таго, можна паспрабаваць спалучыць асабістую дапытлівасць з афіцыйнымі інтарэсамі, напрыклад, для мяне, які любіць гісторыю, удзел у артыстычным жыцці і вывучэнне грамадства былі зусім не бескарыснымі заняткамі.

**— Вы надзвычай камунікабельны чалавек. Як Вам удаецца выклікаць давер субяседнікаў?**

— Я не ўпэўнены, што змагу адказаць на ваша пытанне, бо мне цяжка даваць ацэнку самому сабе. Але я ўпэўнены, што кожнаму чалавеку ёсць што сказаць у сваёй галіне, калі яго здолееш выслухаць. І я заўважаю, што людзі часта маюць тэндэнцыю занадта шмат гаварыць і не ўмеюць уважліва слухаць: я ж спрабую зрабіць адваротнае...

**— Адным з асноўных Вашых захапленняў з'яўляецца чытанне. Якім жанрам і творам айчынных і замежных аўтараў Вы аддаяце перавагу?**

— Гэта залежыць ад моманту і абставін. Тут я найперш чытаю творы і часопісы, што датычаць гісторыі, інтэлектуальнага жыцця ці рускай, ці беларускай рэчаіснасці, на французскай, англійскай або на рускай мовах. А, у прынцыпе, я люблю перачытваць вялікіх класікаў: Бальзака, Стэндаля, таксама Дастаеўскага і Талстога, ці яшчэ Фолкнера, амерыканскага пісьменніка, гэта не надта арыгінальна, але я люблю "адкрываць" для сябе не зусім вядомых аўтараў альбо чытаць тых, хто забыты; з другога боку, люблю знаходзіць сувязь між чалавекам і мясцінай. Ці ведаеце вы, напрыклад, што ў Нясвіжы і ў Шклове жылі, у 18-м стагоддзі, дзеячы тэатра і балета, вельмі вядомыя ў Францыі?

**— Спадар Пасол! У якой ступені за час знаходжання ў Беларусі Вам удалося спазнаць менталітэт нашага народа?**

— Нельга быць цалкам упэўненым, што разумееш менталітэт народа: нават у Францыі ў мяне здараюцца сюрпрызы! У пэўным сэнсе, тут працей зразумець, таму што грамадства больш аднароднае (нягледзячы на ўсе падзелы), менш разгрупаванае, і яшчэ таму, што сур'ёзныя праблемы настолькі відавочныя, што засланяюць сабою ўсе астатнія. З другога боку, ясна, што іншаземец застаецца заўсёды крыху па-за рэальным мясцовым жыццём. Тым не менш, нягледзячы на ўсе бар'еры, у мяне складваецца ўражанне, што я досыць лёгка ўваходжу ў гармонію са сваімі суразмоўнікамі.

**— За 5 гадоў знаходжання ў Рэспубліцы Беларусь Вы сустракаліся з рознымі людзьмі. Якая з сустрэч памятная для Вас?**

— Найбольшыя ўражанні застаюцца ад першых сустрэч. У мяне гэта адбылося ў Парыжы, у красавіку 1992 года, яшчэ да майго прыезду ў Беларусь, калі я ўдзельнічаў у правядзенні афіцыйнага візіту Старшыні Вярхоўнага Савета ў Францыю. Дэлегацыя, на чале са спадаром Станіславам Шушкевічам, складалася таксама з Пятра Краўчанкі, Ніла Гілевіча, Ніны Мазай... Гэта было для мяне лепшым магчымым пачаткам дзейнасці! Але я не забуду таксама і тое, што я быў першым паслом, што займаў пасаду ў Мінску, які нанёс візіт будучаму першаму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь...

**— З Вашага гледзішча, якія найбольшыя дасягненні ў галіне развіцця беларуска-французскіх адносін? Што садзейнічае і што замінае іх развіццю?**

— Самай большай перашкодай з'яўляецца, вядома ж, розніца ў палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай эвалюцыі, і спатрэбіцца яшчэ шмат часу, каб яе пераадолець. З другога боку, існуе пэўнае падабенства між нашымі дзвюма краінамі, якое магло б аблегчыць задачу: яны аднолькава шануюць культурныя каштоўнасці, прызнаюць адносна важную ролю дзяржавы, маюць падобныя гістарычныя кропкі адліку. Таму я не песіміст, што датычыць аддаленай і не вельмі аддаленай перспектывы.

**— Якія прыярытэтныя накірункі супрацоўніцтва паміж Французскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь Вы бачыце ў перспектыве?**

— Усё будзе залежыць ад зыходу пачатага дыялога, у форме "круглага стала", паміж уладай і апазіцыяй, пад эгідай Еўрапейскага Саюза. У інтарэсах усяго свету, каб гэты дыялог адбыўся, і кожны з бакоў павінен усвядоміць, што ён павінен згаджацца на кампрамісы і як мага хутчэй! Што да асаблівага ўкладу Францыі, дык я хацеў бы характарызаваць яго наступным чынам: паказаць, што краіна можа развівацца адначасова з усім астатнім светам, з пункту гледжання палітычнага і эканамічнага, захоўваючы, нават калі гэта не заўсёды лёгка, сваё "аблічча" і пэўныя адрознасці.

**— Спадар Пасол! Дазвольце павіншаваць Вас з Нацыянальным святам Францыі і ад імя рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выказаць Вам удзячнасць за велізарную Вашу працу дзеля развіцця і ўмацавання беларуска-французскіх адносін. Поспехаў і ўдач Вам у далейшай дыпламатычнай дзейнасці ў Францыі! Дзякую за дадзенае нам інтэрв'ю.**

**З Паслом гутарыў Ігар КУЗНЯЦОЎ**




# Чацвёрты "пераварот"

Памятаеце кінакамедыю "Вяселле ў Малінаўцы" і таго селяніна-прыстасаванца, што ўмеў усім дагаджаць? Калі ў вёску прыходзілі чырвоныя — надзяваў будзёнаўку з вялікай зоркай, калі махноўцы ці яшчэ якія белыя — нацягваў на галаву казацкую шапку з кутасом. Нешта падобнае назіраецца і ў Слуцкім кінапракаце. Гадоў пяць таму, калі ўсім нам напомнілі пра павагу да роднай мовы, гарадскія ўлады далі дазвол на тое, каб рэклама фільмаў у кінатэатры "Беларусь" пісалася па-беларуску, а ў другім — "Цэнтральны" — заставалася рускамоўнай. Пазней апошні закрылі: кінатэатр стаў стратным, там абсталявалі дыскатэку, адкрылі бар. Летась з ведама дырэкцыі кінапракату рэкламу ў "Беларусі" зноў зрабілі рускамоўнай: маўляў, гледачы не разумеюць назваў фільмаў і таму не ходзяць у кінатэатр, ён не выконвае план. І гэта ў горадзе, дзе звыш 80 працэнтаў жыхароў — беларусы! Сябры таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны запратэставалі, умяшаўся першы намеснік старшыні гарвыканкама Валянцін Сітнік, і "Беларусі" вярнулі ранейшую рэкламу з дубляжом на рускай мове — у рамках дзяржаўнага двухмоўя.

Ды не доўга, як кажуць, музыка іграла. Быццам адчуўшы, куды пасля апошняга рэферэндуму падзьмуў "вецер", адміністрацыя кінапракату ў чацвёрты раз вярнула "Беларусі" рускамоўную рэкламу. А ніжэй, "мелким почерком" — на беларускай, падчас з грубымі памылкамі. На званок аднаго з работнікаў гарадскога аддзела культуры ў Мінскае абласное ўпраўленне кінапракату з запытаннем, чаму так часта ў Слуцку рэклама хіліцца ў бок русіфікацыі, там адказалі, што памылкі не бачаць, усё ў норме, расійскія фільмы павінны рэкламавацца на рускай мове, беларускія— адпаведна.

Але ж фільмы вытворчасці студыі "Беларусьфільм" рэдка паяўляюцца на экране, спрэс ідуць стужкі замежныя, пераважна амерыканскія: эротыка, баевікі, фантастыка. Перакласці іх назвы з рускай на беларускую мову не праблема. Так што моўныя рэверансы з кінарэкламай — не ад цяжкасцей з перакладам, а ад непавагі, грэбавання роднай мовай, ад псіхалогіі паслугачоў і прыстасаванцаў.

**М. ТЫЧЫНА**

*г. Слуцк*

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ



ЯК *СУГУЧНА* лермантаўскае *мінулае* майму *сучаснаму*: "Люблю отчизну я, но странною любовью..."

Паўтара стагоддзя прамільгнула ў вечнасці, а разгадкі гэтай "*странности*" ўсё няма. І нічога новага не сказана, апроч сказанага: "Но я люблю — за что, не знаю сам..."

●

Спрадвеку Расія як бы *сімвалізавалася* Іванамі, а Беларусь — Янкамі...

Але сёння — прыслухайцеся, пачытайце — Іваны засталіся, — а — Янкі? Пасля Купалы — як вымерлі...

Бадай, адзін Брыль ад іх застаўся — Іван Антонавіч...

●

У рукапісе літаратар пазнаецца больш поўна, чым у адрэдагаванай і выдадзенай кніжцы.

*Тут* ён — яшчэ сам па сабе, а *там* — ужо разам з усімі...

●

Многія з нас усё яшчэ мрояць пра *славу* — хто ціхма на адзіноце, хто галосна ў адкрытую...

А нехта ж напісаў "Слова пра паход Ігаравы" — і не ма́е *яе*...

●

Жанчына дае, забіраючы... Мужчына бярэ, пакідаючы...

●

Сённяшні чалавек *не змесціцца* ў пірамідзе Хеопса, бо ўсе егіпецкія піраміды ўжо *змешчаны* ў ім, як уся *прамінулая* культура — у *сучаснай*...

●

Усё менш страху перад *Богам*. Усё больш страху перад *чалавекам*...

●

Дарэмна мама мая перавезла сваю маці (маю дзевяностагадовую бабулю) да сябе. Яна ў нашай хаце хутка сканае...

Не хацелася ёй гэтага пераезду, хоць і спачувала дачцэ, якой штодня трэба было бегаць да яе праз усю вёску — нацепліць хату, карміць, прыглядаць...

Яе маленькая, квадратная, але чысценькая, відная да кожнага куточка, да глянцу выбеленай столі, хатка — светлая і ціхая, бы *капліцка*... Больш за сорак гадоў, хворая ці акрыяўшая, яна там была *адна*...

Але адзін чалавек доўга быць не можа. Калі не прыходзіць іншы чалавек, калі не йдуць людзі — прыходзіць Гасподзь...

Мне здаецца, што адразу Ён стаў прыходзіць сюды, да яе, ноччу, а пасля, упэўніўшыся ў яе даверы і адзіноце, — прыйшоў назаўсёды...

Вось чаму яна не хацела пераходзіць і не хоча жыць у нашай хаце — яна баіцца пакінуць *свайго* Бога ў *адзіноце*...

●

Крыўдаваць на крытыку, тым больш літаратурную, абсурдна. Усё мае сваё прызначэнне.

І нельга патрабаваць ад нажа, скажам, склейкі рэчаў, якія ён разразае. Гарэлка не цвярэзіць, а — хмеліць...

Крытык апелюе да твора і твор *выдае* свайго аўтара. Аўтар не прызнае *абазнанае* і —крыўдуе...

●

...адно з двух: альбо ў нас ёсць філасофія, альбо ў нас няма Акудовіча...

●

Навучыцеся пагаджацца і падтакваць і вас будуць *любіць*. За што? За тое, што пагаджаецеся і падтакваеце...

●

Бывае, што апранутая жанчына больш *уражвае*, чым распранутая... Аднак, не трэба забываць, што само *ўражанне* залежыць ад мужчыны, а не наадварот...

●

Кожны пісьменнік *варты* сваіх твораў і не больш таго...

●

Едучы на працу, зайшоў у метро. Нечакана адчуў сябе блага. Сэрца асунулася, патухла ў вачах, ногі паслаблі... Прысеў, праглынуў таблетку валяр'янкі, якія заўжды маю пры сабе — на ўсякі выпадак... Патрохі супакоіўся....

Бачу — шыбуе па платформе, проста на мяне, Алесь Наварыч. Селі ў перадапошні вагон. Гамонім напаўголаса. Дзеліцца са мной сваёй чалавечай радасцю: усё-ткі атрымаў ордэр на чатырохпакаёвую кватэру ў Малінаўцы... На станцыі "Чэлюскінцаў" цягнік чамусьці спыняецца, толькі напалову выйшаўшы з тунеля... Што такое? Аварыя? Цішыня... І — ратам — шум, гам... Далей — страшней. Машыніст набягу адчыняе ўнутраныя дзверы вагонаў, каб выходзілі з задніх праз пярэднія. Выходзім, прадчуваючы нядобрае. На самой станцыі — нечалавечы крык і нямы жах на тварах пасажыраў...

Паміж першым вагонам і платформай па пояс заціснуты маладзенькі хлопец.... Вочы вылузваюцца з вачніц, просіць літасці, крычыць жывёльным голасам... Усе — разгубленыя і спустошаныя... Чым і як памагчы?! Міжволі адварочваешся — глядзець страшна, немагчыма... Вызваліць яго можна толькі адвярнуўшы вагон. Гэта няхутка і праблематычна. Хлопец, можна сказаць, *жывы нябожчык*... Пакуль жывы — ён крычыць!.. Прабач, прабач, прабач, калі можаш, чалавеча! Божа, злітуйся над ім... Трэба хутчэй сыходзіць з гэтага гіблага месца, пакуль дарэшты не здалі нервы... Куды? Чалавек жа — крычыць! Ад сябе не сыдзеш...

Нарэшце ўсё ж выходзім з метро і, здаецца, перастаём чуць той жудасны нечалавечы крык... Аднак, гэта не так: *унутры нас* чалавек крычыць да нас!

На працу валакуся пешшу. Ногі падгінаюцца ад напружання. Думаецца рознае, але ўсё прыцягальнае да таго, *што там*, да крыку таго...

Чамусьці ўспамінаецца рубцоўскае:

***Поезд мчался с полным напряженьем***
***Мощных сил, уму непостижимых,***
***Перед самым, может быть, крушеньем,***
***Посреди миров несокрушимых.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Вот он, глазом огненным сверкая,***
***Вылетает... Дай дорогу, пеший!***
***На разъезде где-то, у сарая,***
***Подхватил меня, понес, как леший!***

***Вместе с ним и я в просторе мглистом***
***Уж не смею мыслить о покое, —***
***Мчусь куда-то с лязганьем и свистом,***
***Мчусь куда-то с грохотом и воем...***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Перед самым, может быть, крушеньем***
***Я кричу кому-то: "До свиданья!.."***
***Но довольно! Быстрое движенье***
***Все смелее в мире год от году,***
***И какое может быть крушенье,***
***Если столько в поезде народу?***

Ах, Мікалай Міхайлавіч, Мікалай Міхайлавіч... Яшчэ як бывае.

Чуеце — чалавек крычыць?! І — другі, і — трэці... І сам я крычу таксама, хоць ведаю, што ніхто нічым ужо не дапаможа мне ў гэтым драматычным чалавечым жыцці...

Заціснуты між быццём і бытам, радасцю і нягодамі, днём і ноччу, святлом і цемрай... — крычыць чалавек... Каму?! Да каго?..

●

Паэзія як бы выветрылася з жыцця, так, як выветрываецца свежы пах вясновага гною ў гародзе...

Пасля — любуемся кветам, смакуем плады, ужо не памятаючы таго паху...

Зіма... І ў хлявах шчыльна зачынены дзверы...

●

— Я люблю Стральцова.
— І я люблю...
— І я...
— Мы любім Стральцова.

А я вось не люблю. Навошта яму, *нябожчыку*, мая запозненая любоў?..

Я — у пэўным сэнсе — *перажываю* Стральцова і, магчыма, што нават перажыву...

●

Калі разумнага абзавеш дурнем — ён задумваецца... Калі ж дурнем назавеш дурнога — той адразу рэагуе...

●

Паэзія не ёсць старая ці новая, старажытная ці сучасная. Паэзія нязменная ад таго часу як яна ўзнікла.

Змяняюцца сінтаксіс, марфалогія, арфаграфія і на́шае ўспрыманне паэзіі. Не чалавек *абнаўляе* паэзію, а паэзія абнаўляе чалавека...

Хіба абрады народзінаў і пахавання штосьці істотнае мяняюць у саміх народзінах і смерці чалавека?..

●

Тэлеперадача па ГРТ пра Іосіфа Бродскага.

Успамінамі дзеліцца Яўген Рэйн: "...и вот в чем парадокс: его, великого труженика, судят за тунеядство!"

Выключаю *с омерзением* тэлевізар. Калі пра паэта людзям кажуць, што той быў вялікі працаўнік, без усякага тлумачэння, тым больш, калі гэта кажа таксама паэт, то мне — паэту-лайдаку, хочацца аднаго: каб ніхто з маіх блізкіх і знаёмых не пачуў тых Рэйнавых слоў, і не палічыў Бродскага, Рэйна... мяне, а — найгорш — самога сябе за ідыётаў...

●

Найбольш шчырае — самае інтымнае.

Да прыкладу, наколькі палярныя, настолькі і блізкія — секс і споведзь... Тут *не схлусіш* чалавеку, які табе *даверыўся*. Іначай — які секс і якая споведзь?!

●

Я ўсё хачу спасцігнуць гармонію ў каханні. Аднак пакуль адчуваю пэўную раздвоенасць. Вобразна кажучы, жыве ўва мне і бунінскі Міця з яго рамантычнай пакутнасцю, і мележаўскі Васіль з яго ўтравелай прыземленасцю...

Ноччу — я пакуль яшчэ *мройлівы* Міця, днём — ужо *непапраўны* Васіль...

"Сена на асфальце" — вось і ўся мая гармонія...

●

Усё сваё жыццё я многа чытаў і пакуль яшчэ чытаю. Але незваротна слабее зрок, з кожным днём усё адчувальней. Ужо не магу чытаць газет аддрукаваных дробным шрыфтам. Нават у акулярах.

Уся *слепата* наша — менавіта ад чытання *штодзённых газет*...

●

У рэдакцыю зайшла маладая жанчына гадоў трыццаці. Яшчэ — ва ўсім! Прыехала з Віцебска, каб толькі пабачыцца з паэтам Дранько-Майсюком. Па памяці чытае мне вытрымкі з яго вандроўных эсэ, вершы, строфы, радкі...

Прызнаецца, што *закаханая* да нельга.

Пытаецца: ці знаёмы я з паэтам асабіста, ці ведаю, ці бачыў на вочы гэтую яго А.?

— Мабыць, вельмі прыгожая?

"Ды, не, — кажу, — яе ўвогуле фізічна як бы не існуе. Гэта своеасаблівы паэтычны вобраз жанчыны-каханкі..."

— Праўда?!

Якая яна *была шчаслівая*, Лёня!..

●

Сталы чалавек з правінцыі дасылае мне свае вершы. Дзіцячыя, прымітыўныя, недасканалыя, але — шчырыя...

Мне нашмат цікавей чытаць ягоныя лісты. І перапісваюся я з ім, і бесперспектыўна кансультую яго толькі з-за адной фразы з яго ліста: мусіць, *паэзія* — гэта в ы н і к  м і н у л а г а...

●

Зайшоў у рэдакцыю Сыс. Выцвеœражаны. Выветраны. Паголены. Чыста апрануты...

Гамонім праз пень-калоду... Больш маўчым... Палім... П'ём гарбату...

Кажу яму: давай, Толя, зробім з табой гутарку, ды дадзім нарэшце ў "Крыніцы" тваю неардынарную "постаць"...

Іранічна-змрочна фыркае: якая "постаць" (з агідай да сябе), якая гутарка, пра што?.. Пра мае запоі ды вычварэнні?..

Ды, не, кажу, навошта пра непатрэбшчыну... Пра літаратуру, пра паэзію паразважаем на сваім узроўні...

— Што я табе скажу пра літаратуру? Я пра яе анічога не ведаю...

...Пайшоў... Пакінуўшы мне на роздум нейкае ідыёцкае адчуванне...

Уся трагедыя чалавека — у СЛОВЕ.

●

Акудовіч — бяспрэчна разумны. Шкада, што не для ўсіх...

●

Цяжка пісаць пра людзей нават блізкіх табе, паколькі ты іх дасканала не ведаеш, як бы не ствараў ілюзію свайго ведання...

Намнога прасцей пісаць пра сябе, хоць і тут узнікаюць нюансы і непаразуменні. Непаразуменні, але ўжо з тым, *што́* ты пра сябе *ведаеш*...

●

Заявіўся ў рэдакцыю пасля дзесяцімесячнай адсідкі Славамір Адамовіч. Атрымаць ганарар за свае артыкулы, што друкаваліся ў нас на працягу згаданай пары.

Гаманілі нядоўга і нейк аднаскладна. Адчувалася пэўная няёмкасць з абодвух бакоў. Я папрасіў вершаў. "Няма. Магу толькі напісаць па памяці для рубрыкі "Я маю твор..." рускамоўнае чатырохрадкоўе. Пісаў у каталажцы..."

Забег Уладзя Арлоў, на хаду прыгрэўшы на грудзях апальнага паэта. Дастаў з сумкі, у якой заўжды знаходзіцца нешта вартае для любой сітуацыі, два аранжавыя апельсіны...

Калі Уладзя сышоў, Славамір паклаў адзін аранжавік у сваю торбу, другі — абабраў і, раздзяліўшы на дзве паловы, абсалютна інстынктыўна і шчыра, адну працягнуў мне... Развітаўся паспешна: трэба на вакзал, едзе да бацькоў...

Гэта быў ужо трохі іншы Адамовіч, чым той, якога я ведаў. Чуйны, чуллівы, сцішаны сам у сабе, падкантрольны сам сабе псіхалагічна і разумова... Выверaны і лаканічны ў словах, рухах, ашчадны да свайго й чужога часу...

У сувязі з апельсінам, я думаю, у яго адбылося міжвольнае "самазняволенне": *адзінае* рэдакцыйнае акно было *закратаваным* і напалову зашторaным, а ў *дзённым паўзмроку квадратнага пакоя пад столлю гарэла святло*... А тут яшчэ — нечаканая *перадача* ад Арлова... Ну, і — само сабою — *дзяльба з сукамернікам*, са мною, значыць....

Апельсін — салодкі, прастора — геаметрычная, чалавек — часовы, жыццё — вечнае...

Што ж, як казаў Лынькоў: дзярзай, уюнаша!..

●

Паказваю назаўтра Алесю Разанаву тое рускамоўнае чатырохрадкоўе Славаміра Адамовіча.

Чытае звычна, рэзюмуе нечакана: "Лірычны стишок... *камерны*..."

●

Міжволі, парушыўшы прынятыя беларускія літаратурныя норавы, я стварыў прэцэдэнт: назваў адкрытым тэкстам, яшчэ даў Бог, жывога і творча квітнеючага, Алеся Разанава *геніем*...

Як з мяне кпілі! Нават сам *абазваны*...

Аднак мінуўся пэўны час і сітуацыя пачала набываць класічны характар развіцця... Пачаўся матэматычны, аналітычны і практычны доказ, агалошанай мною, тэорыі...

Філосаф Акудовіч нарэшце прылюдна прызнаў геніяльным левае вуха Разанава (ці — правае, дакладна не памятаю)... Прычым прызнаў тое безапеляцыйна. Мяркую, неўзабаве нехта прызнае гэткім жа і астатняе вуха. Ну, а там, калі чарга дойдзе да рук, асабліва да правай, пішучай, то прэцэдэнту будзе абвешчаны поўны і канчатковы давер...

Карацей, будзе прынята па частках тое, што было мною абвешчана цалкам і адразу...

Таму ў некаторых жыццёвых дробязях трэба — хоч-не-хоч — прызнаць і мой прыватны геній ці хоць бы прарочы голас...

●

Часам людзі без адчування гумару і іроніі ставяць мяне ў тупік. Да прыкладу, рассыпаешся ад жа няёмкасці кампліментамі ў адрас ужо абцёрханай жыццём жанчыны, і — раптам — *бачыш*, што яна *верыць*!..

(Працяг на стар. 14—15)

## Працягвае выходзіць

**асветніцкі дадатак да "Настаўніцкай газеты" "Айчына", публікацыі якога маюць адраджэнскі характар, садзейнічаюць паглыбленню ведаў чытача па пытаннях нацыянальнай гісторыі, літаратуры, культуры, росту нацыянальнай свядомасці. У чарговым выпуску "Айчыны" гэты накірунак прадоўжаны.**

**"Жыві і помні, хто ты" — артыкул А. Ляднёвай, у якім расказваецца пра справы беларусаў, якія, жывучы ў ЗША, Канадзе і Аўстраліі, не забываюць пра сваю нацыянальную прыналежнасць. Філасофскія ўяўленні нашых продкаў асэнсоўвае У. Кісялёў ("Споведзь сівой мінуўшчыны"). А. Г. Курыловіч ("Як стваралася сям'я беларусаў") закранае традыцыі беларускай сям'і... І. Кулікоўскіх рэцэнзуе кнігу Э. Дубянецкага "Таямніцы народнай душы". У. Клімовіч прапануе падборку развагі "Нясвіжскія сны". Ёсць у выпуску артыкул, прысвечаны творчасці Я. Купалы для дзяцей — "Застанецца ў стагоддзях", канспект гульні-віктарыны "Любоў мая — Беларусь!", шэраг іншых цікавых матэрыялаў.**

## Некалькі старонак драматургіі

**Яшчэ ў 1994 годзе рэдакцыя тагачаснага часопіса "Тэатральная Беларусь" (з канца 1995-га выходзіць пад назвай "Тэатральная творчасць") сумесна з Рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіяй Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь заснавалі альманах "Беларуская драматургія". Нядаўна ў выдавецтве "Беларуская навука" з'явіўся яго трэці выпуск (укладанне Вацлава Валадзько і Анатоля Сабалеўскага, прадмова "Працягваючы знаёмства" Анатоля Сабалеўскага).**

**Альманах адкрываецца апошняй драмай народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава "Осцей — Альгердаў унук", якую сам аўтар незадоўга перад заўчаснай смерцю паспеў перадаць рэдкалегіі "Беларускай драматургіі". Іван Гаўрылавіч у гэтым творы асэнсоўвае адну са старонак нацыянальнай гісторыі, на жаль, і па сённяшні дзень малавядомую. Падзеі адбываюцца ў 1382 годзе. І ў Бранску, што ўваходзіў тады ў Вялікае княства Літоўскае, і ў Маскве. Як вядома, за два гады да гэтага была Кулікоўская бітва, а цяпер горад аблажылі ардынцы. Цяжка сказаць, як бы складаліся падзеі далей, калі б ратаваць горад узяўся амаль невядомы князь Осцей...**

**Не навічок у драматургіі і Галіна Багданава. Яна паспела ўжо апублікаваць у часопісе "Тэатральная Беларусь" містычную феерыю "Рамантычнае падарожжа на той свет". Гэтым разам Г. Багданава прадстаўлена "абсурдам у стылі посткамунізму" пад назвай "АС-лінія" — п'есай надзіва сучаснай і вострай па пастаноўцы праблем і іх вырашэнню.**

**Міхась Стрыжоў — вядомы дзеяч самадзейнага тэатра Беларусі. Першай яго спробай у галіне драматургіі стала "трансфармацыя" ў дзвюх дзеях "Апавядання пра мерцвяка" А. Упіта — "Магілкі... ноч месяцовая..." Як сведчыць А. Сабалеўскі, "напачатку п'еса вельмі нагадвае драму жахаў, у яе рэальны і ірэальны свет уваходзіш не без цяжкасцяў. Дзеянне адбываецца ў адным месцы — на могілках", але, працягвае аўтар прадмовы, "з развіццём падзей агульная карціна мяняецца: ад змрочных да больш светлых таноў. І становіцца зразумелым, што перад намі не драма жахаў, мэта якой — пакаштаваць нервы, даць чытачам ці гледачам вострыя адчуванні. Твор "Магілкі... ноч месяцовая", нягледзячы на пэўную экстравагантнасць, па жанры бліжэй да псіхалагічнай драмы з яе этычна-маральнымі ўрокамі".**

**Вернута з небыцця п'еса Міколы Ільінскага "Лёс цёмны" (публікацыя і падрыхтоўка тэксту да друку Алеся Марціновіча). Імя гэтага драматурга мала што гаворыць сучаснаму чытачу і гледачу. Ды і яго творчая спадчына далёка не адназначная. Да ўсяго М. Ільінскі належаў да тых, хто сам, пакрыўджаны, па сутнасці ствараў "ворагаў" народа. Але гісторыю, у тым ліку і гісторыю літаратуры, не перапішаш. П'еса "Лес цёмны" — адзін з лепшых твораў гэтага драматурга. Спектакль па ёй быў пастаўлены ў 1926 годзе тагачасным Першым беларускім тэатрам.**

**Завяршае трэці выпуск "Беларускай драматургіі" знакаміты "Рычард III" (пераклад і сцэнічная рэдакцыя Аляксея Дударава).**

**В. ЗУШЧЫК**

# Па слядах мастака

## ЗГАДКІ ПРА АНАТОЛЯ ВЯЛЮГІНА, АБУДЖАНЫЯ ЯГО АПОШНЯЙ КНІГАЙ

Перада мной на стале апошняя кніга паэта, майго незабыўнага баявога сябра Анатоля Сцяпанавіча Вялюгіна "Заклён на скрутны вір". Уважліва перачытваю яе, спыняюся, задумваюся не толькі над асобнымі вершамі — над кожным радком, які прыцягвае ўвагу. Тут што ні радок — то вобраз, адкрыццё ў паэзіі новых думак, пачуццяў і — галоўнае — высокага паэтычнага майстэрства. Такой філіграннасці, дакладнасці, чаканнасці рытму, важкасці слова, калі нельга пераставіць альбо замяніць яго якім-небудзь іншым, дасягае не кожны паэт.

У Анатоля Вялюгіна гэтыя рысы заўважаліся на працягу ўсёй яго творчасці, пазтычнай працы ад першых да апошніх дзён. Яго майстэрству, вобразнаму мысленню мог і мова пазайздросціць не адзін сталы ці малады паэт. Толькі ў гэтай справе, як адначы заўважыў у размове з маладым аўтарам Максім Танк, "не зайздросціць трэба, а злаваць, добрай зайздроснай злосцю: каб ты мог напісаць не горш за сябра".

Для мяне асабіста Анатоль Вялюгін быў і застаецца не толькі лепшым сябрам, а і настаўнікам, дарадцам. Многія з нас лічылі і лічаць сябе яго вучнямі, выхаванцамі, успамінаюць і доўга яшчэ будуць помніць яго па сумеснай літаратурнай працы ў часопісе "Полымя", у выдавецтвах, калі ён рэдагаваў рукапісы іншых аўтараў, паэтычныя творы сваіх сяброў па цэху.

Гартаю старонку за старонкай кнігу "Заклён...". Сярод многіх твораў зборніка вылучаецца "Паэма любові". У сталым ужо ўзросце лірычны герой прыгадвае сваё маленства, свае юнацкія гады, маладосць. Ідучы неабсяжнымі прасторамі роднага краю, ён "ад першай радоўкі чытае да сённяшніх дзён родных ніў і світанняў хвалюючы мудры буквар".

У самых першых радках гэтай паэмы выказваецца шчырая аўтарская думка: якой бы ні была родная зямля, якое б яна ні перажыла гора, напасце, пад якой зоркай ні знаходзілася б — горкага палыну ці шчаслівай Вегі, — для яе заўсёды застаецца паэт верным сынам:

***Беларусь —***
***мая маці і мова,***
***паветра і хлеб.***
***Гэта ўзважана сэрцам***
***на нервах расстайных дарог.***
***Гэта — роду прысяга,***
***патрэба заўсёдных патрэб***
***і надзея надзей***
***у трывозе адвечных трывог.***

"Беларусь — мая мова і хлеб" — гэтыя словы рэфрэнам праходзяць праз увесь твор, як чырвоная нітка праз бялюткі ручнік, сатканы і вышыты матчынай рукой. І як гэта ярка, зітавана ўплятаецца ў тканіну, на якую "зара цякла", якая стала сцягам Айчыны:

***Сёння думкі галубім усе:***
***каб крывінка мая***
***у чырвонай палосцы была.***

У гэтым вобразе, на мой погляд, выказаны думкі і пачуцці многіх людзей аб сімвалах роднай зямлі. А ў многіх іншых радках паэмы думкі і развагі, выказаныя надта вобразна і метафарычна пра гісторыю роднай краіны, яе векавыя карані.

Пра кнігу "Заклён на скрутны вір" амаль ніхто яшчэ не пісаў з нашых літаратурных крытыкаў. Можна проста здзівіцца з іх маўчанкі. Але паэты — тыя, хто ведае і любіць сапраўдную паэзію, не маглі прайсці міма зборніка вершаў Анатоля Вялюгіна, які выйшаў неўзабаве пасля яго заўчаснай смерці. Зусім нядаўна пра гэты зборнік сказаў сваё слова Алесь Пісьмянкоў у артыкуле-эсэ "Думаць вершы", змешчаным у "ЛіМе". Гаворачы пра вялюгінскую лірыку апошніх гадоў, ён прызнаецца: "Смакую адметную, уласцівую толькі яму лексіку: частазвон, сонцавей, шугавей, вогнік, хмарачос, харашунчык, яго даверліва прыжмуранае вока: "Ану, пшанічны вус, чытані!"

Так, сапраўды, пасядзець, пагутарыць з Вялюгіным было для кожнага яго сябра і чытача проста радаснай з'явай. Ён ведаў усё і пра ўсё. Гэта была, як кажуць, хадзячая энцыклапедыя. Да Вялюгіна як да паэта і рэдактара ўважліва прыслухоўваўся кожны, хто прыходзіў да яго дамоў ці на працу. Ён дапамагаў усім, чым мог, найбольш сваім эрудзіраваным словам, парадай і майстэрствам, умельствам працаваць над словам. Што ж датычыць яго паэзіі, то, на маю думку, у ёй перамежаваліся і цесна спляліся тры рысы: пластыка, гарманічнасць і раўнавага, у якіх вырысоўваюцца яскрава ясная думка і яркі, запамінальны на ўсё жыццё вобраз. Вось некалькі радкоў з розных вершаў:

***У блакіце, выспелым ад спёкі,***
***лесавых аблок архітэктура.***

*("Вясна трывогі нашай")*

# Час паэзіі

## БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ЎЗВЫШЭНСТВА 20-Х ГАДОЎ: ГІСТОРЫЯ СТАНАЎЛЕННЯ

Новай хадой — больш упэўненай і рашучай у параўнанні з "нашаніўскім" перыядам — крочыла беларуская літаратура 20-х гадоў.

Нацыянальна-культурнае адраджэнне абуджала да мастацтва шыхты маладых творцаў, якім адкрываліся новыя перспектывы і незацемненыя далягляды. У 1925 г. літаратурную заквецЬ аб'ядноў "Маладняк". Найперш ранняму "Маладняку" належыць пачатак глабальнай распрацоўкі паэтычнай метафарычнасці, разняволенай вобразнасці і неўтаймоўнай фарматворчасці.

У "Маладняку" паступова і "выспела" ідэя мастацка-літаратурнага ўзвышша. Так, у "маладнякоўскай" рэцэнзіі на зборнік вершаў А. Александровіча "Па беларускім бруку" "Смела ўперад дружным спевам..." У. Гайдуковіч (псеўданім Уладзіміра Дубоўкі), вымалёўваючы вобраз паэта як змагара-будаўніка, называе-прарочыць новае мастацкае паняцце: "Добра ведаючы тэхніку паэтычнае творчасці..." Андрэй Александровіч стаў на правілавы шлях, які прывядзе яго да **літаратурнага ўзвышша** (вылучана намі. — **А. П.**)". Пазней у артыкуле "Узвышэнская паэзія (Аналіз паняцця)" А. Бабарэка напіша: "Паняцце ўзвышэнскае паэзіі як ідэі "." з'явілася ў асяроддзі "Маладняка", яно ўласна прадукт маладнякізму, стаўшы адмаўленнем той формы, у якой яно нарадзілася і вырасла да самаўсведамлення". Узвышаўская (ад назвы літаратурнага згуртавання "Узвышша") паэзія, на думку А. Бабарэкі, адлюстроўвала супярэчнасць паміж мастацка-літаратурнымі сіламі і тымі формамі літаратурна-грамадскага быцця, у якіх яны выспелі для самастойнай творчасці, супярэчнасць, якая ўрэшце і прывяла "Маладняк" да распаду і ператварэння ў заангажаваную БелАПП. Узвышаўскі крытык-ідэолаг адзначаў нават знешнія падсвядомыя імпульсы новай мастацкай плыні: "Звярніце ўвагу, — пісаў ён, — нават на назву лістовак ды зборнікаў, якія таксама адлюстроўваюць гэта **імкненне да ўзвышэння** (вылучана намі. — **А. П.**) ("Сталёвы ўзлёт", "Усплёскі", "Уздым", "Росквіт", "Угрунь", "Вежа" і г.д.)".

"Маладняк" узнік у 1923 г., і ўжо ў 1923г. А. Бабарэка вядзе размову з Я. Пушчам аб сінтэзе ў літаратуры і вітаізме, што будуць — пашыраныя ў эстэтычным плане — праз тры-чатыры гады пракламавацца як устоі новай эстэтыкі згуртавання "Узвышша".

Увогуле, і літаратурную суполку "Узвышша", і яе аднайменны часопіс можна лічыць пераемнікамі літаб'яднання "Маладняк". "Маладняк" быў улонием, у якім выспявалі ідэі ўзвышэнства. Але гэта было такое матчына ўлонне, якое выштурхоўвала ў творчы шлях сваю крэўнасць, адносячыся да яе не як да сыноў, а як да пасынкаў. Маці абарочвалася мачыхай, пры ёй заставаліся тыя гадаванцы, што сваім учарашнім братам-аднадумцам шчаслівай дарогі не зычылі.

З N 11 (2) за 1926 г. "Маладняк" стаў "часопісцю ЦК КПБ(б) і ЦК ЛКСМБ", на гэты ж час прыпалі ўспышкі найбольшых рознагалоссяў у аб'яднанні — як па ўласналітаратурных пытаннях, так і грамадска-палітычных. Калі адны з маладнякоўцаў вобразна сцвярджалі, што "вясна маячыць, // неба-дах каласіць васількамі" (М. Дубовік, з верша "Хай восень сумуе"), калі яны імкнуліся "запрасіць у госці зоры" (Я. Пушча, з верша "Спаткаем усе мы долю"), а іх душой апаноўваў парнаска-ўзнёслы настрой, якія натхняў на прызнанні кшталту "Я з сонцам палячу ў прыгожа-светлы вырай, // І заззвіняць душы маёй калоссі хорам" (Я. Тумiловіч, з верша "Мая каліна"), калі яны на ўвесь голас заяўлялі: "Краса! Краса! Табе мой спеў" (А. Моркаўка) і хацелі "ўзяць з ёй" "свавольны шлюб" (Я. Пушча, з верша "Ой ты, краса..."), прадстаўнікі другога маладнякоўскага "крыла" называлі гэта "не зусім здаровым ухілам у бок мяшчанскага эстэтызму", лічачы, што, да прыкладу, "вершы Пушчы "..." можна збольшага аднесці да таго гатунку паэзіі, які мы звыклі называць літаратурнымі прысмакамі...", і што "паэзія, ізаляваная ад жыцця, робіцца прыгожаю дрындушкаю, якая не пакідае ніякага следу ў свядомасці чытача і ў яго эмацыянальных перажываннях".

26 траўня 1926 г. адбыўся ўстаноўчы сход новага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша". Пра яго ўтварэнне паведамляў здвоены сшытак "Маладняка" (NN 7—8), незвычайна бедны на мастацкую літаратуру (большую частку ў ім заняў "грамадска-палітычны аддзел" з артыкуламі "Камсамол Беларусі за працай" і "Сутнасць дзіцячага камуністычнага руху"). Не пашырылі паэтычных даляглядаў і далейшыя "збяднелыя" нумары "Маладняка", хоць у артыкуле "Аб фальшы камертонаў" Тодар Глыбоцкі (адзін з псеўданімаў А. Дайлідовіча), выкрываючы "слюнява-плакучага" Я. Пушчу, "істэрычна-крыклівага" У. Дубоўку, "ахутанага нуднымі туманамі філасофскага сенсуалізму" Кузьму Чорнага і іншых узвышаўцаў, цвёрда запэўніваў, што "аб'яднанне "Маладняк" ад выхаду "маладнякістаў" многа не страціла" і што "Маладняк" "не пакоцішча з узвышшаў у далiну", а "яго мелодый не атруціць плаксівая "фальш камертонаў" і ён не замкнецца ў вузкім крузе таго мяшчанскага балота, якое некаторыя недалёкія (?! — **А. П.**) людзі называюць літаратурным узвышшам". Пра вялікую непапраўную страту сведчыць выказванне М. Мішчанчука: "акрыленая рэвалюцыйнай рамантыкай, падвышаная падзеямі, якія скаланулі ўвесь свет, яна (паэзія 20-х. — **А. П.**) пачала ўважлівей ставіцца да такіх простых ісцін, як праца, шчасце, каханне, прырода, усё больш і больш пазбаўляючыся касмічных вышынь, на якія спачатку старалася ўзняцца".

Ды, як паказаў час, многія з эстэтычных узвышаўскіх прынцыпаў не толькі ўплывалі на развіццё творчасці "Маладняка", але і паспяхова выкарыстоўваліся пазней іх непрымірымымі апанентамі. Толькі ў 1930 г. А. Дайлідовіч у сваіх паказаннях са сфабрыкаванай ДПУ справы "Саюза вызвалення Беларусі" прызнаецца: "Узвышша" — група пісьменнікаў высокакваліфікаваных. "Маладняк" павінен быў мець каго супрацьпастаўціць узвышаўцам. (...) (Выхад "Узвышша") прымусіў нас тады ўзяцца за замацаванне "Маладняка""; "Выступаючы супраць "Узвышша" (...), я ўжо ў глыбіні сваёй свядомасці адчуваў нейкія сімпатыі да іх, што тлумачылася тым надворным лоскам "культуры", якім вызначаліся гэтыя варожыя пралетарыяту плыні".

"Раенне" "Маладняка" Максім Гарэцкі назаве хваробай росту ў беларускай літаратуры. "(...) з'явіліся новыя падставы для падзелаў усяе грамады беларускіх пісьменнікаў, — лічыў ён, — на літаратурныя групы. Найперш вылецеў рой з "Маладняка", (...) утварылася "Узвышша", далучыўшы да сябе з нашаніўцаў чамусьці аднаго толькі Бядулю. Як цяпер можна меркаваць, малады ўзвышавец спалохаўся старасці ў тагачасных арганізацыйных формах "Маладняка", спалохаўся свайго пераросту". Узвышавец, дададзім, не толькі ўжо не мог працаваць тварыць у сацыялагізатарска-ідэйных маладнякоўскіх рамках, якія з кожным днём звужаліся, "прыціскаючы" мастакоўскую легціненнасць, але і наогул не мог упісвацца ў іх.

Утварэнне "Узвышша" мела як свае эстэтычна-мастацкія, так і грамадска-палітычныя **прычыны**. Іх можна ўжо распазнаць па

***У белым галопе гарбатага мора***
***салёная ярасць***
***з каменнай журбой.***
*("Сустрэча")*
***гняздо, нібы сэрца***
***у рэбрах галінак...***
***аж пырснула на доле кроў***
***у рыжыка з вушэй.***
*("Пад мачтаю сасны")*

Такія трапныя, ёмкія і важкія словы ў параўнаннях метафарах цэментуюць кожны вялюгінскі верш. Гэта гаворыць яшчэ аб тым, як паэт умее "назіраць" жыццё, заўважаць у ім толькі сваё і сказаць аб усім пасвойму. У гэтым жа сакрэт усякай паэзіі. Але і пра тое, што заўважаюць усе людзі, паэт можа і павінен сказаць так, каб гэта спадабалася ўсім, кранула сэрца кожнага.

***Маці бярэ на рукі дзіця***
***заўсёды галоўкай да сэрца.***

Гэта сказана проста. Усе гэта ведаюць. Але сказаныя паэтам словы выклікаюць слязу замілавання не толькі ў жанчыны-маці, але і ў дарослага несентыментальнага чалавека.

А звярніце ўвагу на вялюгінскія рыфмы, якія ў кожным вершы звіняць не "жабрацкай меддзю ў асенняй журбе", а звонкай бронзай, гартаванай сталлю, зорнай іскрыстасцю свецяцца: "неба—нема", "нароўні—Нароўлі", "капітал—капітан", "вымя—выме" і г.д. і д.т.п. Такія прыклады можна прыводзіць бясконца. Яны гавораць самі за сябе. Слова для паэта было заўсёды галоўным у рабоце.

Гэта вельмі трапна заўважыў яшчэ раней Рыгор Барадулін, калі пісаў прадмову да двухтомніка выбраных твораў Анатоля Вялюгіна, які выходзіў у 1984 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Прадмоўца пісаў: "Слова ў слове і слава ў славе. Амаль аднолькава гучаць гэтыя паняцці. Але каб слова было ў слове, яно павінна быць забяспечана залатым запасам душы паэта, яна павінна быць неабходным, адзін раз і назаўсёды дакладна выказана".

Так, напэўна, заўважаюць "сакрэты" творчасці адзін у аднаго сапраўдныя паэты. Толькі не будзем гаварыць пра славу. Хтохто, а Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін ніколі не думаў пра тое, каб уславіць сябе залатымі лаўрамі, хоць і быў адзначаны неаднойчы высокімі прэміямі. У апошнія два-тры гады жыцця працаваў ён у адзіноце, зрэдку сустракаючыся з самымі блізкімі сябрамі, штодня і штоночы думаў, як выдаць на суд чытачу свой "Заклён на скрутны вір". Можна ўявіць, з якім болем пісаліся такія радкі:

***Колькі жыць, мой свеце, засталося,***
***і лясной вяступцы невядома.***

Але і тут, у размове з варажбіткай-зязюляй, якая так мала абвясціла гадоў жыцця, менш адчаю, а больш пачуцця любові да роднай зямлі, аптымістычнага настрою. Вялюгін усё жыццё быў аптымістам, ніколі і нікому не скардзіўся на свой лёс, як бы яму ні было цяжка. Магчыма, часам ён памыляўся ў чым-небудзь, у прыватнасці, у першых сваіх рэцэнзіях на пасляваенныя зборнікі маладых паэтаў — былых франтавікоў. Але вера ў лепшае, што яднае, а не раз'ядноўвае людзей, заўсёды была характэрнай рысай яго жыцця і творчасці.

Перачытаўшы каторы раз кнігу "Заклён на скрутны вір", я моўчкі адкладваю яе і вяртаюся да ранейшых кніг майго сябра. Раскрываю першы том выбраных твораў паэта. Вось верш "След мастака" — у ліку першых, якімі адкрываецца кніга. Аўтар вельмі строга падыходзіў да складання свайго выбранага. Многія са сваіх першых вершаў, надрукаваных у даваенным перыядычным друку, ён не ўключыў у том. А гэты верш, напісаны і надрукаваны яшчэ ў 1939 годзе, ён сам лічыў сваёй творчай удачай. І мне, шчыра прызнаюся, вельмі прыемна гаварыць пра тое, што я быў першым, альбо адным з першых яго чытачоў і слухачоў.

Было гэта якраз у тым жа 1939-м годзе, на пачатку верасня. Я толькі што паступіў у Мінскі інстытут журналістыкі. А Вялюгін вучыўся ўжо ў педагагічным інстытуце і адначасова працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда". Галоўным рэдактарам яе быў Дзям'ян Трахімавіч Лебедзеў — мой зямляк з Хоцімска, які дагэтуль рэдагаваў раённую газету "Калгасная звязда". Там я працаваў адказным сакратаром рэдакцыі пасля заканчэння Магілёўскай газетнай школы. Хай чытач прабачыць за такую падрабязнасць, але праз Дзям'яна Трахімавіча я і пазнаёміўся ў "Звяздзе" з Анатолем Вялюгіным. З першай сустрэчы ў рэдакцыі ён мне спадабаўся — вышэйшы крыху за мяне ростам, з адкрытым вясёлым тварам, ільнянымі валасамі і яснымі блакітнымі вачыма.

У той дзень мы разам прагульваліся па Мінску. Калі ішлі па цэнтральнай Савецкай вуліцы ад рэдакцыі ў бок кінатэатра "Чырвоная зорка", Анатоль пачаў мне чытаць свой верш "След мастака".

Я прагна лавіў кожнае слова і, прыслухоўваючыся да ёмкіх рыфмаў, чаканнага рытму верша, сачыў не так за яго сюжэтам, як за літаратурнай формай. Гэта было зусім непадобна на той перапеў старых матываў, якім вылучаліся тады вершы многіх маладых паэтаў. Лёс лірычнага героя верша, паднявольнага мастака, які адмовіўся маляваць "панскія скарбы", усхваляваў мяне яшчэ больш тым, як ён быў апеты аўтарам:

***На замку польскага магната***
***балюча сэрца сцялі краты.***

***Лясоў халодныя пажары***
***ляцяць пад імі — дымам — хмары.***

***— Глядзіце, мокры след ад сосен!***
***Мастак уцёк туды... у восень.***

Апошні радок так зазвінеў у маіх вушах, што я не чуў ні гулу машын, ні грукату трамвая на вуліцы. Слова, магутнае слова паэзіі скарыла мяне, зачаравала проста. І я падумаў сам сабе: якое шчасце паслаў мне лёс пасябраваць з такім яшчэ маладым, але таленавітым паэтам!

Вось так з першай сустрэчы сябры становяцца сябрамі на ўсё жыццё. Неаднойчы нас разлучалі жыццёвыя дарогі, потым зноў вялі на сустрэчы. Шмат гадоў не бачыліся. І калі я вярнуўся з вайны ў родны Мінск, першым чалавекам, які спаткаў мяне каля драўлянага доміка Саюза пісьменнікаў на вуліцы Берсана, каля чырвонага касцёла, быў Анатоль Вялюгін. Ён таксама вярнуўся з-за Урала, дзе ляжаў у шпіталі пасля ранення. Не перадаць той радасці, тых пачуццяў, якія апанавалі нас пры першай пасляваеннай сустрэчы. Пасля гэтага многія гады мы разам працавалі, сябравалі, спрачаліся часам. Але самае галоўнае — davяралі адзін аднаму — ва ўсім — у сяброўстве, у рабоце, у паэзіі.

Мне здаецца, што і сёння, калі я пішу гэтыя радкі, на схіле свайго нялёгкага і тлумнага веку, я іду па следзе таго мастака, пра якога пачуў у гады студэнцкага юнацтва ад свайго незабыўнага сябра. Мне чуецца і зараз яго мужны, упэўнены поступ у будучыню.

Заканчваючы гэты свой артыкул пад рубрыкай "замест рэцэнзіі", я зноў бяру ў рукі зборнік вершаў "Заклён на скрутны вір" і перачытваю кароткую, лаканічную, але яркую па думцы і вобразу прадмову да яго, напісаную яшчэ адным цудоўным нашым беларускім паэтам Уладзімірам Някляевым: "Толькі рух радка, толькі стан, толькі напружанасць, — падкрэслівае ён, — уласцівы ўсёй вялюгінскай паэзіі".

Мне здаецца, невыпадкова выдавецтва прасіла напісаць прадмову да зборніка "Заклён..." менавіта У. Някляева — аднаго з маладзейшых сяброў і вучняў Анатоля Вялюгіна. Такія паэты ўмеюць не толькі добра вучыцца, а і плённа вучыць майстэрству другіх.

Як гэта добра, калі ў разумнага настаўніка назаўсёды застаюцца разумныя і дасціпныя вучні, уносяць у паэзію свой творчы плён.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

тэзісах праграмы 1927 г. Да перадумоў мастацкіх адносіцца імкненне творцаў, згуртаваных ідэямі літаратурнага ўзвышэння над быційнай мітуснёю, заказной аднадзённасцю, да "а-райвання" жыцця (тэрмін Д. Бобышава, расійскага паэта-эмігранта і крытыка, які вылучаў у паэзіі магчымасць "Раютворства"). Беларускіх узвышэнцаў 20-х гадоў натхнялі яшчэ нязведаныя прасторы мастацкай вобразатворчасці, вялікі вопыт сусветнай літаратуры, які толькі пачаў раскрывацца перад імі — у большасці студэнтамі, людзьмі "прасветленымі". Да "капання" новага мастацка-эстэтычнага "рэчышча" іх прывялі і жаданне супрацьстаяць немастацкай прадукцыі літаратурных паўтораў-перапеваў і зададзенасці, імкненне павысіць якасць мастацкіх твораў, адказнасць за кожны радок і вобраз, а таксама неабходнасць абароны сваіх мастакоўскіх прынцыпаў. "Бурапеннай" і "самагоннай" творчасці "службовай, казённай радасці" процістаяла творства, "якое імкнулася да (...) культурна-мастацкіх каштоўнасцяў на падставе апанавання народнай творчасці, дасягненняў мастацтва мінулага і канкрэтнага вывучэння сучаснасці" і "выяўляла сабою тэндэнцыю ажыўленства". Узвышаўская плынь выражала глыбокую думку аб тым, "што беларускаму пралетарыяту і сялянству патрэбна мастацтва не менш, як якой бы там ні было буржуазіі".

Да ўзнікнення "Узвышша" прывялі і прычыны палітычна-культурныя. Адданыя інтарэсам абуджанай Бацькаўшчыны, апантаныя патрыёты, узвышаўцы адной са сваіх найбліжэйшых мэт бачылі змаганне супраць русіфікацыі, татальнай дэкультурызацыі, спрашчэнства — у абстаноўцы палітыкі, якая вялася на Беларусі бальшавікамі з 1925 г. Грамадзянскім крэда стала для ўзвышаўцаў думка П. Б. Шэлі аб тым, што паэты — гэта непрызнаныя заканадаўцы свету, і іхнія грамадзянскія выступленні зводзіліся не толькі да адстойвання антыпалітычнага падыходу да літаратуры і мастацтва, абароны іх ад сацыялагізатарства, класавых пагромаў і ўціску. Беларускае ўзвышэнства 20-х гадоў мела выразныя адзнакі незалежніцтва, непакорнасці, і адзнакі гэтыя аб'ядноўвалі будучых узвышаўцаў яшчэ ў "маладняковскую" пару. Так, у кастрычніку 1925 г. з "Маладняка" была выключана расійская секцыя (што існавала пры мінскай філіі). Заступнікам выступіў ЦК ЛКСМБ, пасля чаго на пасяджэнні фракцыі мінскай філіі "Маладняка" У. Дубоўка і А. Вольны зрабілі заявы пра свой выхад з аб'яднання. Яшчэ ў "Маладняку" пачаў складвацца асяродак літаратараў, незадаволеных дзяржаўнай палітыкай партыі (Н. Чарнушэвіч, У. Дубоўка, А. Бабарэка, Л. Савёнак, А. Дудар). На кватэры У. Дубоўкі некаторыя сябры ЦБ "Маладняка", як сведчыў у паказаннях для ДПУ А. Дудар, абмяркоўвалі думку Н. Чарнушэвіча аб неабходнасці заснавання новай партыі, аб патрэбе пераўтварэння ЛКСМБ у маладзёжную арганізацыю нацыянальнага характару — БЛКСМ. І такія прыклады можна пералічваць доўга... Узвышэнцы 20-х гадоў, такім чынам, — гэта пераемнікі рамантычнай непакоры, заміналькі ідэі інтэрнацыяналізму, "нацдэмы"-эстэты, якія смела выступілі супраць палітыкі бальшавіцкай партыі і яе ўстановак на сацыялагізатарства, класавасць і псеўданароднасць. І калі "нашаніўскае" першаўзвышэнства ў беларускай літаратуры было эстэтычна-мастацкім, "чыстым", дык узвышэнства 20-х гадоў зараджалася **мастацка-ваяўнічым**, "абарончым".

Яшчэ ў "Маладняку" А. Бабарэкам быў абазначаны і філасофска-эстэтычны падмурак літаратурна-мастацкага ўзвышэнства — у цыкле імпрэсій-прытчаў "Вобразы без рамак і асадкі". Гэтыя творы трэба разумець сімвалічна. Паклаўшы ў аснову сваіх разваг праблему формы і сцвярджаючы першаснасць мастацкага разняволенага вобраза ("вобраз у рамцы — ужо не вобраз", "шырыня, асаджаная ў рамкі, — ужо вузкасць"), А. Бабарэка спрычыняецца да разгадкі спрадвечнай "зямельна-нябеснай" праблемы. Разняволены "абязрамлены" вобраз (але не аморфны, бо ўсё ўрэшце мае форму) імкнецца ўвышыню. Але з "высокіх гор" музы павінны, паводле А. Бабарэкі, зводзіць творцу "ў даліны нізкія зачарпнуць глыбіні", бо "на гары была вяршына, ды не было глыбіні". Такімі думкамі А. Бабарэка яшчэ і адмежаваў ідэю беларускага ўзвышэнства ад прынцыпаў мастацтва дзеля мастацтва, бо ўзвышацца, на яго думку, — гэта праходзіць творчы шлях уздыму з жыццёвых "нізін" на "ўзвышшы" мастацкага светаўспрымання, і ўзвышэнства — гэта не "вышынізм".

Зрэшты, чалавечая спакуса вышыні хвалявала яшчэ М. Багдановіча.

***Усё вышэй і вышэй я на гору ўзбіраўся,***
***Падымаўся да сонца,***
***што дае нам цяпло:***
***Але толькі чым болей да яго набліжаўся,***
***Тым усё халадней мне***
***й маркотней было... —***

задумваўся-прызнаваўся ён у вершы "Мне снілася". Як блізка і сугучна гэта бабарэкаўскаму "на гары была вяршына, ды не было глыбіні", не было таго ж цяпла той жа жыццёвасці! Творы абодвух — нібыта водгук на працу Ф. Ніцшэ "Так гаварыў Заратустра". Калі Заратустру споўнілася трыццаць гадоў, ён пакінуў сваю Радзіму і падаўся ў горы, дзе яму прымроіўся вобраз звышчалавека. Лірычны ж герой беларускіх аўтараў, у многім арыгінальны двайнік звыштворцы, пабыў на халодных гарах, набраўся нябеснай мудрасці, — спускаецца ўніз, да людзей, "напіцца глыбіні". Дарэчы, тут пераемнасць і ад В. Ластоўскага, ад ягонага артыкула "Па сваім шляху!". "А калі мы скажам, — пісалася ў ім, — новае слова, калі мы тым, хто **па горах ходзюць** (вылучана намі. — **А. П.**) і не бачуць сонца, пакажам яго, тады мы раз і назаўсёды заваюем права называцца культурным народам, тады на край свету прылунае слова беларускага імені, і да нас прыйдуць людзі шукаць новых пуцяводных зор..."

Наогул жа да канцэпцыі ўзвышэнцаў дапасоўвалася наступная біблейская думка: "...кожнаму з нас дадзена мілата ў меру дару Хрыстовага. Таму і сказана: "падняўшыся на вышыню, запаланіў паланёных і даў дары людзям". А "падняўся" што азначае, як не тое, што Ён і сыходзіў раней у прадонныя мясціны зямлі? Хто сыходзіў, Ён жа ёсць і Той, Хто ўзышоў над усе нябёсы, каб напоўніць усё" (Яф. 4.7—10).

Клічам-дэвізам, пад якім згуртоўваліся мастацкія сілы, што мусілі зліцца ў новую ўзвышэнскую плынь, стала назва крытычнага артыкула А. Бабарэкі "З далін на ўзвышшы" ("Маладняк", 1926, N 10 (I)). Калі ў 1925 г. галоўны крытык і тэарэтык беларускага ўзвышэнства А. Бабарэка бачыў у творчасці Я. Купалы, Я. Коласа і іншых "нашаніўцаў" "буралом адраджанізму" і найбольш прымальнай лічыў плынь "маладнякізму", дык праз год, даасэнсаваўшы гістарычны лёс беларускай і сусветнай літаратураў і скінуўшы акуляры "моднай" мастацкай сацыялагізацыі, у сваім праграмным артыкуле "З далін на ўзвышшы" "далучыць" да першапраходцаў беларускага ўзвышэнства Цётку, Я. Купалу, Я. Коласа і М. Багдановіча. Адмежаваўшыся ад неапраўданага адмаўлення мастацкіх дасягненняў старэйшых беларускіх творцаў, А. Бабарэка пісаў: "Беларуская літаратура ў мінулым **узнімалася ўверх** (вылучана намі. — **А. П.**) (...) шляхамі вопытаў, і ў сучасны момант сярод яе прадстаўнікоў ёсць сапраўдныя і вялікія паэты і пісьменнікі, якія ў сваіх творчых лабараторыях, сінтэзуючы вопыты сваіх папярэднікаў ("прыпускаюцца ў даліны") і робячы адпаведныя з іх вывады, **узнімаюцца вышэй** (вылучана намі. — **А. П.**) і адкрываюць новыя вобразы існага".

"З далін на ўзвышшы" А. Бабарэкі — гэта грунтоўны і творчы перагляд усёй беларускай мастацка-крытычнай спадчыны, першая спроба 20-х гадоў усебаковага асэнсавання літаратуры. Гэты артыкул, як выказаўся У. Конан, пачынае новы этап не толькі ў эвалюцыі светапогляду А. Бабарэкі, але і беларускай эстэтыцы наогул.

Беларускіх узвышэнцаў 20-х гадоў натхняла, шырэй, філасофія творства, да спрадвечных вышыняў якога імкнуліся лепшыя мастакі свету. Вобразы Алімпа, Парнаса ператварыліся ў ідэальныя архетыпы, што злучалі ў творчым светаўспрыманні зямельна-нябесныя антыномы, дазвалялі ахапіць з'явы рэчаісныя і трансцэндэнтныя (тыя, што "па той бок"). Ідэя ўзвышэнскага вітаізму стала тэарэтычным "мостам" паміж зямным і нябесным. Яе распрацоўка падобна да адкрыцця таемнай гравітацыйнай сілы і законаў прыцягнення — вітаістычная канцэпцыя дапамагала беларускім творцам смела, не баючыся трагічных "падзенняў", узнімацца на крылах натхнення і фантазіі ў нябесныя высі, але, разам з гэтым, і прыцягвала іх да жыцця зямнога, да зямных праблем, не даючы "адарвацца" і заблукаць у нязведаных прасторах ды, паўтараючы ікараўскія памылкі, спаліць свае крылы.

З-за такіх мастакоўскіх поглядаў і перакананняў на ўзвышаўцаў усчыняліся беспадстаўныя абвінавачванні ў прыхільнасці да "мастацтва дзеля мастацтва" і "адарванасці ад жыцця". Сябры "Узвышша", як, дарэчы, і сімвалісты, не адкідаючы дэвіза "мастацтва — дзеля мастацтва", імкнуліся весці "растлумачальную" працу і змагацца супраць тэндэнцыйнасці ў асвятленні сваёй дзейнасці. Паказальна, што і для сімвалістаў дэкадэнты былі тымі, "хто адчуваў сябе над бяздоннем культуры без магчымасці пераскоку" (Андрэй Белы). Непрымальнымі для ўзвышаўцаў у дэкадэнстве былі найперш ілжывыя ўзнёсласць і надуманасць. "Мы не шукаем выспу забыцця", — запэўніваў у паэме "Калі асядае муць" Тодар Кляшторны. Наадварот, чым вышэй узнімалася ўзвышаўская паэзія ў сузіранні быццёвых з'яў, тым шырэй магла яна ахапіць іх. Слова жыццё — у падмурку ўзвышаўскіх канцэпцый **віт**аізму і ак**віт**ызму.

Беларускім літаратарам не пагражала замкнёнасць вузкай літаратурнай школы, мастацкае ўзвышэнства бачылася ім вобразам мыслення і, шырэй, жыцця. Сваёй творчасцю яны імкнуліся распрацаваць універсальную праграму "мастацтва жыць". І таму неабгрунтаванымі і неправанаўчымі выглядаюць сёння ўсе абвінавачванні ўзвышаўцаў афіцыёзнай бэндаўшчынай ва ўсіх магчымых і немагчымых грахах.

Не адмяжоўваліся ўзвышаўцы і ад пытанняў агульнакультурных, этычных, а філасофія ўпадку, філасофія дэкадэнства не магла стаць роднай плеядзе творцаў-адраджэнцаў, перад якімі на пачатку дзейнасці раскрываўся "шырокі прастор", праца якіх была неабходнай абуджанай Бацькаўшчыне, у творах якіх — поўная перавага ўзнёслых радасна-вясновых настрояў і пачуццяў.

З узвышэнскім рухам на Беларусь і прыходзіў нарэшце той доўгачаканы час — час мастацтва, **час паэзіі**.

Ужо даўно "чалавек ішоў з зямлі на неба: і ён быў ужо на небе, калі б думка неператварыла песню зямлі і неба ў ненатуральныя абстракцыі: зямлю — у норму (...) свядомасці, — канстатаваў А. Белы ў артыкуле "Песня жыцця" наўздзіў блізкую ўзвышэнскай сентэнцыю. — (...) Мы развучыліся лётаць..."

Перад беларускімі ўзвышэнцамі адкрывалася нязведанае неба душы, паўставала нераскрытая таямніца мастацкай бясконцасці, — творцы вучыліся "лётаць"...

**Алесь ПАШКЕВІЧ**

## Завяршэннем артыкула

М. Крукоўскага "Бацька" ўсяго існага" адкрываецца пяты нумар часопіса "Мастацтва". Е. Бондарава ("І спакуслівая муза не абмінула...") даследуе тэму: "Уладзімір Караткевіч і кіно". Сярод іншых матэрыялаў — публікацыя Т. Кекелевай "Пяшчотныя гукі цымбалаў" (да 90-годдзя з дня нараджэння І. Жыновіча), артыкулы "Жыццё без блюза" Д. Падбярэзскага, "Заслона для тэатра абсурду. Сусветнага" П. Васілеўскага, "Лабараторнае даследаванне прасторы і часу" Т. Катовіч, "Музычнае мастацтва Беларусі ў эпоху Рэнесанса і Барока" В. Дадзіёмавай (першая публікацыя), "Гульні на ветры" Н. Антончык, "Зямля Кірушчанкі" В. Буйвала, "Падае зерне..." Г. Багданавай, "Жаночы гармон кінамастацтва" А. Бабковай, "У віцебскім настроі" Т. Ратабыльскай.

Т. Мушынская ("Брава, Саркісьян") гутарыць з В. Саркісьянам і яго жонкай балерынай В. Лапо. Л. Грамыка ("Ёсць улюбёнцы лёсу...") стварае партрэт драматурга А. Паповай, выкарыстоўваючы гутаркі з ёй, а таксама тымі, хто меў дачыненне да ўвасаблення яе герояў на сцэне. Т. Варфаламеева разважае "Пра песенную традыцыю беларускага Панямоння". В. Басько расказвае пра такія традыцыйныя святы, як Юр'я, Вялікдзень, Радаўніца...

## "Тартак" і іншыя творы

"Школьная бібліятэка" папоўнілася кнігай выбраных твораў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Івана Пташнікава, якую выпусціла выдавецтва "Мастацкая літаратура". У аднатомнік увайшлі знакамітая аповесць "Тартак", а таксама шырокавядомыя апавяданні "Алені", "Львы", "Эфка", "Арчыбал", "Сцяпан Жыхар са Сцешыц" і іншыя творы "малога жанру".

Прадмову да кнігі напісаў Серафім Андраюк. У артыкуле "Творы, адкрытыя ў жыццё", ён, у прыватнасці, адзначае: "Проза Івана Пташнікава — сёння гэта адметная і значная з'ява нацыянальнай культуры. З'ява гэтая дастаткова выразна акрэслілася, раскрыла і глыбока выявіла свае ідэйна-мастацкія асаблівасці, жыццёвыя вытокі, сцвердзіла сваю мастацкую арганічнасць".

Далей С. Андраюк піша, што творы Івана Мікалаевіча "складаюць з'яву, назва якой — проза Пташнікава", і "кожны з гэтых твораў стаў пэўнай вяхой на творчым шляху пісьменніка, з'явіўся прыкметнай падзеяй у нацыянальнай літаратуры".

## Згадкі юнацтва

Часопіс "Маладосць" у сваёй "Бібліятэцы..." выпусціў кніжку радыёжурналіста з Любані Сяргея Квіткевіча "Падарожжа ў юнацтва, альбо Працяг будзе". Некалькі гадоў назад (пра гэта нагадвае ў прадмове Уладзімір Саламаха) часопіс апублікаваў нарыс С. Квіткевіча "Як я быў настаўнікам", за які аўтар стаў лаўрэатам "Маладосці" па раздзеле публіцыстыкі за 1993 год. Пасля гэтага з'явіліся яшчэ два яго нарысы, таксама напісаныя на дакументальнай аснове. С. Квіткевіч паведаў, як разам з сябрамі вырашыў заняцца "фермерствам, камерцыяй і бізнесам" і што з гэтага атрымалася.

"Падарожжа ў юнацтва" мае падзагаловак "Эсэ аднай любові" і прысвячаецца аўтарам былому класнаму кіраўніку 10-га "Б" Капыльскай СШ N 2 1980 года выпуску і сябрам-аднакласнікам. С. Квіткевіч (нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Каменшчына на Капыльшчыне) расказвае пра сваіх сяброў, з кім прайшлі разам ці не самыя радасныя, хвалюючыя і запамінальныя хвіліны ў яго жыцці. Піша, як сведчыць той жа У. Саламаха, "шчыра і захапляюча. Своеасаблівa. Імпульсіўна".

Заканчваецца кніга спадзяваннем, што наперадзе чакаецца чарговая сустрэча з яе героямі: "Сёння, праз семнаццаць гадоў пасля нашага выпускнога вечара, калі жыццё параскідала нас па свеце, я надумаўся адшукаць кожнага з вас, мае сябры-аднакласнікі. Веру, аднойчы мы зноў збяромся ў нашым ціхім любімым гарадку, наведаем родную школу, сустрэнем любімых настаўнікаў, пагаворым пра многае, асабліва пра тое, ці споўніліся нашы мары...

Таму я не пішу эпілог, а кажу: "Працяг будзе..."

А. М.

ПАЭЗІЯ

Алесь ЧОБАТ



# Евангелле ад Максіма

*Прысвячаецца брату*

### Апостал

*Пакінь ты мяне, Нячыстая Сіла:*
*хадзіў я біцца — другім пара.*
*Чытаю Евангелле ад Максіма.*
*Проста кніжніка — не змагара.*

*Усё паўтараецца — толькі што позна.*
*У Ісуса Хрыста даўнютка-даўно*
*розных прафесій былі апосталы,*
*а вось змагароў сярод іх не было.*

*Ці ўсім хапацца за косы ды вілы?*
*А хто ж тады будзе "Вянок" збіраць?*
*Пакінь ты нас, Нячыстая Сіла —*
*народ мае сам за сябе пастаяць.*

### Голас

*Крамяністыя вулкі вядуць пад гару,*
*хмары з Захаду мкнуць*
*над крыжамі павoлі —*
*тут пакіньце мяне*
*вы ў адвечным спакоі,*
*як пакінулі маці, калі я памру.*

*Я ў Расіі пражыў — ад вясны да вясны.*
*Там я рос і сталеў.*
*Там я выбіўся ў людзі.*
*Не пытайце мяне*
*вы пра цень Беларусі —*
*сам не ведаю, хто мне прынёс*
*яго ў сны.*

*То не я напісаў — гэтак Бог захацеў,*
*хоць я быў дэмакрат і не верыў у Бога;*
*і нашто мне цяпер гоман,*
*шум і трывога,*
*кветкі вашы і слёзы — каб я зіхацеў?!*

*Не хачу сабе долі ніколі такой,*
*не рабіце з мяне вы святога Паэта;*
*А белы Нёман*
*і ў Гродна апошняе лета —*
*гэта ўсё, што забраў я ў дарогу з сабой.*

### Адам Багдановіч

*Беларус Адам Багдановіч беларусам*
*не быў свядомым,*
*паехаў жыць у Расію —*
*і рускім зрабіўся шчыра!*
*Але тры тысячы кніжак бухгалтар*
*простьі меў дома.*
*Сын прыгоннага кухара.*
*Бацька вялікага Сына.*

*А сына яго Максіма Гасподзь*
*да сябе паклікаў*
*свячой загарэцца ў цемры*
*і красу адагрэць ад смерці,*
*бо Адам з бядоты ўжо вылез,*
*і сын не на грошы маліўся,*
*і сэрца білася вольна,*
*і розум яго быў светлы.*

*З беднай сялянскай хаты*
*ў вечным прыгоне грошай*
*можна выбіцца ў людзі —*
*але душа будзе рабскай,*
*а толькі ў вольныя душы*
*дух уваходзіць Божы,*
*а мы цэлы Край зраўнялі*
*да беднай хаты сялянскай...*

### Максім Багдановіч

*Прароцтваў не прыпісвайце Максіму.*
*Да беларусаў пасылаць Месію*
*даўно не мела сэнсу — і таму*
*быў лепшы талент дадзены яму.*

*І Рыцар Збройны на кані і з мечам,*
*і сам Гасподзь над родам чалавечым*
*не раз Айчыну беглі ратаваць —*
*а нам было заўсёды напляваць!*

*Як не хацеў ён зноў крывавіць гэта!*
*Ды боль з адчаем давялі паэта —*
*і хворы ўжо, і ўжо на сконе дзён*
*не вытрымаў, Пагоню клікнуў ён...*

### Бацька і дзеці

*Паедзем з Гродна. Маці пахаваем.*
*І звяжамся з далёкаю зямлёй,*
*бо гэтая не будзе родным Краем*
*ні мне, ні вам — ні летам, ні зімой.*

*Там горш не будзе. Гэтага даволі.*
*А калі самі пойдзеце на хлеб,*
*не гаварыце пра мяне ніколі,*
*нібыта ў Гродна я ад слёз аслеп.*

### Над Волгай

*Далёкаю Айчына не бывае —*
*як ні адкладвай, а прыходзіць выбар.*
*Шукае бацька долі і чакае*
*выгод і грошай — але дзе той вырай?*

*Каму патрэбна ў глыбіні Расіі*
*сям'я чужынцаў, вечных кватарантаў?*
*А хіба нас калі сюды прасілі —*
*між жабракоў тутэйшых пабірацца?!*

*Хто мы цяпер? Ні племені, ні роду.*
*Старэйшы брат Вадзім ужо ў магіле...*
*Ці так патрэбна ўся гэта свабода,*
*калі сваё імя даўно забылі?*

### Яраслаўль

*Як няма выгоды сталічнай,*
*скарыстаю з пагоды слічнай!*
*Пакуль вараць абед*
*і пузаты пыхціць самавар,*
*прышпілю на тужурку студэнцкую*
*ружу белую графкай англійскай*
*і на шпацыр сонечным днём*
*пайду на бульвар!*
*Яраслаўль — горад маленькі.*
*Трохсоттысячны толькі горад.*
*І дзяўчаты з лепшых дамоў*
*усе ведаюць, што я хворы...*
*Лепш зайду да рэдакцыі "Голоса" —*
*а раптам капейку налічаць?!*
*Ці сустрэну Дзяніса Дзябольскага*
*з яго малой Веранічкай!*
*Так і будзе са мной.*
*Так і памяць плугам падыме*
*і адваліць назад*
*пераясытае ўсё на Крыме,*
*дзе пампу ў адзіноце,*
*якую сабе наклікаў,*
*і апошні ў вачах*
*стане сквер з малой Веранікай...*

### Прыезд на Радзіму

*Так моцна пакахаў яе здалёку,*
*так часта ў снах прыходзіла яна,*
*гаіла боль, лячыла адзіноту*
*і клікала насустрач, як вясна.*

*І ты хацеў яе душой і целам,*
*і дыхаў яе светам залатым —*
*яна чакае недзе там, у белым,*
*у ясным, у нябесным, у святым...*

*Але ў святым і векапомным Краі,*
*як выкідыш, пачуўся ты ў тры дні —*
*тамаддаўна жыла зусім другая,*
*з чужой, варожай і дурной радні.*

*Няцяжка жыць і паміраць, мой браце!*
*Але за што, за што ляцець на шкло*
*і да канца згараць і ўсё ж не здрадзіць,*
*не здрадзіць той, каторай не было?..*

### Элегія

*Людзі ўсялякія ходзяць пад Богам,*
*кожнаму дадзена доля свая —*
*і не прашу я ніколі нічога,*
*проста жыву час адведзены я.*

*Смерць параўнае ў шыхтах пад зямлёю,*
*як навабранцаў, пустых і святых —*
*я не баюся, што будзе са мною*
*ні ў днях зямных, ні ў вяках залатых.*

*Праўды і той нашым людзям*
*не трэба —*
*што ж без канца аб красе гаварыць?!*
*Хлеб у іх будзе і будзе да хлеба.*
*Але краса без астатку згарыць.*

*Так і душа мая лёгкая дымам*
*проста ў нябёсы ўзляціць над гарой,*
*вецер развее і хмарка абдыме,*
*дожджык страсе яе слізкай парой.*

*Не шпацыруйце дажджыстай парою!*
*Схопіць праступа, захочацца жыць,*
*і наплывуць невядомыя мроі,*
*і нечакана душа забаліць...*

### Трамвайны раманс для Максіма і Веранікі

*Ніяк са мной яе не зводзіла дарога,*
*і ў нас у кожнага душа была свая*
*на сэрца дне самотнага, і так далёка*
*мы пехатой па свеце йшлі — яна і я.*

*Але аднойчы гадкім вечарам імглістым,*
*калі з нябёс цякло на грунт, як з ручая,*
*а люд у дзверы лез і ціснуў, і так блізка*
*ў трамваі раптам сталі мы — яна і я.*

*Нас павянчаў за ноч кальцом*
*трамваяў горад,*
*і верыць я баяўся, што яна мая,*
*але прыйшоў той дзень*
*і селі мы так поруч*
*ў куце на шлюбе за сталом — яна і я.*

*Там скрыпка плакала*
*і там звінела песня,*
*не разабраць было там, дзе душа чыя,*
*а нас анёлы ўсё тулілі, і так цесна*
*мы не былі ніколі раньш — яна і я.*

### Матылёк

*Як сіні матылёк над белым снегам*
*у цвеце вішні, так навокал нас*
*ляцяць і кружаць, і ліхім набегам*
*шалёна вые і ўсё паліць час.*

*Нядоўга чалавеку жыць на свеце,*
*нядоўга ў небе матыльку дрыжаць —*
*калі пасеяў нас аднойчы вецер,*
*то прыйдзе бура нас аднойчы жаць.*

*Што ж, матыльку ляцець*
*адвечным следам,*
*і ён ляціць — за бурай, за зімой,*
*за белым снегам, Ноевым каўчэгам,*
*за новай абяцанаю зямлёй...*

### Ліст Пятру Гапановічу пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года

*Эх, Пеця, Пеця...*
*Жыць няма ўжо сілы!*
*Няма як дыхаць, бо не лёгкія — нарыў.*
*А нашы дурні зноў пабеглі да Расіі —*
*ім сорак бочак новы лад нагаварыў.*

*Бог прыбярэ мяне —*
*і ўбачыць не паспею,*
*як будуць бедных і багатых рабаваць,*
*спірт неразведзены гасіць*
*і "за Р-расею!"*
*адзін другога будуць вечна забіваць.*

*А хто з іх, Пеця, будзе белым,*
*хто чырвоным —*
*ці не ўсё роўна?! Контрразведка і ЧК*
*адных і тых людзей піхаюць у вагоны,*
*на баржы грузяць ад званка і да званка.*

*Мне даў Гасподзь, якому я не верыў,*
*адно дабро — Пракрокам я не быў.*
*Я проста жыў, я не зрабіўся зверам,*
*дзяўчат любіў і Беларусь любіў.*

### 25 мая 1917 года. Смерць паэта

*Ты не паспеў да Актаў і Дэкрэтаў.*
*Але не гэта страшна для паэтаў.*
*Адно шкада — пісаць бы мог і жыць.*

*Ты не сустрэў ні трыццаць пяць,*
*ні сорак.*
*Ты не дажыў да чыстак і разборак.*
*ОГПУ не стала справу шыць.*

*А каб дажыў — схавалі б глуха ў шафу*
*і раздушылі ў лагеры, як жабу,*
*пусцілі слова на распыл ляцець...*

*О, што за Край пракляты і нялюбы,*
*дзе кнігу, волю і жыццё ад згубы*
*заўчасная адна ратуе смерць!*

## Неадасланы ліст да Янкі Купалы

*Я паміраю, стары.*
*Гул ужо з краю да краю.*
*Свет разляціцца стары —*
*цемра за ім маладая.*

*Зменіцца лета зімой.*
*Лёгкай пагоды не будзе.*
*Хай не спяшаюць за мной*
*з марай наіўнаю людзі...*

*Як там, Луцэвічаў Ян,*
*плачаш ізноў пра зямельку?!*
*Сеяць сабраўся, васъ пан?!*
*Сей! Толькі жаць будзе нельга...*

*Слова ў цябе адбяруць —*
*хаму твой плач непатрэбны.*
*Сэрца твае абкрадуць —*
*і пакаленне дарэмна*
*пойдзе ў пажар і бур'ян,*
*гнанае ў свет тваім плачам...*
*Слухай, Луцэвічаў Ян,*
*а ці магло быць іначай?!*

*Я не пясняр — я юрыст.*
*Я галавы не губляю.*
*Я ўсе навукі — прагрыз —*
*долі не будзе ў тым Краі.*

*Там, дзе народу няма,*
*простаму ж люду ўсё роўна,*
*можа быць толькі зіма,*
*толькі пустая зіма,*
*толькі гнілая зіма —*
*як у маленстве у Гродна...*

## Баль

*Пра смерць даволі!*
*Смерць сама прыходзіць —*
*не адчыняйце дзверы ёй, на ўсё свой час!*
*Калі не ў гэтым, то ў другім стагоддзі*
*хай нашы дзеці пражывуць лягчэй за нас!*

*Няўжо нам быць зямлёй святой*
*пад халуямі,*
*няўжо нам мець*
*на сваім карку той народ,*
*які аддаў за так, згнаіў у вечнай яме*
*ўсё, што ён меў, і рушыў "упярод"?!*

*Няхай паўстануць нашы мёртвыя*
*з каленяў!*
*Няхай звіняць віно і шкло,*
*а глохне сталь!*
*Няхай запросяць дамы кавалераў*
*на ясны баль, на чысты баль,*
*на светлы баль!*

## "На Малой Садовай вуліцы..."

*Гадоў чатырыста гінем —*
*зноў вось няма свабоды;*
*маем толькі Максіма*
*ў куце на Малой Садовай.*

*Навошта сэрца і рукі,*
*калі душа без надзеі?*
*Данута, мы беларусы —*
*наша месца ў музеі.*

*Паволі ў рай да спакою*
*сцежкай ідзем сваёю,*
*сцежкай не хамскай, не панскай —*
*Максімавай, магіканскай...*

## Помнік

*Гродна — месца маленства.*
*Агеньчыкі ў вокнах зімы.*
*На свеце святое месца*
*там, дзе ў маленстве мы.*

*Людзі, не забывайце!*
*Кліча далёкі цень!*
*Гродна — магіла маці.*
*Першы дарослы дзень.*

*Нёман гайдае хвалі,*
*цягне вецер матыў.*
*У Мінску і ў Яраслаўлі*
*у помніках ты застыў.*

*А тут маленства святое*
*навек замяла зіма.*
*Гродна — гняздо пустое.*
*Помніка ў Гродна няма.*

ПРОЗА

Віктар СУПРУНЧУК

# ГАБІ-ГАБРЫЕЛА

АПАВЯДАННЕ



Смерць абрынулася, мабыць, з неба на лагер бежанцаў-беларусаў у дзевятнаццатым годзе пад Самараю. Мала хто ацалеў ад тыфу. Душа прыгажуні-дзяўчыны, якая памірала адной з апошніх, праз вялікі прамежак часу, толькі Богу вядома як, апынулася ў Габрыелі. У сіямскай кошцы Габі, што і адчувала нібыта гэта, але выказаць нікому не магла. Як людзі кажуць, бязмоўная істота.

Гэту раніцу Габі пачала з пачуццём нечага незвычайнага. Паветра было насычана нябачнай энергіяй, якая ўвайшла ў жылы і хвалявала кроў. Прыхлынаючы да галавы, да кіпцюроў, кроў нібы кіпела, а потым спакваля супакойвалася. Калі б не смачны і багаты стол, Габі пабегла б некуды, заскочыла б на вялізную гару смецця і адтуль шуганула ўніз. Аднак пахі сняданку былі мацнейшыя за гэта жаданне, і ніхто не перашкаджаў есці.

Прыяцелі і прыяцелькі, наласаваўшыся, прымроіўшы вочы, раскашавалі пад сонцам, якога хапала ўсім. Габі паўзіралася ў той бок, дзе стомлена і астматычна роў бульдозер, і пачала няспешна аглядаць шыю, лапкі. Яна любіла, каб футра было чыстае і бліскучае. Гэткая ж, як і тады, калі Габі жыла ў вялізным шматпавярховым доме і яе купалі ў бялюткай ванне з шампунем. Аднак яшчэ маці вучыла, толькі нарадзіўшы на свет божы, што не заўжды кату свята. Бываюць і чорныя дні. І вельмі хутка спраўдзілася гэта. Гаспадыня выкінула Габі на двор, завёўшы замест яе сабаку. І вось мо ўжо які год атабарылася кошка на сметніку. На гарадской звалцы. Ёй было тут добра. Ежы хапала: і рыбы, і мяса, і кілбасаў, і сыроў, — штодня машыны везлі з горада розныя прысмакі. Зрэдку даводзілася ўцякаць ад сабак. Яна далёка не бегала, хавалася дзе-небудзь у зацішку, а пасля вольна сабе гуляла. Ці гэтак, як і цяпер, грэлася пад пяшчотным сонейкам. Ні з кім надта не сябравала. Былі ў яе, мабыць, двойчы кавалеры, ад якіх з'яўляліся пісклявыя кацяняты. Яна іх выхоўвала, даглядала. Яны падрасталі і назаўжды знікалі.

Кошка гэта была дужа цікаўная. Зрэшты, гаспадыня выкінула яе на вуліцу таму, што Габі любіла паназіраць, як тая сустракала мужчын. Здаецца, надта ж пільна сачыла сваімі зялёнымі вачмі за ўсімі падзеямі, што разгортваліся ў кватэры. Бы жывы чалавек прысутнічаў і фіксаваў кожны рух, кожнае слова.

Габі любіла паглядзець і на вадзіцеляў машын, што прывозілі смецце. Яны былі гэткія ж, як і каты: тоўстыя і худыя, чарнявыя і бялявыя, рыжыя. І ўсе падобныя на тых мужчын, што наведвалі былую гаспадыню.

Яна прыхарашылася і зноў адчула, як нібы ўскіпела ў жылах кроў. Здавалася, яшчэ трохі — і ўзарвецца цела. Мала было паветра, і смурод са сметніка зрабіўся невыносным. Габі замяўкала, закруцілася на месцы, палохаючы астатніх катоў, і нечакана паімчала, быццам падхопленая нейкай віхурай. Гэтая сіла, якая гнала яе ад сметніка, спыніла кошку на ўскрайку ляска. Міма цякла перапоўненая машынамі дарога. Справа, не так ужо і далёка, былі відаць гарадскія кварталы. А ціск на галаву, на лапы, жывот і нават на хвост усё мацнеў. І Габі падумала, што надышла яе смерць. Яна ўпала на зямлю пад дрэвам і, заплюшчыўшы вочы, пачала яе чакаць. А трэск у галаве быў неверагодны. І ён раптоўна сціх. Толькі чуваць быў гул машын і спеў нейкай птушкі ў ляску. Габі баялася расплюшчыць вочы, але ўсё ж зрабіла гэта. Ад здзіўлення яна паспрабавала мяўкнуць, ды нічога не атрымалася. Канечне, было чаму спалохацца і здзівіцца. Цішком Габі агледзела сябе. Замест яе прыгожых срабрыстых лап былі чалавечыя рукі і ногі. На целе доўгая, белая з чырвонымі паскамі па ўсім полі, спадніца. Гэткая ж белая кофтачка. Твар Габі свой не бачыла. Яна абмацала яго рукамі і зразумела, што ён — чалавечы. Не такі, як у вадзіцеляў машын, а як у былой гаспадыні. Значыць, жаночы. На нагах былі туфлі, трохі стараватыя, але яшчэ ніштаватыя. Цёмна-карычневага колеру, са спражкамі з бакоў. Не вяртацца ж ёй на сметнік да катоў і сабак. І ці жыць у бетоннай трубе? Хоць там утульна і ўначы не холадна.

Здаецца, пацягнулі Габі на дарогу самі ногі. Яны вялі яе да людзей, да свайго новага племені. Аднак год мінуў недарэмна. Адзічэласць і насцярога былі ўжо ў характары. Небяспеку трэба адчуваць адусюль. Хай лепш яе не будзе, але яна можа быць.

Неўзабаве машыны несліся зусім побач, навыперадкі адна перад адной. Ніводная з іх не спынілася, і Габі была ўдзячна ім за гэта. Горад побач, ногі ў яе нястомныя. Не адчувалі цяжару цела.

Пакуль Габі не разумела, навошта ідзе ў горад, дзе нікога ў яе не было, ніхто не чакаў. Не былая ж гаспадыня, што выкінула на вуліцу. Дый злосці на гэту жанчыну ніякай няма. Можна лічыць: увесь год Габі была шчаслівая. І нібыта нядаўна бегла недзе там, праз кустоўе, з выпадковым сябрам, паўаблезлым шэрым катом, да сметніка, каб нарэшце задаволіць свой апетыт. І знайсці прытулак, да якога прывыкла ўжо.

— Эй, дзяўчына, пастой! — ёй махаў палкаю ад блакітна-зялёнага будана міліцыянт. Габі няблага ведала гэтых людзей. Некалі ёй адзін таўстарылы міліцыянт так уляпіў чаравікам па рэбрах, што, думала, памрэ. Дый увосень чалавек дзесяць у брудна-зялёнай адзежы прыязджалі на звалку пастраляць па катах і сабаках. Яны пілі гарэлку і забаўляліся са зброяй. Ледзьве тады Габі ацалела. Куля праляцела міма носа, дабіўшы старую кошку, што спрабавала схавацца за кавалкам чырвонага кардону.

— Што пехатою? Давай спыню машыну, — міліцыянт стаяў у кроку ад яе. Падобны на таўстарылага. — Здалёк я цябе запрыкмеціў. Думаю, што такая харашуха адна па лесе гуляе. Зараз небяспечна. Мужчын шмат ахвочых да такіх дзяўчат. Спыніць машыну? — Ён ужо стаяў упрытык. Габі адмоўна захітала галавою.

— Як хочаш. Што маўчыш? Нямая?

Яна не ведала, ці ўмее гаварыць. А калі замест чалавечых слоў з рота пачуецца мяўканне. Хай лепш думае пра яе што хоча. Позірк у гэтага міліцыянта быў, як у мужчын гаспадыні. І яна наважылася пайсці. Але ён, заступіўшы дарогу, аглядваў з ног да галавы. Здзіўлення было шмат на ягоным твары.

— Ты што, — паказваючы пальцам на спадніцу, спытаўся ён, — нацыяналістка? У цябе ж не спадніца, а беларускі нацыяналістычны сцяг. Нацыяналістка?

Габі ўправа-ўлева зноў адмоўна павяла галавою. Не магла даўмецца, аб чым гамоніць гэты чалавек. Яна ж не выбірала сабе ўбор. Хто яго даў і апрануў на яе?.. Ці думала яна, скуль на целе футра?

— А, нямая? З мастацкай самадзейнасці? Ідзі! Будзеш вяртацца, заходзь да нас. Пагрэем... — і зарагатаў, нібыта выказаў штосьці дасціпнае ці вясёлае.

Горад набліжаўся, дыхаў сваёй нецярплівасцю, мітуснёй. Усё вакол было дзіўнае: павялічанае ці мо паменшанае. Хіба вызначыш гэты свет, які мяняўся ў сваіх вымярэннях за маленькі прамежак часу?

Габі помніла, як ездзіла з гаспадыняй на аўтобусах, тралейбусах, што прыпыняліся там, дзе збіралася шмат людзей. Перад ёй якраз было такое месца. Паўагароджанае, з праламаным з чырвонай бляхі вузенькім дахам.

Падышоў аўтобус, і Габі ўвайшла ў яго, асцярожліва азіраючыся па баках. Ніхто на яе нават не павёў вокам. Людзі стаялі маўклівыя і ціхмяныя, бы панаваў тут пахавальны настрой. Ніхто не размаўляў, і дзеці не смяяліся.

Аўтобус кружыў па горадзе, спыняўся і зноў ехаў, ехаў. Нарэшце Габі ўбачыла знаёмыя мясціны. Недзе побач жыла яе былая гаспадыня. І раптам вадзіцель абвясціў, што далей не паедзе.

Разам з усімі яна выйшла на вуліцу. Прыпынілася, не ведаючы, куды рушыць. І вырашыла пайсці тым шляхам, якім гуляла неаднойчы: праз парк і па дварах. Ёй пакуль было ўсё роўна. Есці не хацелася, толькі цікавасць цягнула ўперад. Што змянілася за год яе адсутнасці, ці сустрэне кагосьці са знаёмых? Яна думала яшчэ, як кошка, але ўспрымала амаль усё бачанае, як чалавек.

У глыбіні двара яе чуйны нос адразу вызначыў сметнік і, хоць туды было непатрэбна, не магла яго мінаваць. Здзівілася, што ў скрынках калупаліся некалькі старых. Яны перабіралі смецце і, сварачыся, нешта бралі ў свае сумкі. Раней такога яна не бачыла. А найбольш уразіла яе, што сярод гэтых людзей таўклася былая гаспадыня. Выглядала яна зусім кепска: азызлы твар, апранута ў старую падраную адзежыну. Відаць, дорага каштавалі ёй мужчыны. І наўрад яна ўжо каму і трэба.

— Нам самім мала, — прахрыпеў дзядок, зазлавана бліснуўшы вачыма на Габі. — Ідзі, ідзі адсюль. Маладая шчэ, заробіш...

Габі адбегла ад сметніка, не разумеючы, чаму людзі калупаюцца ў гэтых скрынках. На гарадскую звалку прывозілі шмат прадуктаў. Каты і сабакі не маглі ўсяго з'есці. Дык чаму ж не аддаць частку гэтым старым? Навошта дзень у дзень выкідваць за горад мяса, каўбасы, смачны хлеб? Каб ласаваліся пацукі, якіх Габі ненавідзела? Нехта ж так вырашыў рабіць. Можа, сказаць былой гаспадыні, каб ехала за горад па прадукты ці нават усім гэтым старым?

Нечакана ў памяці ўсплыло відовішча. Вялікая рака з чорнай і халоднай вадою. На беразе — хаткі ці хлеўчукі, перапоўненыя галоднымі і хворымі людзьмі, з якімі яна прыехала з балотнага і ляснога краю, уцякаючы ад вайны, па загадзе цара. Яе цела гарыць у полымі, нібыта паклалі на вогнішча. Яна памірае з астатнім жаданнем, каб з'есці хоць акрайчык хлеба. З роднай хаты чорнага хлеба. Толькі нешта падымае яе на сваіх магутных крылах... Гэта быццам маланка, пярун з чысцюткага неба, на якім ніводнай хмаркі...

Ёй страшна, яна бяжыць ад старых. Зварочвае з двара на вуліцу. Чуваць крыкі і шум. Наперадзе проста нейкі гвалт. Нібы каты ваююць за каханку. Чым бліжэй да цэнтра, тым ён гучнейшы. Усё-ткі Габі ідзе. Цікавасць пераважае страх. Дый, зрэшты, яна маладая і спрытная. Калі што, уцячэ. Ніхто не дагоніць, ногі ў яе хуткія. Ці людзі раўня ёй? Яны падумаюць зрабіць толькі крок, а яна адолее ўжо дзесяць.

Але ж... У душы сумненне. Мо дарэмна прыйшла сюды. Трэба было застацца на сметніку. Там спакойна, ціха. Усё вакол знаёмае, роднае. Гэта невядомая сіла пагнала яе ў горад. І штурхае быццам у плечы. Шэпча: ідзі туды. Глянь, што робяць людзі. У іхніх руках бліשчастыя дошкі. На галовах таксама бліשчастыя шапкі. Мноства міліцыянтаў выстраіліся ў патыліцу адзін да аднаго і бягуць да вуліцы, на якой шум.

Габі ідзе паціху і, здаецца, ніхто яе не заўважае. У кожнага свой занятак, свая дарога. Але гэта толькі яна так думае. Паветра — як прасякнута небяспекаю. Яна ахутвае з усіх бакоў. Ёй дыхаюць гэтыя людзі. І найлепш было б уцячы. Але спыніцца Габі не можа. Яна ўжо сярод гвалту. Чамусьці пачынаюць аглядваць яе ўбор. Нехта радасна ёй усміхаецца. Яна заўважае нядобрыя позіркі міліцыянтаў. Чаму ім не ўсё роўна, якая на ёй спадніца і кофта? Яны прыгожыя: белае з чырвоным. Чыстыя. Так былі апрануты многія жанчыны ў лагеры на беразе ракі. Скуль яна ўсё гэта ведае і помніць, колькі гадзін назад ператварыўшыся з кошкі ў маладую жанчыну? Перад вачыма лагер бежанцаў, дзяўчаты ў белых з чырвоным спадніцах... Аднак і людзі, якія ідуць па вуліцы, нясуць у руках такога ж колеру сцягі. Малюнак на іх, нібы на яе вопратцы. І крычаць людзі на гэткай ж мове, як гаварылі ў лагерных бараках.

(Працяг на стар. 12)

## Оршы — 930




**У дні святкавання юбілею сталіцы аршанцы адзначалі такі ж самы юбілей свайго горада. Мінск і Орша згадваюцца ў летапісах пад адным годам і ідуць па жыцці равеснікамі. У свае 930 і ён, і яна — маладыя і прыгожыя. Фотакар БЕЛТА занатаваў адзін з эпізодаў свята аршанцаў — хросны ход у гонар юбілею горада на Аршанцы.**

## Музыка на ўсе рукі



**Сяргей Антонавіч Бараноўскі, жыхар Скідзеля, удзельнік Айчыннай вайны, музыка-віртуоз. Іграе на гітары, мандаліне, дудцы, гармоніку, баяне і акардэоне. Іграць на гэтых музычных інструментах навучыўся самастойна, падлеткам і юнаком яшчэ ў даваенныя гады. Многія дзесяцігоддзі Сяргей Антонавіч весяліў вяскоўцаў вёскі Карашава, адкуль родам, затым аднапалчан на фронце, а цяпер — жыхароў вуліцы Будзённага, дзе жыве. І яшчэ ёсць адно захапленне ў ветэрана вайны і працы — спевы ў царкоўным хоры Святаміхайлаўскай царквы Скідзеля.**

**Ілья БАРЫСАЎ**

*Фота аўтара*

## На календары... музыка

**Святы, імпрэзы, юбілеі, прэзентацыі... Не-не ды і пачынаеш успрымаць іх як штодзённыя падзеі, ад якіх, бывае, хочацца і адпачыць. І вось у такія хвіліны ўспамінаеш пра "ціхія" даты, якія маўкліва адзначае на сваіх лістках беларускі каляндар. Пагартаўшы яго, прыгадаеш некалькі постацяў, з якімі звязаны яркія старонкі ў гісторыі беларускай музычнай культуры. Гэта і народны артыст рэспублікі, легендарны канцэртмайстар Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі Сямён Талкачоў, з дня нараджэння якога споўнілася 90 гадоў. Гэта і таленавіты рознабаковы музыкант, харавы дырыжор, аранжыроўшчык і кампазітар Канстанцін Паплаўскі, якому споўнілася б 85. Столькі ж гадоў споўнілася з дня нараджэння вядомага ў свой час саліста опернай сцэны Вікенція Бруй-Шуляка. Неўзабаве — 60 з дня нараджэння цымбаліста-віртуоза Веніяміна Бурковіча... Імёны, даты — як згадкі пра тых, без каго ўжо немагчыма ўявіць складаны гістарычны партрэт беларускага музычнага мастацтва.**

**С. Б.**

ТЭАТР

# Не апошняя справа ў грамадстве

***"Дарагія білеты і паўнюткія залы", — уражанне ад тэатральнага Брэмена рэжысёра-педагога Універсітэта культуры Зінаіды ПАСЮЦІНАЙ. Яе двухмесячную стажыроўку, наладжаную з дапамогай Інстытута Гётэ, натуральна, склала не адно дасканаленне нямецкае мовы...***

— Старалася пабыць паўсюль, паглядзець як мага, — сведчыць Зінаіда Міхайлаўна. — Брэмен — не сталіца, але кіраванне горадам спраўджваецца адмыслова. Так, што толькі дзяржаўных (з рознай ступенню дзяржаўнай падтрымкі) тэатраў я налічыла восем. І шмат (безліч!) тых, хто адважваецца прапанаваць публіцы сваё разуменне й бачанне свету з падмосткаў. Шмат, вельмі шмат іграюць Шэкспіра. Чамусьці — Шэкспіра... Хоць нават тэатр "Шэкспір-кампані" не абмяжоўваецца толькі ім. Але Шэкспірава п'еса "Перыкл", напрыклад, рэдкая, да мяне не трапляла зусім, а спектакль тыповага тэатра прадстаўлення, які здзейсніў рэжысёр Піт Хольцварт, адметны вельмі й вельмі сучаснай манерай акцёрскага выканання (гэта пры тым, што кожны іграе па пяць роляў і віртуозна паспявае пазначыць свае пераўвасабленні грымам). Перыкл вандруе — таму акцёры, сустрэўшы гледачоў і прадаўшы ім праграмкі, ветліва пытаюцца, ці няма на спектаклі іншаземцаў. Ага, ёсць! І публіка імгненна ўцягваецца ў дзейсны сцэнічны вадакрут, зацікаўлена адгукаецца на такі неакадэмічны спосаб зносін. Я зразумела, як тэатр выпрацоўвае ды мацуе гэты спосаб: ці шмат ведаем мы пра так званыя вольныя рэпетыцыі, куды абавязкова (і абавязкова бясплатна) можа наведацца глядач? Адбываюцца яны досыць артыстычна, але рэжысёр, рыхтуючы сцэну, робіць акцёрам заўвагі па справе і на публіку не гуляе. Зала бітма набітая. Публіка ўтварае чаргу і пільнуе лепшых месцаў. Студэнты, старэйшыя школьнікі, дамы сталага і нават дужа сталага веку, шмат мужчын ды юнакоў... У розныя дні рэпеціруюцца розныя сцэны, так што настойлівы і вольны грамадзянін можа засведчыць сваю адданасць тэатру і паглядзець спектакль да прэм'еры. Але якая гэта рэклама! Бяспройгрышная, адмысловая...

У "Шэкспір-кампані" вабілі і монаспектаклі (маю досвед падобнае работы з нашай вядомай актрысай Рымай Маленчанкай), іх там чатыры, і сярод іх — самы сапраўдны адукацыйны спектакль! Ягоны жанр вызначаны, як тэатральнае чытанне: "Я, Паола, Паола Бекер, Бекер-Мадэрзон". Гэтая абвешчаная Паола — вядомая брэменская мастачка-авангардыстка (1876—1906), на сцэне — копіі яе карцін, актрыса Дагмар Папула чытае яе лісты і лісты, якія... напісаў драматург тэатра! Такі вось адмысловы дыялог праз стагоддзе. А тым часам у галерэі можна падзівіцца з аўтэнтыкаў Паолы Бекер, і тамсама, у галерэі вісіць расклад спектакляў пра мастачку... Якая так прагнула незалежнасці, што нават у лістах даводзіла: прозвішча мужа (Мадэрзон), уплыў мужа і самы муж не можа кінуць і цену на яе самастойнасць у працы ды ў творчасці. І што цікава: пазіцыя мастачкі, тэксты яе лістоў проста цэляць публіку, выклікаюць такія адметныя рэакцыі! Мяркую, гэта адбываецца таму, што тэатры вельмі й вельмі заахвочваюць гледача, падтрымліваюць ягоную цікавасць да самога тэатральнага працэсу (хоць бы тым, што да акцёраў пасля спектакля можна падысці і пагаварыць, і не ў грымёрны пакойчык, а ў зале ля сцэны!).

Зрэшты, на спектаклі білеты дарагія, так што акцёр адчувае: ён робіць не апошнюю справу ў грамадстве. Залы паўнюткія: глядач мяркуе, што свой каштоўны жыццёвы час бавіць не найгоршым чынам. А часам і найлепшым!

Тэатр на пляцы Гётэ ў пастаноўцы Канстанцыі Лаўтэрбах прапануе спектакль "Дона Разіта застаецца незамужняй" Лоркі. Рэжысёр ужо мае прэміі за сваю прафесійную дзейнасць, — рэжысура ў яе знакавая, але часам знакі, яднаючыся, разгортваюцца ў цэлую метафару, а што можа быць найбольш тэатральным? Лоркава Гранада асталявана на беразе, і каб прайсці ў дом, трэба прайсці праз ваду... І акцёры ідуць — у лакавых туфлях на шпільках, у святочных гарнітурах, вечаровых сукенках... Або — босымі: Разіце ж васемнаццаць гадоў! Кахаюцца, радуюцца, пішуць на пяску імя каханай... Танцуюць на плошчы... А ў другой дзеі вада знікае: вось-вось абрынецца вайна, чуваць самалёты, пагрозлівыя, бязлітасныя. На тым самым пляцы, дзе так радаваліся, танцуючы вакол Разіты, — сотні лістоў каханага... У фінале на пяску павязуць дзіцячыя каляскі тыя, хто бегаў па вадзе, — разумееце, тыя, хто лёгка ставіўся да свайго жыцця і да жыццяў блізкіх і далёкіх. Павязуць каляскі, абмяркоўваючы падзеі, дзяцей; разам з мужамі, з каханымі. Дона Разіта адна, але каб зразумець, як састарыла яе вайна, актрысе не трэба грыму. Такая вось пранізлівая рэжысура...

У тым самым Тэатры на пляцы Гётэ ідзе "Войцак" Бюхнера ў рэжысуры Крысціны Фрыдрых (яна вылучаецца сваім гратэскавым падыходам). У спектаклі і час, і месца дзеяння, і прастора — няпэўныя. Усе дзейныя асобы адначасова і знаёмыя, і незнаёмыя. Войцак — увасабленне жывой раны, ваеннай раны, ваеннага болю. Выконваюць ролі акцёры з набліжэннем да нашых уяўленняў пра другую сусветную вайну, хоць Бюхнер меў на ўвазе, вядома, падзеі першай. Вобразныя рашэнні на сцэне спрацоўвалі, уплываючы на падсвядомасць, на гістарычную прапамяць гледачоў. Адзінае, з чым я не пагадзілася, што выклікала ўнутраны пратэст — жорсткасць акцёрскіх дзеянняў у зносінах на сцэне (вядома, абумоўленая рэжысурай). Знарочыстыя, вельмі жорсткія, бязлітасныя (да гледачоў!) сцэны згвалтавання Войцакавай каханай, — дарэчы, самім жа Войцакам. Яе можна збіваць або цягаць па сцэне за валасы... Я разумею, што хацеў рэжысёр. Я дапускаю выбітную акцёрскую тэхніку, якая не дазволіць выканаўцам знявечыць адно аднаго. Але ў такіх сцэнах з тэатра знікае ўласна... тэатр, і вяртаецца цаною такіх самых жорсткіх акцёрскіх намаганняў — але ўжо ў дачыненні да саміх сябе як да творцаў, сатворцаў спектакля. Дальбог, спектакль толькі набыў бы, калі б фізічныя дзеянні акцёраў абазначалі, намякалі, распавядалі. А не ілюстравалі так побытава. Хоць пасля спектакля гледачы наладзілі цэлую дыскусію і ў мяне (хоць і маўчала) знайшліся аднадумцы з нямецкага глядацкага боку.

...Шмат тэатраў для дзяцей, для падлеткаў, для моладзі. Прыклад — "Мокс-тэатр" і спектакль "Містэр Бах, містэр Бах" Тона Тэлегена, драматурга з Галандыі. У праграмцы пазначана, што спектакль можна глядзець з шасці гадоў. Мяркую, да шасцідзесяці і далей. Простая фабула: адзін граф не можа спаць. Паўтарае гэта, дарэчы, разоў трыста. Заказвае Баху твор — практыкаванні для фартэпіяна. Вучань Баха іх старанна (віртуозна! насампраўдзе! натуральным чынам на фартэпіяна без прывіду фанаграмы!) выконвае. Граф... засынае. Так нарадзіўся твор, вядомы ў гісторыі як "Варыяцыі Гольдберга" (па прозвішчы Бахавага вучня). Рэжысёр — Францішка Штаёф. Яна зрабіла галоўнай дзейнай асобай піяніста, а героем — музыку Баха. Колькі падзей, учынкаў, жаданняў вакол гэтай музыкі! Як трапна вызначаны іх матывы, як далікатна ўзаемадзейнічаюць акцёры! Я б назвала спектакль далікатным выхаваннем пачуццяў. Дарэчы, яго працінае думка, што сапраўднае чалавечае шчасце магчыма толькі ў сям'і. У такой згарманізаванай, як сама музыка...

"Мокс-тэатр" сёлета святкаваў сваё дваццацігоддзе. Яно — нагода для тэатральных спрэчак самага рознага кшталту. Але самым цікавым і павучальным сталася, бадай, тое, што тэатр запрасіў да сябе шмат дзіцячых, школьных і да іх падобных аматарскіх, напалову аматарскіх і яшчэ якіхсьці (не даведалася, якіх) тэатраў! Запрасіў, фактычна, сваіх будучых гледачоў. Я пазнаёмілася з юнацкай групай такіх тэатральных аматараў з каларытнай назвай "Шнюршу тэатр" (Тэатр шнуркоў ад чаравікаў), а таксама з іхняю прэм'ерай "Палова шостай" — гэткім калажам на тэмы часу ў танцах, пластыцы. Рэжысёр — Клаўдзія Штраўс. Перадусім, уразіла тое, што ў розных канцах Еўропы тэатральныя людзі такія блізкія да метады Станіслаўскага! Што ў самім Брэмене шмат іграюць для падлеткаў: склаўся моцны сацыяльна-педагагічны тэатр з тэмаю, напрыклад, побытавага гвалту, або жорсткасці ў дачыненнях між маладымі людзьмі... Зала, дзе глядзела прэм'еру, — месцаў на шэсцьдзесят. Сярод гледачоў няможна пэўна пазнаць педагогаў і старэйшых школьнікаў — усё перамяшана. Але па тых пытаннях, з якімі яны звярталіся пасля прагляду да артыстаў, можна было выснаваць адназначна: не глядач увогуле рупіць тэатру, але перадусім — чалавек. Малады, юны, сталага веку, у росквіце або зусім стары; заможны, беднаваты, са стыпендыяй або з пенсіяй — гэтаксама як і з буйным рахункам у банку. Ці не таму гледачы проста прагнуць тэатра? Не зважаюць на кошт білетаў і напаўняюць залы як мага? Тэатр — не апошняя справа ў грамадстве...

**Зінаіду ПАСЮЦІНУ слухала
і натавала Жана ЛАШКЕВІЧ**

# "...Яна бачыць выратаванне свету"

Тэатр "Дрэздэн Брэтль" спакваля (хоць і з абавязковымі цяжкасцямі) даўмеўся свайго, а менавіта — пастаноўкі паводле Алены Паповай над назовам "Маленькія радасці жывых". П'есы, якая, паводле самой Алены, вельмі ёй дарагая, — нават тым, што не разумелі яе на нашых сцэнах (былі памкненні і беларускіх пастановак, але няўдалыя). 2 мая ў двухсотмесцавай зале "Дрэздэн Брэтль" месцілася ледзь не ўдвая больш гледачоў; "Маленькія радасці жывых" да сёння суправаджаюць аншлагі. Пастаноўка на чатырох акцёраў перадусім дае магчымасць паказаць, як той казаў, выбітны клас выканаўчага майстэрства што заўжды вітаецца ды заахвочваецца публікаю. Прыкметна: у спектаклі бярэ ўдзел спадар Юнге, дырэктар тэатра і адзін з вядучых акцёраў. Алена Папова назвала яго дрэздэнскім улюбёнцам: сапраўды, публіка, арыентуючыся на ягонае імя, не сумняваецца і ў якасці сцэнічнай прапановы, дзе гэтае імя фігуруе...

"Гэта дакладна — не камедыя, каб зайсціся рогатам; гэта — мова не такога кшталту, з якой штучныя вобразы пакутуюць на сцэне. Аўтар Алена Папова цудоўна ведае маленькія радасці жывых, яна адметна да выключнасці назірае жыццё. Стварае драматычныя сітуацыі паводле сітуацый рэальных, дае сваім фігурам тыя біяграфічныя дэталі, якія толькі і патрэбныя. Без плюгаўства, без пляткарства, проста так. Самым значным яна сама называе чалавечае. У тым, што ні камізм, ні глыбіня твора не губляюцца, пэўная заслуга Утэ Баум, якая перакладала..." Рэцэнзія ў "Дрэздэн найстэ" займае траха не падвал, аналізуюцца акцёрскія работы і падкрэсліваецца ўдзячнасць публікі за прапанаваныя сцэнічныя радасці: чатыры героі, што наважыліся былі ў эмігранты ды затрымаліся, чакаючы дакументаў, у Маскве, проста зрадніліся з дрэздэнскай публікай. Прафесійныя тэатральныя людзі асабліва прыязна ставіліся да драматурга — да Алены Паповай. Водгулле іх абмеркаванняў падала "Саксонская газета": "Для яе (драматурга. — **Ж. Л.**) тэатр — месца, дзе людзі мусяць разглядаць саміх сябе". "Ва ўдасканаленні кожнага паасобку яна бачыць выратаванне свету — ідэалістычная спадзяванка гуманітарнага кшталту паэтаў падчас застою, уласцівая таксама Шылеру".

"Я пішу пра сучаснасць, — казала ў інтэрв'ю Алена Папова. — Ніштo іншае мяне не хвалюе, я ніколі не напішу гістарычную драму. Насуперак сцвярджэнням журналістаў ды некаторых тэатральных рэцэнзентаў, няма ў мяне ніякай настальгіі па былых часах ды стасунках. Настальгія — надта грубае вызначэнне пачуццяў. У мяне ёсць стаўленне чалавека да часу. А для чалавека кожны дзень, які робіцца мінулым, афарбаваны... стратай. І ў гэтай страце — і драма, і трагедыя, бо мінае ўсё і нічога не вяртаецца. І гэта няможна назваць настальгіяй. А што да мяне... Я яшчэ не асэнсоўваю сваю творчасць. Я яшчэ толькі выпрацоўваю сваё стаўленне да цякучасці жыцця..."

П'есы Алены Паповай на сённяшні дзень пастаўлены ў тэатрах Беларусі, Расіі, Эстоніі і Германіі. У кожнай з п'ес перадусім вабіць стаўленне чалавека да часу. Да нашага з вамі, між іншым, часу: мы, як сучаснікі ў рэальных сітуацыях, акурат падпадаем пад законы драматычнага тэатра Алены Паповай. Мы прыдаемся ёй — разам з нашымі маленькімі радасцямі. Яна бачыць у нас выратаванне свету...

**Ж. Л.**

МУЗЫКА

***Два калектывы, якія працуюць у складзе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, рыхтавалі асноўную праграму фестывалю "Музы Нясвіжа". Гэта Камерны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі і Актэт духавых інструментаў пад мастацкім кіраўніцтвам Барыса НІЧКОВА. Запрасіўшы да размовы абодвух нашых знаных маэстра, прыгадаем, як і абяцалі чытачам, адметныя старонкі нясвіжскіх канцэртаў.***

# Перазовы часоў, гукаў, сэрцаў...

**Звяртаюся да заслужанага артыста Беларусі Валерыя Сарокі.**

**— Як і мінулым разам, вам давялося вельмі актыўна ўдзельнічаць у фестывалі, шмат часу вы правялі на сцэне, разам са сваім аркестрам. На ваш погляд, чым адрозніваўся сёлетні фестываль ад першага?**

**Валеры САРОКА.** На мой погляд, сёлетні фестываль вылучаўся большай ёмістасцю праграмы, разнастайнасцю рэпертуару. Былі прадстаўлены творы і старадаўніх беларускіх аўтараў, і сучасная наша музыка, і заходнееўрапейская класіка. Па многіх якасцях, мне падаецца, гэты фестываль вышэйшы за папярэдні. Уражвала выдатная арганізацыя. З'ехалася шмат гасцей, журналістаў і музыкантаў. Увогуле, фестываль нібыта камерны, але ён ахапіў вялікую сферу мастацкай дзейнасці. І, як мне падаецца, выкананне нашым аркестрам музыкі розных стыляў, розных кірункаў узбагаціла не толькі слухачоў, але і музыкантаў, якім давялося над гэтым рэпертуарам працаваць.

**— Праграма канцэртаў складалася быццам з двух пластоў — музыкі так званай старадаўняй і сучаснай. У гэты пласт старадаўняй музыкі ўваходзілі творы кампазітараў розных эпох, але іх аб'ядноўвала, канешне, прыналежнасць да беларускай зямлі. Міхал Клеафас Агінскі, Ян Голанд, Мацей Радзівіл, Напалеон Орда... Славуты Паланез Агінскага, як вядома, стаў візітоўкай фестывалю. Цікава, каму належала гэтая ідэя?**

**В. С.** Хутчэй за ўсё, гэтая ідэя належала самім слухачам. Пасля першага фестывалю было ад іх шмат пажаданняў яшчэ і яшчэ раз паслухаць любімы Паланез. Мы і не спрабавалі шукаць нічога іншага: я думаю, гэтая музыка менавіта такая, якая можа быць сапраўдным дэвізам нясвіжскага фестывалю.

**— У канцэрце старадаўняй музыкі была шырока прадстаўлена творчасць нашага выдатнага земляка Мацея Радзівіла. Асоба шматгранная, ён быў музыкантам, мецэнатам, выдатным рознабаковым культурным дзеячам. Надзіва дасканалая музыка Мацея Радзівіла сваімі каранямі арганічна звязаная з культурай Заходняй Еўропы і прадстаўляе своеасаблівы варыянт беларускага класіцызму...**

**В. С.** Аркестр, прынамсі, выконваў паланезы Мацея Радзівіла. Нягледзячы на тое, што яны напісаны адным майстрам, адным почыркам, мы паспрабавалі ўбачыць у гэтай музыцы розныя характары, нават розныя стылі, выявіць галоўнае, што іх аб'ядноўвае, — бездакорную высакароднасць, элегантную манеру і эфектнасць вобразаў.

**— А зараз я хацеў бы прыгадаць музыку яшчэ аднаго кампазітара, якая гучала на фестывалі, — музыку Напалеона Орды. Яго можна назваць "беларускім Шапэнам". Як вядома, Напалеон Орда быў не толькі кампазітарам, але і выдатным мастаком. Вядома таксама, што жыццё нашага земляка было багатае на розныя падзеі. Яму давялося нават навучацца ігры на фартэпіяна ў Шапэна і пасябраваць з ім. Безумоўна, што на творчасць Напалеона Орды зрабіла моцны ўплыў шапэнаўская музыка. Вальсы і накцюрны Орды — надзвычай светлыя і ўзнёслыя, поўныя бясконцай чароўнасці...**

**В. С.** Творчасць абодвух гэтых кампазітараў, сапраўды, мае шмат агульнага, быццам перагукаецца. Нягледзячы на тое, што Орда не так вядомы, як Шапэн, ягоная музыка вартая ўвагі: яна вельмі эмацыянальна насычаная і надзвычай выразная, адначасова — вытанчаная і рафінаваная.

**— Чытачы "ЛіМа" ведаюць, што падчас фестывалю адбылася прэзентацыя зборніка фартэпіянных п'ес Напалеона Орды. Выданне было падрыхтавана Беларускім інстытутам праблем культуры пад кіраўніцтвам Уладзіміра Скараходава, і для ўдзячнай нясвіжскай аўдыторыі гэтую музыку агучыў, у фартэпіянным арыгінале, выдатны піяніст Ігар Алоўнікаў. А вось камерны аркестр пад вашым кіраўніцтвам выконваў выключна аранжыроўкі твораў Орды. Аранжыроўкі, на маю думку, выдатна зробленыя. Свежае, сакавітае гучанне вальсаў, накцюрнаў уразіла нават прафесійнікаў, не толькі слухачоў-аматараў...**

**В. С.** Пераклаў творы Орды для аркестра Андрэй Шпянёў, які шмат гадоў працуе аранжыроўшчыкам у Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі. Ён рознабакова таленавіты чалавек, яго ведаюць як піяніста



і як аўтара эстрадных п'ес, ён робіць апрацоўкі песень, джазавых кампазіцый. А на гэты раз ён вельмі яскрава паказаў сябе яшчэ і як спанатраны знаўца і інтэрпрэтатар музыкі класічнай, надаўшы клавірным п'есам Орды яркасць і бляск аркестравага гучання.

**— Вельмі прыемна, маэстра, што адзін з фестывальных канцэртаў прысвячаўся сучаснай беларускай музыцы і яго мастацкім кіраўніком быў славуты кампазітар, прафесар Дзмітрый Смольскі...**

**В. С.** Сапраўды, добра, што Дзмітрый Браніслававіч рэкамендаваў нам сваіх таленавітых вучняў, з якімі нам давялося супрацоўнічаць, рыхтуючы праграму. Музыкантам аркестра вельмі спадабалася гэтая плеяда кампазітараў — і досыць маладых, і больш сталых. Як ні парадаксальна, адчуваецца рука настаўніка нават у тым, што Смольскі дае сваім выхаванцам поўную творчую свабоду ў вельмі разнастайных стылях і жанрах, ад музыкі барока да сучаснага інструментальнага канцэрта. Першы твор, які выконваў аркестр, — "Канцэрціна барока" Аляксандра Літвіноўскага, уражвае логікай кантрапунктаў, дасканаласцю і лаканічнасцю формы, але таксама і вялікай эмацыянальнай шчырасцю. Зусім іншы стыль, іншая тэхніка пісьма ў Канцэрце для гітары і аркестра Галіны Гарэлавай (была прадстаўлена другая частка твора). Музыка адначасова па-філасофску паглыбленая і летуценная, быццам адлюстроўвае складаны ўнутраны свет кожнага чалавека. Бездакорна саліраваў у гэтым творы наш вядомы гітарыст Валеры Жывалеўскі. Вельмі ўзрушылі публіку фрагменты з балетнага Дывертысмента Эрнста Ванжуры, аўтарскую версію якіх прапанаваў кампазітар Сяргей Янковіч. Іх моцны запал, энергічны рух проста захапляе!

**— Так, у версіі нашага сучасніка гучала музыка вядомага ў колішняй Еўропе кампазітара, які пэўны час жыў на беларускіх землях. А вось малады аўтар Дзмітрый Лыбін быў прадстаўлены сваімі пошукамі ў папулярных жанрах — "Журботным вальсам" і "Аддаленым напевам". А яшчэ быў адзін твор, які нікога не пакінуў абыякавым у зале. Я маю на ўвазе эфектны Канцэрт для цымбалаў з аркестрам Уладзіміра Кур'яна.**

**В. С.** Поспеху спрыяла і тое, што ў Канцэрце саліравала Наталля Кавалеўская, вельмі даравітая артыстка, чулы і тонкі музыкант. Дзякуючы яе бліскучаму майстэрству гэты твор набыў нейкае асабліва дасканалае гучанне. Увогуле, сама музыка Канцэрта надзвычай яркая і кантрастная, у ёй незвычайна раскрываюцца магчымасці цымбалаў — як віртуозныя, так і тэмбравыя. Канцэрт Уладзіміра Кур'яна — вельмі значная падзея ў беларускай музыцы.

**— Свята "Музы Нясвіжа" завяршалася канцэртам, у якім гучала сусветна вядомая класіка, і выкананне такога шэдэўра, як 40-я сімфонія Вольфганга Амадэя Моцарта, быццам сцвярджала ўзаемасувязь культур і часоў і арганічную ўключанасць беларускай музыкі ў агульнаеўрапейскі кантэкст.**

**В. С.** Сапраўды так. Я лічу, што гэта яшчэ мела своеасаблівую рацыю для самога аркестра. Артысты-струннікі камернага калектыву Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі маюць магчымасць іграць самую разнастайную музыку, і дачыненне да такіх высокіх узораў сусветнай класікі прымушае іх удасканальваць сваё выканальніцкае майстэрства, захоўваць неабходную прафесійную форму, неяк развівацца далей. Я спадзяюся, што мы з гэтай сімфанічнай партытурай справіліся, бо слухачы ўспрымалі нас вельмі шчыра, цёпла і доўга апладзіравалі.

**— Я ведаю, што пачалася падрыхтоўка ўжо трэцяга фестывалю "Музы Нясвіжа" і мяркую, што імпрэза будзе такой жа ўдалай і цікавай, а канцэрты парадуюць новымі знаходкамі і ў мінулай, і ў сучаснай музычнай культуры нашай беларускай зямлі.**

**А зараз у мяне пытанні да мастацкага кіраўніка Актэта духавых інструментаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі прафесара Барыса Нічкова. Ваша ўспрыманне фестывалю?**

**Барыс НІЧКОЎ.** Сёлетні фестываль адрозніваўся ўжо тым, што сярод удзельнікаў быў хор "Санорус", які спяваў цудоўна. Мінулым разам слухачы нас прымалі вельмі добра, а зараз... Ну, проста надзвычай цёпла! І тое, што на кожны білет у залу прэтэндавала 10 чалавек, якія вельмі хацелі трапіць на фестывальныя канцэрты, — проста выдатна для нашага часу. Летась была закладзена добрая традыцыя, і публіка з нецярплівасцю чакала працягу імпрэзы. Таму, абмяркоўваючы ўжо наступны фестываль, мы вельмі хочам, каб ён быў яшчэ больш разнастайны, каб слухачы не расчараваліся.

**— Дарэчы, драматургія канцэртнай часткі свята была добра прадумана: струнныя інструменты адценьваліся духавымі і наадварот, такі кантраст зрабіў праграму больш жывой і яркай... Аднак, давайце пагаворым пра Актэт пад вашым кіраўніцтвам. Калектыву ж неўзабаве споўніцца чатыры гады. Граюць у ім, наколькі я ведаю, самыя выбітныя, першакласныя выканаўцы Беларусі на драўляных духавых, лаўрэаты розных прэстыжных конкурсаў...**

**Б. Н.** Сапраўды, актэту 1 верасня будзе чатыры гады. Ідэя стварэння такога калектыву належыць і мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Міхалу Фінбергу, і мне. Паколькі Дзяржаўны канцэртны аркестр мае статус не толькі эстраднага, але і сімфанічнага, адна з ягоных задач — прапаганда музыкі класічнай. Наш актэт выступае самастойна, за чатыры гады мы ўжо далі больш за сто канцэртаў, удзельнічалі ў 12 міжнародных фестывалях. Склад ансамбля вельмі своеасаблівы, так званае "падвоенае дрэва" — 2 флейты, 2 габоі, 2 кларнеты, 2 фаготы. Такога складу не было сярод інструментальных калектываў колішняга Савецкага Саюза, і думаю, што цяпер ва ўсім свеце аналагаў мала. Звычайна выступаюць квартэты альбо квінтэты драўляных, а наш нетрадыцыйны склад заўсёды выклікае ў публікі шчырую цікавасць. Мы двойчы былі ў Францыі і ў Польшчы, удзельнічалі ў вельмі прэстыжных фестывалях "Віртуозы" ў Львове і "Залаты Арфей" у Крыме, — паўсюль нас слухалі з захапленнем. У нашым актэце сапраўды граюць лепшыя выканаўцы Беларусі, сярод іх лаўрэаты міжнародных конкурсаў флейтысты Сяргей Картэс, Яўген Віданаў, кларнетыст Іван Брычыкаў, выдатны фаготыст, заслужаны артыст рэспублікі прафесар Уладзімір Будкевіч...

**— Склад вашага ансамбля унікальны, хто ж робіць апрацоўкі партытур для яго?**

**Б. Н.** З першага дня існавання нашага калектыву апрацоўкі рабіў Леў Муранаў, апошнім часам з намі супрацоўнічае Генадзь Гедыльтэр, цудоўны майстар інструментоўкі. Зусім нядаўна нават прыйшло паведамленне з-за акіяна: амерыканцы зацікавіліся ягонай апрацоўкай "Дывертысмента" Мацея Радзівіла для актэта драўляных духавых і хочуць выдаць гэтую партытуру!

**— Як вядома, праграма нясвіжскага фестывалю складалася з музыкі старадаўняй, класічнай і сучаснай беларускай. Сярод сучасных твораў, безумоўна, прыцягнула да сябе ўвагу "Скерца" Ігара Паліводы. Доўгі час ён працаваў у аркестры Міхала Фінберга, зрабіў шмат аранжыровак, пісаў яркія песні...**

**Б. Н.** Я добра быў знаёмы з Ігарам Паліводам. І спецыяльна для нашага ансамбля ён напісаў "Скерца", адзін з першых арыгінальных, разлічаных на наш склад, твораў. Партытура адразу нас зацікавіла. Я не магу сабе дараваць, што не паспеў з ім раней сустрэцца, бо вельмі хацеў, каб твор быў падрыхтаваны дасканала. Гучанне "Скерца" з першых тактаў нібыта ўводзіць у трывожны свет, прасякнуты нейкім прадчуваннем. Мне падаецца, што Ігар інтуітыўна здагадваўся пра тое, што яго жыццё абарвецца, і ўвасобіў свой душэўны стан у музыцы...

**— Прыгадваючы той канцэрт, немагчыма не захапляцца ўзорам найвіртуознейшай тэхнікі выканання на габоі — п'есай кампазітара Паскулі "Пчолка". Хто мог уявіць сабе раней, што на звычайным габоі мажліва граць з такой неверагоднай хуткасцю! Для музыкантаў нават засталося загадкай, як можна на працягу больш чым пяці хвілін "дзьмуць у інструмент", не перапыняючы дыхання.**

**Б. Н.** П'еса "Пчолка", сапраўды, неверагодна складаная для габаістаў, і яе выконваць могуць толькі артысты з фенаменальнай тэхнікай і бліскучым валоданнем беспераныннага дыхання. Дастаткова сказаць, што сёння ва ўсім свеце знойдзецца мо каля дзесятка артыстаў, якія змогуць яе выканаць. Тым не менш, наш беларускі габаіст Алег Алясюк неаднойчы граў гэты твор на розных канцэртных пляцоўках, і, канешне, заўсёды меў вялікі поспех, авацыі і выклікі на "біс".

**— Вы ўжо згадвалі імя яшчэ аднаго выдатнага саліста актэта — Уладзіміра Будкевіча. Нядаўна музычная грамадскасць адзначала яго 50-гадовы юбілей. І спецыяльна да гэтай даты была напісана Фантазія на тэмы оперы Жоржа Бізэ "Кармэн", адзін з прэм'ерных паказаў якой адбыўся ў Нясвіжы...**

**Б. Н.** Твор гэты напісаў спецыяльна да юбілею Уладзіміра Будкевіча Генадзь Гедыльтэр. Твор надзвычай складаны і практычна дэманструе ўсе магчымасці выканальніцтва на фагоце — і задуменную кантылену, і рухавую віртуозную тэхніку. Саліст паставіўся да выканання вельмі сур'ёзна, шмат часу рэпеціраваў, спачатку з канцэртмайстрам, потым з музыкантамі актэта. Калі ўсё было гатова, мы самі проста захапіліся неверагодным хараством гэтай музыкі, чароўным спалучэннем гучання саліруючага фагота і ансамбля духавых. Фантазія на тэмы оперы "Кармэн" — сапраўдны бенефіс Уладзіміра Будкевіча. Мы вельмі ганарымся, што ён, адзін з лепшых у Еўропе фаготыстаў, — удзельнік нашага калектыву.

**— Мне застаецца толькі падзякаваць сваім суразмоўцам за сённяшнія музычныя згадкі і пажадаць у наступным годзе такога ж вялікага поспеху і любові публікі, якія спадарожнічалі выступленням Камернага аркестра і Актэта духавых на сёлетнім фестывалі "Музы Нясвіжа".**

**З Валерыем Сарокам ды Барысам Нічковым гутарыў Алесь ВОЛЬША**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## Пра людзей, якія жывуць поруч

МІКОЛУ КАПЫЛОВІЧУ — 60



**Празаік і нарысіст Мікола Капыловіч нарадзіўся 10 ліпеня 1937 года ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна. З маленства сялянскі сын увабраў у сваю душу хараство навакольных мясцін. Уражанні маленства пасля дапамогуць М. Капыловічу ў напісанні яркіх, па-сапраўднаму самабытных твораў.**

**А напачатку была сярэдняя школа ў роднай вёсцы, пасля сканчэння якой ён загадваў сельскім клубам, працаваў інструктарам Лельчыцкага райкама камсамола. У 1958 годзе М. Капыловіч паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На апошнім курсе вучобу спалучаў з работаю на рэспубліканскім радыё ў якасці рэдактара літаратурна-драматычных перадач.**

**Пасля універсітэта М. Капыловіч настаўнічаў у Цудзенішскай сярэдняй школе Ашмянскага раёна. У 1964 годзе вярнуўся ў Мінск. Быў рэдактарам у выдавецтве "Беларусь", літаратурным сакратаром газеты "Звязда", рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", працаваў на іншых пасадах. У 1983 годзе выйшаў на пенсію па інваліднасці і пераехаў жыць у Маладзечна. У 1989—1990 гадах быў загадчыкам аддзела пісем брагінскай раённай газеты "Маяк Палесся".**

**Літаратурную працу М. Капыловіч пачаў у студэнцкія гады. Першая публікацыя ў рэспубліканскім друку прыпадае на 1960 год, першую кнігу — зборнік апавяданняў "Скрозь жывуць людзі" — пабачыў у 1968 годзе. Аўтар кніг "Засада" (1979), "Дні ціхай восені" (1981), "Чужы сваяк" (1987)... Рэгулярна выступае з апавяданнямі, навеламі, нарысамі ў перыядычным друку.**

**Віншуем Мікалая Фаміча з 60-годдзем! Жадаем яму моцнага здароўя, далейшых творчых поспехаў!**

## Цуд васковага царства

**А чакае ён найперш хлопчыкаў і дзяўчынак, якія гэтымі днямі завітаюць у Мінскі Палац дзяцей і моладзі. Тут Санкт-Пецярбургскі музей васковых фігур пры падтрымцы прадзюсерскага цэнтра "Парадокс" арганізаваў выстаўку, на якой прадстаўлены 28 персанажаў любімых малечай казак. У палацы можна сустрэцца з баронам Мюнхгаўзенам і Беласнежкай, Русалкай і Бурацінам. Ёсць тут і Баба Яга, Кашчэй, да якіх, праўда, асмельваецца падысці далёка не кожны. А вось Карлсана з радасцю сустракаюць усе і адно шкадуюць, што немагчыма разам з ім палятаць над дахамі дамоў.**

**Калекцыя гэтых васковых фігур адметная тым, што яна не мае аналагаў у свеце і дагэтуль нідзе не паказвалася. А Мінск "выбрала" невыпадкова — выстаўка прымеркавана да 930-годдзя нашай сталіцы і праходзіць у рамках мерапрыемстваў, звязаных са святкаваннем юбілею горада.**

**Каб відовішча было больш маляўнічым і запамінальным для дзяцей, наведвальнікі могуць не толькі пазнаёміцца з экспанатамі, але і сустрэцца з артыстамі. А знакамітая і гэтак добра вядомая малым гледачам "Калыханка" мяркуе падрыхтаваць тут некалькі перадач, якія затым трапяць на блакітны экран.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Каб кожны горад меў сваё

27—29 чэрвеня ў Лідзе прайшоў Першы рэспубліканскі фестываль ансамбляў песні і танца. Фестываль у пэўным сэнсе унікальны, што абумоўлена адметнасцямі самога жанру. Артыстам тут трэба спалучаць спевы і гранне ў аркестры, танец і песню. А ўдалы канцэрт ансамбля песні і танца — гэта сапраўдная феерыя і незабыўнае відовішча.

У складзе ансамбля звычайна не менш за 50 чалавек (хор, група інструменталістаў і танцоры). Вядома, гастролі такога калектыву вымагаюць вялікіх выдаткаў. Але ж і без актыўнай канцэртнай дзейнасці выжыць цяжка: кожны кіраўнік ведае, як пагаршаецца псіхалагічная і творчая атмасфера ў калектыве, калі ідзе "халастая" праца. Зусім іншая справа — гастролі ці падрыхтоўка да вялікага канцэрта.

Фестываль стаў святам і для ўдзельнікаў, і для ўсіх лідчан. Ліда, як вядома, была абраная невыпадкова для яго правядзення: у гэтым невялікім і прыгожым горадзе існуе чатыры ансамблі песні і танца! Два з іх — "Лідчанка" (гарадскога Дома культуры) і "Чаравічкі" (Дома культуры абутковай фабрыкі) бралі ўдзел у фестывалі і выступілі даволі паспяхова, прытым што з'ехаліся ў Ліду лепшыя калектывы з усёй рэспублікі і канкурэнцыя была высокая.

З ліку дванаццаці канкурсантаў журы на чале з Міхасём Дрынеўскім адзначыла наступных: "Спадчына" з Маладзечна і "Нёман" з Гродна сталі лаўрэатамі першай прэміі; другое месца падзялілі "Лідчанка" і ансамбль песні і танца імя М. К. Агінскага (Смаргонь), а лаўрэатамі трэцяй прэміі былі названы "Яблынька" (г. Гарадок) і "Крыніца" (Жлобін).

Праграму фестывалю ўпрыгожылі выступленні Акадэмічнага хору імя Г. Цітовіча.

— Мы спецыяльна вырашалі спалучыць тут народнае і прафесійнае мастацтва: гэта дае плён і для самадзейных артыстаў, якія бачаць, чаму трэба павучыцца, як павышаць свой узровень і расці далей, і для прафесіяналаў, якія часам знаходзяць у такіх вандроўках цікавы матэрыял і нават пераймаюць нешта ад народных ансамбляў, — кажа начальнік Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі. — Гэтым разам мы не ставілі мэтай спаборнічаць з масавым мерапрыемствам, кшталту пастаўскага. Галоўнае — каб Ліда атрымала свой традыцыйны фестываль, а мы спадзяёмся, што менавіта такім і стане Фестываль ансамбляў песні і танца. Мы лічым, што кожнаму гораду трэба мець сваё музычнае свята, свой фэст, па якім бы гэты горад пазнавалі.

Паводле задумы арганізатараў, лідскі фестываль распачынае праграму вялікага Рэспубліканскага фестывалю народнага мастацтва "Беларусь — мая песня", які ахопіць усе віды і жанры творчасці і ўзновіць добрую традыцыю вялікіх імпрэзаў. Мяркуецца, што ў гэтым фестывалі возьмуць удзел усе — ад маленькага вясковага гурта да прафесійных ансамбляў з абласных цэнтраў і Мінска. Пачынаючы са снежня ў рэспубліцы будуць праходзіць рэгіянальныя і абласныя конкурсы па жанрах з тым, каб вызначыць лепшых выканаўцаў, а заключныя мерапрыемствы плануецца правесці ў сталіцы ў ліпені наступнага года. Арганізатары спадзяюцца, што гэта будзе самая яркая і масавая падзея ў культурным жыцці сталіцы.

**Ірына БАРАВАЯ**

*На здымках: старшыня журы фестывалю — Міхась Дрынеўскі; выступае ансамбль "Яблынька" з Гарадка.*

*Фота Я. КАЗЮЛІ, БЕЛТА*





# ГАБІ-ГАБРЫЕЛА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Яна стаяла на тратуары, слухала воклічы калоны і ўсё роўна нічога не разумела. Куды яны ідуць, што хочуць? I навошта іх перапыняюць міліцыянты, размахваючы чорнымі палкамі?

Хлопец з калоны, што апынуўся найбліжэй да яе, весела закрычаў:

— Эй, дзяўчына, пайшлі з намі!..

Габі быццам пацягнулі за руку, ласкава пагладзіўшы па шыі. I яна, не вагаючыся ні хвіліны, далучылася да калоны. Мусіць, ні ў кога не было такога адмысловага ўбору, бо яе запрасілі наперад. I яна адчувала сябе нібы адным са сцягоў, што луналі над гэтымі людзьмі.

Неўспадзеўкі ўсе захваляваліся, узмацнеў шум. I міліцыянты, здалося, з усіх бакоў кінуліся да дэманстрантаў. Яны білі іх палкамі, хапалі за рукі і ногі. Некуды цягнулі. Габі перапалохалася. Ускочыла б зараз у сваю любімую трубу на сметніку, і ніхто б яе не знайшоў. Толькі ж яна чалавек і кругом столькі люду. Усе ж не могуць быць кепскімі. Не, трэба выбірацца назад на тратуар і ўцякаць ад гэтага гвалту. Вось туды, дзе прагал між двума дамамі. У двор, у ціхае спакойнае месца.

Далёка яна не адышлася. Ззаду яе рэзка і груба схапілі нейчыя дужыя рукі. Пацягнулі, на імгненне пазбавіўшы волі і сілы. Міліцыянты брыдка мацюкаліся, і каб яшчэ трошкі, Габі зусім скарылася б. Моцна балела левая рука. Гэта змусіла неяк вырвацца, разарваць непрыемныя абдымкі. Яна адбегла ад сваіх ворагаў, шукаючы ў натоўпе, які няспынна варушыўся, праход, каб праз яго знікнуць. Дзе ж там. Два міліцыянты ўхапілі за рукі, ляпнулі па спіне дубінкаю і пацягнулі ў зялёную без вокнаў машыну, поўную людзей. Было цёмна і цесна. Іх некуды везлі. Потым адчыніліся дзверы і загадалі выходзіць. Габі трапіла ў вузкі без мэблі пакой, дзе ўжо сядзелі і стаялі жанчыны. Хто гаманіў, хто плакаў. Усе праклiналі міліцыянтаў і ўладу, якой яны служаць. Ля Габі сядзела на падлозе, падклаўшы пад сябе плашч, пажылая жанчына. Яна занадта не перажывала, што ў турме. Усмешліва аглядвалася, прыгаворваючы: "Вось дурні, вось дурні..." Потым прычапілася да Габі:

— Хто табе пашыў такі цуд? Гэта ж не спадніца, а ўзор народнага мастацтва.

Што можна было ёй адказаць? Дый Габі за ўвесь час не вымавіла ніводнага слоўка. I вырашыла маўчаць.

Грукнулі дзверы і на парозе ўзнік высозны з чорнымі вуснамі міліцыянт. У руках — дубінка, у вачах — нянавісць, ад якой захацелася куды-небудзь схавацца. Але куды, дзе? Няма такога месца. А вочы ўсё бліжэй да яе і спыняюцца на ёй.

— Ты! — паказвае пальцам на Габі. — Выходзь. Шпарчэй!

— Не бойся, даражэнькая... — кажа пажылая жанчына. — Хай бог табе дапаможа.

Вусаты вядзе Габі, узяўшы за локаць правай рукі, дыхае непрыемным пахам. Гэтак дыхалі мужчыны, што наведвалі гаспадыню. А мо і ён быў у яе?

— О, нацыяналістка! — здзіўлена ўскліквае яшчэ адзін міліцыянт, які сядзіць за сталом і піша. — Бач, як адзелася. Зняць бы з цябе спадніцу і пусціць голай па вуліцы. А, Аляксандр? Можа, зробім? — рагоча, пастукваючы ручкаю па стале: — Мы вас навучым уладу любіць. Ногі, рукі пераламаем, палюбіце. Фамілія, імя, отчества?

Габі не разумее, што ён пытаецца. Якая фамілія, імя, отчества? Яна маўчыць, цікуючы, каб скокнуць за парог. Пра што яна марыць? Як можна скокнуць. Забудзь пра гэта.

— Пашпарт! — зноў падаў голас міліцыянт. Яна не адказвае, пераступаючы з нагі на нагу, бо яны баляць ад нязвыклых туфляў. Ёй не падабаюцца гэтыя людзі. Здаецца, вакол іх чорнае воблака, якое вагаецца, то змяншаючыся, то павялічваючыся. А ў галаве ўсплывае малюнак бежанскага барака-хлеўчука. I яе бярэ хтосьці на свае магутныя крылы, вырываючы з тыфознага ложка.

— Абшукай нацыяналістку, — загадвае вусатаму той, які сядзіць за сталом.

— Гэта мы з радасцю...

Смурод набліжаецца да галавы, і вялізныя ўчэпістыя рукі-лапы пачынаюць лазіць па ўсім яе целе. Гучны рогат у пакоі і лаянка. Габі шкадуе, што няма кіпцюроў, што няможа зубамі ўхапіць за смярдзючую пысу. Цярпліва стаіць і маўчыць. Ёй трэба вычакаць, перажыць гэты момант. Ён міне і штосьці будзе іншае. Добрае ці благое. Гэта ўжо вырашыць яна. Толькі не можа зразумець, чаму людзі здзекуюцца над самімі сабой? Чаму не змагаюцца супраць сваіх крыўдзіцеляў? Ці ж гэты смярдзючы — найгалоўнейшы сярод усіх у горадзе?

— Мусіць, яна нямая, — гаворыць міліцыянт, што за сталом. — Пайшла адсюль вон! Яшчэ раз трапіш, сякір башка зробім. Ферштейн? А мо затрымаць яе на пятнаццаць сутак?.. Не, камеры перапоўнены. Дай ёй нагою пад хвост і — прэч!

Яна выйшла на вуліцу, калі гаспадарыў ужо вечар. Бледна-жоўты месяц азіраў зямлю. I час быў есці, бо страўнік проста вуркатаў. Памкнулася спярша да сметнікаў, але падумала, што нявартa забіраць астатнюю здабычу ў старых людзей. Усё ж на гарадской звалцы намнога больш ежы. Дурныя людзі! Яны выкідваюць прадукты, каб потым лазіць па брудных скрынях. Яны кормяць міліцыянтаў, каб тыя іх білі. I як яны жывуць! Горш за бяздомных катоў і сабак. Як ненавідзяць адзін аднаго. Не, лепей прытуліцца ў цёплай бетоннай трубе, спаткаць зрэдзь ласкавага ката і пасля аблізаць мяккіх, бы пух, кацянят. Хутчэй, хутчэй з горада! За кустоўе, у прыветную цемру, дзе свой блізкі кацiны пах. Дзе яе дом, і з якога ніхто не выкіне.

Ніводнага сведкі не было, калі прыгажуня дзяўчына збочыла з дарогі. I ніхто, пэўна, не бачыў больш яе. Толькі каты імпэтна скакалі на гарадской звалцы, ратуючыся ад сабак і злога чалавека.

ПОСТАЦІ

***На беларускім палітычным небасхіле за апошнія 10 гадоў успыхнула шмат яркіх зорак, што выявіла значны грамадскі і духоўны патэнцыял нацыі. Многія з гэтых зорак зніклі хутка, як і з'явіліся, але паступова пачаў фармавацца своеасаблівы клуб палітычнай эліты (КПЭ) — адзінка ў пэўнай ступені стабільная. Сяброўства ў ім, дарэчы, не абумоўліваецца ні партыйнай, ні палітычнай прыхільнасцю. У ім на роўных прадстаўлены як тыя, хто сёння "пры ўладзе", так і апазіцыянеры. Гэты ўмоўны (пакуль што?) клуб, бадай, адзіная "структура", дзе побач "сядзяць" Аляксандр Лукашэнка і Зянон Пазняк, Міхаіл Мясніковіч і Станіслаў Багданкевіч, Сяргей Калякін і Юрый Хадыка і многія іншыя... Праўда, кола сяброў КПЭ усё ж абмежаванае, бо стаць яго сябрам могуць толькі самыя яркія і неардынарныя палітыкі. Карацей, "пропускам" у гэты клуб з'яўляецца адзнака асобы, незалежнаад яе сённяшняга "статус кво" і стаўлення як палітычных прыхільнікаў, так і праціўнікаў.***

***Туды закрыты шлях для пасрэднасцяў. І адным са старажылаў КПЭ з'яўляецца Пётр Краўчанка, былы сакратар Мінскага гаркама КПБ па ідэалогіі, былы міністр замежных спраў (дарэчы, першы!) незалежнай Беларусі, сёння — адзін з лідэраў апазіцыі. Пётр Краўчанка — палітык, на "рахунку" якога шмат значных узлётаў, але ёсць і балючыя падзенні. Можа, якраз тыя "падзенні" і дапамаглі сфармавацца яму як адной з самых цікавых і каларытных (і што хаваць — харызматычных!) палітычных фігур на Беларусі.***

***Пётр Краўчанка — сёння адзін з тых нямногіх палітычных дзеячаў, здольных на нестандартныя, нечаканыя, а калі трэба — і кампрамісныя хады. Што да апошняга, то ў гэтым плане П. Краўчанка, бадай, увогуле унікальны палітык, які можа (і ён гэта не раз даказваў) знайсці паразуменне з самымі крайнімі палітычнымі антыподамі — і з тымі, з кім быў раней, і з тымі, з кім сёння. На жаль, на Беларусі сёння мала такіх палітычных фігур, здольных наладзіць "масток" паміж уладатрымальнікамі і іх гарачымі апанентамі. Ці не з-за гэтага — многія нашыя сённяшнія палітычныя канфлікты і супрацьстаянні, вынікамі якіх, як і належыць, карыстаюцца вонкавыя сілы?***

***Прынамсі, менавіта П. Краўчанка — адзін з тых апазіцыйных палітыкаў (разам з М. Грыбам і Г. Карпенкам), якія селі сёння за стол перамоў з уладамі. І што б ні гаварылі пра абставіны, якія папярэднічалі ім, пра бяссэнсавасць перамоў "ваўка" з "ягнём", сам факт гэты надзвычай важны, бо, па сутнасці, упершыню рэальна зроблены крок — хоць пакуль і сімвалічны — да палітычнага кампрамісу. Хто ведае, можа, якраз гэты крок і паўплывае на нашу далейшую гісторыю і лёс?***

***Незадоўга да пачатку гэтых перамоў наш карэспандэнт меў размову з Пятром Краўчанкам, фрагменты з якой мы і прыводзім ніжэй.***

# Пётр КРАЎЧАНКА: "Усё, што задумваў у жыцці, я рэалізоўваў!"

**— Пётр Кузьміч! Чалавек вы на Беларусі вядомы, паважаны, адзін з самых папулярных беларускіх палітычных лідэраў. Адным словам — палітык ад Бога. У сваім жыцці вам давялося пабываць амаль што на самай вяршыні ўладнага Алімпа. Якія рысы характару, якія ўласныя якасці дапамаглі вам дабіцца гэтага?**

— Я хачу адразу адзначыць, што не важна, кім ты з'яўляешся ў дадзены момант — ці то міністрам, ці то апазіцыянерам, ці афіцыйнаю асобаю, ці простым чалавекам. Самае галоўнае — ніколі не адмаўляцца ад справы, якую пачаў. Якраз імкненне давадзіць любую справу да канца я лічу сваёй самай моцнай рысай. Мала вылучыць нейкі тэзіс, прадэкларараваць яго. Вельмі важна паказаць, што можна зрабіць рэальна.

У сваім жыцці, дзе б я ні працаваў, я заўсёды верыў, што нават самыя безнадзейныя пытанні можна вырашыць. Воля, нацэленасць на канкрэтную справу — абсалютна неабходныя рысы для палітыка. Я палітык кампраміснага складу, але вось гэтыя рысы, ды яшчэ і працавітасць, атрыманыя ў спадчыну ад бацькі, маці, бабулі, дзядулі (дарэчы, лепшага гаспадара ў вёсцы), я вельмі цаню. Я з дзяцінства трудаголік — гэта, па сутнасці, спадчынная рыса.

Без вышэйадзначаных якасцяў я б ніколі не стаў палітыкам, а калі б і стаў, то мала чаго дасягнуў бы. Хачу сказаць абсалютна адказна — усё, што я задумваў у жыцці, за невялікім выключэннем, я рэалізоўваў. Напрыклад, усе мае культуралагічныя праекты, за выключэннем хіба што помніка Ф. Скарыну ў цэнтры Мінска, былі здзейсненыя. Тое ж датычыць і палітычных планаў. Я веру, нават упэўнены, што рэалізую іх.

**— Калі не сакрэт, якія з іх — хаця б у стратэгічным аспекце?**

— Не сакрэт. Шчаслівая, свабодная Беларусь. Інакш і я не адбудуся як палітык. Галоўнае, каб хапіла здароўя і жыцця.

І яшчэ. Я нічога не дасягнуў бы ў жыцці, калі б не трымаў слова. Пра мяне ніхто не скажа, што я паабяцаў і не выканаў. Адсюль і яшчэ адна рыса — адказнасць. Людзі, дарэчы, вельмі ўважліва ставяцца да гэтай рысы. І я не стаў бы дэпутатам Вярхоўнага Савета, асабліва апошняга склікання, калі балатаваўся ўжо будучы не "пры ўладзе"...

**— Пры ўладзе вы былі яшчэ ў часы кіраўніцтва КПБ і першыя гады незалежнай Беларусі. Якім карысным вопытам з часоў вашага знаходжання на яе вяршынях вы маглі б падзяліцца? І яшчэ, сёння многа гаворыцца пра тое, што ў сярэдзіне і канцы 80-х мы жылі вельмі добра і стабільна, і не трэба было нічога мяняць. Маўляў, тады назіраўся пад'ём прамысловасці. І Беларусь сёння была б у ліку перадавых у Еўропе, а не ў самым хвасце, як цяпер?**

— Сапраўды, амаль 10 гадоў я знаходзіўся на кіраўнічых пасадах — спачатку ў гаркаме КПБ, потым у МЗС. Кола пытанняў, якімі мне даводзілася займацца, — самае шматстайнае. У тым жа гаркаме я займаўся не толькі ідэалогіяй, агульнымі пытаннямі кіравання, але і канкрэтнымі кірункамі, такімі, напрыклад, як распрацоўка і ўкараненне сучаснай на той час робататэхнікі і самымі перспектыўнымі распрацоўкамі аўтамабіляў новага класа, т. зв. модульных аўтамабіляў. Карацей, даводзілася вырашаць вельмі розныя праблемы, многія з якіх удалося вырашыць. Адзінае, аб чым сёння шкадую, што не паспелі вынесці за межы горада ліцейную вытворчасць трактарнага завода. А такая задача тады ставілася. Зараз, нягледзячы на тое, што трактарны завод значна зменшыў аб'ём вытворчасці, экалагічная сітуацыя ў гэтым раёне значна пагоршылася.

Сёння, дарэчы, я ўсё больш займаюся якраз праблемамі эканомікі, разумеючы, што выйсце з нашага незайздроснага становішча трэба шукаць найперш у эканоміцы.

Цяпер што датычыць стабільнасці і пад'ёму ў беларускай прамысловасці напрыканцы 80-х гадоў. Я лічу, што якраз тады мы дасягнулі мяжы ў сваіх магчымасцях. Далейшага росту быць не магло. Паспрабую растлумачыць падрабязней.

Да сённяшняга крызісу прывялі нас не развіццё палітычных падзей, не Гарбачоў, Якаўлеў і Шэварднадзе, якія "злаўмысна развалілі" СССР, а эканамічныя прычыны. Чарнобыль быў зусім не выпадковым. Ён падвеў пэўную рысу, паказаў нежыццёвасць сістэмы, няздольнасць яе рэагаваць на выклік часу. Чарнобыль яскрава выявіў, што СССР не ў стане самастойна выйсці з крызісу, але ў той жа час не можа звярнуцца па дапамогу да іншых. На працягу 4-х гадоў мы хавалі ад свайго народа сапраўдныя вынікі трагедыі, у той час як на Захадзе гэта не было ні для кога сакрэтам.

Возьмем ваенна-тэхнічны аспект. Па многіх кірунках мы сталі безнадзейна адставаць ад Захаду. ВПК быў дзяржавай у дзяржаве, і працаваў сам на сябе. У нас трацілася на ўзбраенне параўнальна з Захадам значна больш сродкаў, бо там была зусім іншая арганізацыя працы, зусім іншая вытворчасць. Нам усё абыходзілася значна даражэй. Не бяздоннымі аказаліся і сыравінныя запасы СССР. Асноўныя, танныя, на канец 80-х былі, па сутнасці, вычарпаныя.

Нам трэба было не перабудоўвацца, а ўсё ў прынцыпе будаваць наноў. Ніякі эканамічны прарыў пры тых умовах ужо не быў магчымым. Рана ці позна крытычная маса павінна была выбухнуць.

Мы так і не змаглі стварыць эканамічную сістэму, якая б адпавядала рэаліям часу, якая б гарантавала людзям сапраўдную стабільнасць і нармальнае жыццё.

**— Вернемся да вашага асабістага лёсу. Скажыце шчыра, у вашай уласнай кар'еры вам нехта дапамагаў?**

— Так, у маім жыцці велізарную ролю адыграў Генадзь Барташэвіч, якога я вельмі паважаў і шаную як сапраўднага беларускага патрыёта. Гэта была даволі значная асоба на нашым палітычным небасхіле, вельмі яркая фігура.

**— Скажыце, ці змянілася сёння ўлада? Хто кіруе сёння Беларуссю? Новыя людзі ці тыя ж, хто і раней?**

— Адбылася проста трансфармацыя ўлады. Змяніўся ўзрост яе носьбітаў. Бюракратыя памаладзела, але не стала лепшай. Ды і не магла стаць. На кіруючыя пасады сёння прыходзяць, на жаль, непадрыхтаваныя і дрэнна адукаваныя людзі, у якіх практычна няма сур'ёзнага вопыту кіравання на высокім узроўні. Я ўпэўнены, што бліжэйшыя 10 гадоў прынцыпова не з'явяцца новыя лідэры высокага ўзроўню, бо для гэтага патрэбен значны час. Эліта развіваецца па сваіх законах. Каб стаць палітыкам нацыянальнага маштабу, патрэбен абавязковы працэс выспявання, які займае 15—20 гадоў... Палітыку неабходна прайсці ўсе этапы і прыступкі кар'еры, каб стаць прафесіяналам. На гэта патрэбен час.

**— Падобна на тое, што сённяшняя ўлада не толькі не пазбавілася ад былых шкодных і груваcткіх стэрэатыпаў, ідэалагем, якія ў свой час прывялі сістэму да фіяска, але наадварот, надае сёння ўсё тым жа "адзіна правільным" догмам ледзь не містычную ўвагу і значэнне?**

— Справа, мусіць, не столькі ў стэрэатыпах, а найперш у невысокай кваліфікацыі. Яны выконваюць свае функцыі менш прафесійна. Самае галоўнае, што яны не думаюць пра будучыню. Што да стэрэатыпаў, то ад іх пазбавіцца надзвычай цяжка. Зноў жа, спатрэбіцца не адно дзесяцігоддзе, каб народ і эліта поўнасцю "атрэслі" з сябе тлум шкодных і небяспечных ідэалагем.

**— А вы асабіста змаглі пазбавіцца?**

— Я быў бы няшчыры перад вамі, калі б сказаў, што гэты працэс ішоў для мяне проста. На многіх этапах жыцця ў мяне адбылася сур'ёзная ўнутраная ломка, пераасэнсаванне былога, і гэта быў вельмі складаны працэс. І канец 80-х — мітынгі Народнага фронту і жнівеньскія падзеі 1991 года, і мая адстаўка з пасады міністра ЗС, і вельмі напружаныя падзеі лістапада 1996 — усё гэта не прайшло для мяне бясследна. Але я з гонарам магу сказаць, што ніколі не паводзіў сябе кан'юнктурна, непрыстойна, добра разумеючы, што потым людзі ніколі не будуць ставіцца да цябе сур'ёзна.

Я мог бы прыстасавацца і да цяперашняй улады, але я заўсёды гаварыў, што магу падначаліцца толькі таму, каго паважаю. Гэта павінен быць сур'ёзны, маральны палітык. Трэба сказаць шчыра — зусім нялёгка даецца трансфармацыя ад партыйнага кіраўніка другога эшалона да міністра, а затым да апазіцыянера ўладзе. За гэтым мноства цяжкіх роздумаў, бяссонных начэй. Як, напрыклад, у Нью-Йорку, перад першым выступленнем на сесіі Генеральнай асамблеі ААН, калі ўсведамляў, што заўтра буду гаварыць ад імя ўсяго беларускага народа...

Былі моманты, калі я часам свядома ішоў на нейкі эпатаж, выклікаючы агонь на сябе, добра разумеючы, што гэта можа справакаваць раздражненне кіраўніцтва. Напрыклад, калі прыняў рашэнне выступаць на сесіі ААН у вышыванцы. Але я добра разумеў, што праз гэты эпатаж я магу прыцягнуць увагу да Беларусі. Гэта ж так натуральна, міністр замежных спраў Ірана мог выйсці на трыбуну ў нацыянальным строі, гэтак, дарэчы, як і кітайцы, індусы, некаторыя еўрапейскія лідэры. У тых жа амерыканцаў, напрыклад, няма сваіх нацыянальных строяў, а ў нас ёсць. Я, безумоўна, добра разумеў наступствы гэтага свайго кроку. І тым не менш пайшоў на яго. Потым вядомы настаўнік Алесь Белакоз прасіў гэтую кашулю ў свой музей, але я захоўваю яе да лепшых часоў... Я абсалютна сур'ёзна веру, што прыйдзе такі час, калі кіраўнік беларускай дзяржавы будзе прымаць прысягу ў нацыянальнай кашулі.

Быць патрыётам сваёй дзяржавы, шанаваць яе культуру, мову — гэта вялікі гонар. Наша моладзь у пачатку 90-х пачала разумець, што беларуская мова — гэта рыса прыналежнасці да сапраўднага істэблішменту, рыса сапраўднай адукаванасці і інтэлігентнасці. Гэта вялікі зрух у свядомасці.

І яшчэ наконт патрыятызму. На Камароўцы я ніколі не куплю сыр у жанчыны з Арменіі ці Грузіі, а падтрымаю нашу беларускую бабулю, якая зрабіла наш беларускі сыр. Не таму, што я шавініст. Проста, калі мы ўсе сёння зразумеем, што трэба падтрымаць нацыянальную вытворчасць, гандляроў, прадпрымальнікаў, тады мы станем гаспадарамі. Вельмі важна нават і тое, якую, напрыклад, шыльду павесіць прадпрымальнік — "Магазин" ці "Крама". І трэба ўсімі сродкамі падтрымаць апошняга, бо нават у вонкавым афармленні заключаецца велізарны сэнс.

**— Тут, відаць, можна гаварыць не толькі пра эканамічны, але і пра духоўны бок?**

— Безумоўна! Падтрымліваючы свайго гандляра, які не цураецца ўсяго беларускага, пакідаючы яму свой рубель, мы аддаём гэты рубель сваёй Бацькаўшчыне. Ён (той рубель) пачынае потым працаваць на яе дабрабыт. Ніхто не супраць гандлю з замежжам, гэта сёння натуральна, бо мінуліся часы жалезнай эканамічнай і духоўнай заслоны, але найперш трэба падтрымаць сваё, беларускае. І той рубель, падмацаваны намі з усіх бакоў не толькі эканамічна, але і духоўна, калі ён зможа абаперціся на творчыя і духоўныя традыцыі тысячагадовай цывілізацыі нашых продкаў, запрацуе, як кажуць, на ўсе абароты...

А што мы маем сёння? Гаворым, што Форд-юніён — гэта вялікі прарыў, здабытак для Беларусі ў плане інвестыцый. Але якая вытворчасць закладваецца ў нас Фордам? Мы будзем выпускаць аўтамабільную прадукцыю ўзору 1988-89 гг. Вось калі б наша кіраўніцтва знайшло інвестыцыі на выпуск электрамабіля — аўтамабіля XXI стагоддзя — нямецкія, амерыканскія, японскія, расійскія (я глыбока перакананы, што без расійскіх нам не абысціся і яны будуць працаваць на дабрабыт Беларусі), то тады перад ім можна было б зняць капялюш...

**— Эканамічныя прыярытэты вы бачыце трохі інакш, чым кіраўніцтва Беларусі. А што датычыць палітычных?**

— Гэта доўгая размова, але калі коратка, то сёння нашым уладам трэба працаваць над тым, каб Беларусь уступіла не толькі ў Савет Еўропы, хоць і гэта вельмі важна, але і шукала шляхі для інкарпарацыі ў Еўрапейскі Саюз. Вось тады можна будзе гаварыць, што гэтая ўлада думае пра будучыню нашай краіны. А пакуль што мы жывём тым багажом, які быў напрацаваны нашымі папярэднікамі. Так, напрыклад, гаспадарка Мінска існуе сёння дзякуючы тым людзям, якія працавалі 10—12 гадоў таму — Г. Барташэвічу, І. Шкрабнёву, М. Кавалёву. Яны заклалі падмурак стабільнасці ўсёй гарадской інфраструктуры — крыніцы цеплазабеспячэння, электраэнергіі, вады. Я з жахам думаю пра тое, што чакае наш горад праз 5 гадоў. Усё паступова зношваецца і практычна не затрачваюцца сродкі на рэканструяванне гарадской гаспадаркі.

**— Дык які ўсё-такі шлях выхаду з крызісу?**

— Найперш трэба не перашкаджаць людзям, а давяраць, тады яны навучацца працаваць і зарабляць самі — прычым не толькі на сябе, але і змогуць плаціць дзяржаве добрыя падаткі. Сам па сабе працэс самарэгулявання эканомікі ідзе, але, на жаль, часта не дзякуючы дзяржаве, а насуперак яе ўсемагчымым абмежаванням...

А ад дзяржавы патрабуецца толькі адно — стварыць пэўныя "рамачныя" ўмовы, каб людзі маглі спакойна працаваць, не баючыся, што вынікамі іх працы, як гэта было не раз раней, змогуць распарадзіцца іншыя. Прыярытэтным павінны быць стварэнне ўмоў для росту дробнага і сярэдняга бізнесу, каб такія прадпрыемствы і фірмы раслі, як грыбы пасля дажджу. А для гэтага іх трэба цалкам вызваліць ад падаткаў на 3—5 гадоў. Але для гэтага патрэбна воля дзяржавы — інакш кажучы, абсалютна іншая, чым ёсць сёння, падатковая база.

Справа, дарэчы, і не толькі ў стратэгіі, не толькі ў асноватворных элементах гаспадаркі. Паглядзіце, колькі навокал нас дробязяў, якія страшэнна дэзарыентуюць, разбураюць, а то і атручваюць наша жыццё. Узяць, напрыклад, нумарацыю нашых дамоў, дзе не толькі людзі, а і сам чорт галаву можа зламаць... З такіх вось дробязяў і складваецца наша жыццё. А іх сотні, тысячы... Мы жывём неарганізавана, нерацыянальна, праз "пень-калоду", не па тых цывілізаваных і даўно адпрацаваных схемах, што прынятыя ва ўсім свеце. Гэта значыць, у нас яшчэ вельмі многа магчымасцяў для ўладкавання і паляпшэння свайго быцця... Карацей, поле для працы ў нас вялікае. Мы маем цудоўны, працавіты і сумленны народ, і я веру, што гэты народ пераадолее сённяшні крызісны стан.

**— Дзякуй вам за цікавую размову!**

— Дзякуй вам таксама. Прашу перадаць шаноўным чытачам "ЛіМа" маю павагу і найлепшыя пажаданні!

**Гутарыў Алесь ЛІХАВЕЦ**

## Азірнуўшыся назад

*"Вось і скончыўся апошні год, наш ліцэйскі непаўторны год..."*

**Апошняя развітальная песня... Яна шчымліва кранае сэрцы, сэрцы выпускнікоў. Мы развітваемся з Беларускім гуманітарным ліцэем.**

**Магчыма, ён яшчэ не набыў гучнае імя, бо яму толькі пяць гадоў, але для нас, навучэнцаў, для бацькоў і выкладчыкаў ліцэй — самая прэстыжная, самая вядомая, самая дарагая навучальная ўстанова. І меркаваць так ёсць падставы.**

**Ці знойдзеце вы ў атэстатах сёлетніх выпускнікоў назвы такіх прадметаў, як логіка, паліталогія, уводзіны ў філасофію, гісторыя культуры, гісторыя і культура беларускай мовы, другая, а ў найбольш здольных і трэцяя замежная мова (у каго — чэшская і нямецкая, у каго — польская і лаціна)?**

**Ці адчуеце вы яшчэ дзе-небудзь атмасферу сапраўднай беларускасці, як тут, у ліцэі, дзе і выкладанне, і пазакласная праца — на беларускай мове? Ды і курс беларускага дойлідства, этнаграфіі і фальклору, гісторыі тэатра і музыкі, краязнаўства Беларусі вы наўрад ці праслухаеце ў якіх-небудзь іншых сярэдніх навучальных установах. Маем мы і сваю кінастудыю, і газета свая, ліцэйская, выдаецца. Так, ёсць што ўспомніць, ёсць дзе разгарнуцца таленту, ёсць чым ганарыцца.**

**...Адышоў, адшумеў выпускны баль. Сумна і радасна на душы. Ліцэй — ужо частка твайго жыцця. Ужо азіраешся назад і гэтак хочацца вярнуцца, каб яшчэ раз пабыць на ўроку беларускай мовы сп. В. Сіўковіч, паслухаць лекцыю па літаратуры сп. Л. Баршчэўскага і сп. І. Шаладонава, затрымаць тую хвіліну, калі атэстат уручаў Ніл Гілевіч...**

**Ды прыйшлі ў ліцэй новыя навучэнцы, нашыя месцы там ужо занятыя...**

**Алена ГІЛЕЎСКАЯ,**
**выпускніца Беларускага гуманітарнага ліцэя**

## Дзеду Восіпу — сто



**Сто гадоў за плячыма Восіпа Андрэевіча Таранка, жыхара вёскі Бандары Гродзенскага раёна. Былі ж яны нялёгкія. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне, быў паранены, трапіў у палон, уцёк, працаваў на сваёй асабістай гаспадарцы, потым, да пенсіі і пасля пенсіі ў калгасе "Азёры". Выгадаваў і вывеў у людзі траіх дзяцей (цяпер ужо і яны ўсе пенсіянеры), дачакаўся шасцярых унукаў і двух праўнукаў. Быў адзін з першых чытачоў бібліятэкі Таварыства беларускай школы, якая існавала ў канцы 20-х гадоў у Скідзелі. Пасля яе забароны польскімі ўладамі захаваў некалькі кніжак з той бібліятэкі, якія зберагае і па сённяшні дзень. І да ста гадоў захаваў працаздольнасць і светлую памяць.**

**З днём нараджэння яго віншавала ўся вёска, увесь калгас.**

**Ільля БАРЫСАЎ**
*Фота аўтара*

СПАДЧЫНА

***"Позняе пожні радок..."* Гэта апошнія вершы Цімоха Васільевіча, падрыхтаваныя ім самім незадоўга да смерці. У рукапісным варыянце яны мелі падзагаловак: "З дзённікаў 94, 95". У гэту падборку ўваходзіла 47 вершаў. Частку з іх Цімох Васільевіч надрукаваў у свой юбілейны год, а гэтыя вершы з пafeткаю: "ЛіМу" ў восенскі N 96" пакінуў на пісьмовым стале. На жаль, яму ўжо не суджана ўбачыць яе публікацыю. Роўна год, як Цімоха Васільевіча няма сярод нас.**

***Апошнія гады ён шмат працаваў. Можна было толькі здзіўляцца, адкуль у яго, чалавека ў гадах, бралася столькі сіл. Ён быццам прадчуваў набліжэнне немінучага рубікона, а таму спяшаўся завяршыць пачатую справу. Падрыхтаваўшы да выдання кнігу "Урокі роднага слова" — своеасаблівы падручнік для пачатковых класаў, ён завяршаў працу над кнігай з вельмі сімвалічнай назвай "Апошні аўтограф чорнага дзятла". Гэту рэдкую птушку Цімох Васільевіч убачыў у чэзлым сасонніку на Іслачы ў 1988 годзе. Дзяцел быццам выбіваў на кожнай сухадрэвіне трывожную дэпешу: "Людзі, ратуйце вашы душы!" Яна, як пісаў паэт, і сталася гукам камертона, што міжволі быў увесь час на слыху, пакуль складалася кніга.***

***Друкуючы гэтую падборку ў гадавіну смерці Васіля Віткі, успомнім яго добрым словам. Няхай памяць аб ім застанецца ў сэрцах тых людзей, якія яго добра ведалі, каму ён шмат зрабіў дабра.***

**Тамара ТАРАСАВА**

Васіль ВІТКА

# Позняе пожні радок

●

*Мінае першы месяц лета.*
*Не памятаю больш знібелага, чым гэта,*
*Што выпрабоўвае нас злом,*
*А душы нашыя на злом.*

*Яшчэ на памяці залеташні сухмень і спёка,*
*А гэтага — агорклая зіма.*
*Пачатак ад Чарнобыля адлікам недалёкі.*
*Аблогі круг — ратунку нам няма.*

*Злачынны век аджыў сваё — і годзе,*
*А з ім і мы — заложнікі ў жыцці.*
*У новае тысячагоддзе*
*Нам добрай памяццю ўжо не ўвайсці.*
22.06.94

●

*Не знаю, не знаю,*
*З чым нас Бог паяднае —*
*З пеклам, ці раем,*
*Засталася б памяць трывушчая.*

*Цераз тысячу год адвечнаю песняй*
*Уваскрэс на іўрыце Ізраіль,*
*Калі ж Беларусь уваскрэсне*
*На беларушчыне?*

*Толькі б новыя маці не нараджалі*
*Болей ні жоглаў, ні дзяржымордаў,*
*А сыноў і дачок дзеля дзяржавы,*
*Роўнай і годнай паміж народаў.*
7.09.94

### Бягоніі

*Па-рознаму і кветкі паміраюць,*
*І кожная па-свойму гіне:*
*Па першым замаразку астры дагараюць,*
*Трываюць да апошняга вяргіні.*
*Даўно адчуўшы перамены,*
*Цнатлівыя пагаслі цыкламены.*
*Адны, не трацячы надзеі,*
*Звысоку пасміхаюцца касмеі:*

*"Яшчэ далёка да зімы,*
*Паспеем выспеліць насенне мы".*
*І толькі познія бягоніі*
*Каторы дзень палаюць у агоніі.*
*Бягоніі ў агоніі і сёння.*
19.10.94

### Мінскія качкі

*На Свіслачы качкі*
*Жывуць, як жабрачкі,*
*Забыўшыся пра вырай,*
*Вырай ім абыраў.*

*І што ён ёсць на свеце*
*Не ведаюць іх дзеці.*
*Хто вырас на памыйцы —*
*На неба не падымецца.*
15.10.95

### Валовае вока

*Яшчэ калі ганяў на пасту,*
*Даведаўся, што сярод птаства*

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

*Глядзіш* на яе — і ўжо *не верыш* сваім вачам... і пачуваеш сябе поўным ідыётам без гумару і іроніі...

●

Чытаючы рэдакцыйныя рукапісы, часам сутыкаешся з неадпаведнасцю тэксту і творцы.

Часта добры сам па сабе чалавек піша благія вершы. Альбо, што не рэдкасць, — наадварот.

Здавалася б, якая несправядлівасць! А раздумаешся — не, усё якраз справядліва.

У дабраце не спавядаюцца. Няма сэнсу. Яна і так відавочная і ўхваленая.

Спавядаюцца ў *чаканні крыжа*, а не вянца...

●

Варочаюся ў пятніцу вечарам з працы. На вуліцах і ў гарадскім транспарце процьма падпітых і п'яных мужыкоў...

Дачасна адзначаюць заўтрашні дзень Абаронцаў Айчыны (23 лютага). Свята, як для Беларусі, штучнае, але што ўжо...

Пах перагару, лаянка несусветная, абразы, знявагі... Нават уявіўшы іх цвярозымі, не магу ўявіць іх *абаронцамі.* Найперш — *агрэсарамі*... НАТА мае рацыю...

●

Адзін даволі вядомы літаратар распавядае: "Прысніўся сон пад раніцу — атрымліваю Нобелеўскую прэмію!.. Чытаю лекцыю па-ангельску, а сам чытанага не разумею... Плюнуў і давай шпарыць па-беларуску... І тут — бачу — яны не разумеюць... І настолькі ўсё натуральна, што — прачнуўся. Сяджу. Думаю: *ці не сон гэта?!*"

●

Паэту трэба *вымагаць слова* з сябе, *не вымагаючы сябе* са слова...

●

Ёсць падсвядомае адчуванне, што чалавецтва дарэшты выгаварылася на сваіх мовах. І ўжо няпэўна, але прагаворвае сваю новую агульную мову, і зусім магчыма, што гэта будзе не мова сэнсавых гукаў (бо яна не паспявае за часам), а мова духоўных прадчуванняў, прадбачанняў і празарэнняў...

●

Паэзія — гэта не бясплоднае рытарычнае закаханне да нечага ці некага, гэта самая што ні ёсць блізкая інтымная сувязь паэта са светам.

І калі ўжо семя гэтай блізкасці заронена, то яно апладняецца ў душы і ва ўсёй тваёй істоце — спее, расце, развіваецца, шырыцца...

І ты жывеш — з ім унутры — як бы двайным жыццём, і яго і сваім: спіш, ясі, ходзіш на службу, гамоніш з сябрамі, злуешся, радуешся, смуткуеш... А тое, унутранае семя, абрастае вонкавым вопытам твайго жыцця... Ты *жывеш абцяжараны светам*...

І так працягваецца і дзень, і два, і тры, і тыдзень, і месяц...

Але аднойчы ў слоўных муках ты ўсё ж *нараджаеш* верш...

І калі ён *жывы* і людзі прымаюць яго за *паэзію*, то ты любіш яго, як сваё *дзіця*, а калі — *мёртвы*, то спратваеш яго, як жанчына *выкідыш*...

●

Кожная, наша думка ганарлівая, паколькі мае намер сябе сцвердзіць.

●

Гэтая зацемка пераважнай сутнасцю сваёй належыць крытыку Генадзю Шупеньку. Аднойчы, падбіваючы яго ў тэлефоннай размове да напісання артыкула пра Анатоля Сыса, я, відаць, прыпсаваў яму і без таго не лепшы настрой.

"А табе хіба яшчэ не даводзілася чуць такое? — пытаецца ён і, пачуўшы мой неўразумелы мык, распавядае. — Ідзём гэта мы неяк пісчай кампаніяй у Дом літаратара. Насустрач — Сыс. Ужо ў добрым стане: "О-о-о!!! Каго бачу!.." Ну, абдымкі, прыпаданне ўпалых грудзей... Чалавек збоку падумаў бы, што гэта гістарычна-слёзная сустрэча пасля доўгай ростані... Так сустракаюць у нас толькі салдат пасля дэмабілізацыі альбо рыштантаў пасля турмы... Ну, няважна... Працягвае ўрэшце руку і мне. "Ты мяне ведаеш?" — звяртаецца да мяне, вульгарна і цынічна, але з унутранай упэўненасцю, што, вядома ж, ведаю... А як жа, кажу, хто ж Сыса не ведае! Дабрэе на вачах... І, раптам, пры ўсіх гундосіць самазадаволена: "І я цябе ведаю! Ты — Шкраба". Неба памеркла ў маіх вачах... Так што, прабач, браце, сапраўднага Сыса я пакуль яшчэ не ведаю..."

Паклаў я трубку, ды сам сабе маракую: вось, здавалася б, просталінейны Сыс, а захаваў-такі крывізну іранічнага мыслення...

●

Разглядваем-расшыфроўваем з Акудовічам і карэктаркай Галяй рэдактарскія праўкі Алеся Разанава ў апошняй часопіснай карэктуры...

Наскальны клінапіс!

Які мудры чалавек, а добра *пісаць* так і *не навучыўся*...

●

Прыходзім нейк рэдакцыйным "крынічным" гуртом для запісу на адну са студый Беларускага тэлебачання. Пасадзілі перад камерамі, уключылі асвятленне. Штосьці не тое. Рэжысёру не падабаецца. "Твары блікуюць"...

Выклікаюць грымёршу. Тая ходзіць з пудраніцай ад аднаго да другога, мэзгаючы ружаватай ваткай насы, шчокі, "сакратаўскія" лбы...

Натыкаецца на барадатага, зарослага ржавым шчаццём Уладзю Арлова. Разгублена пытаецца ці то ў нас, ці то ў рэжысёра, ці то ў самое сябе, адсутна ўзіраючыся ў знанага айчыннага літаратара: "А з гэтым, што рабіць?.. У яго ж *твару няма*..."

●

Прачытаў за дзве ночы рукапіс Сяргея Верацілы. Трыццаць шэсць старонак самапісных завітушак — на адвароце контурных картаў, камерцыйных бланкаў, даўніх студэнцкіх курсавых работ... Папера пашкуматаная, зацёрханая, не надта чыстая...

Аднак ёсць *нейкая магія* — і задумы, і сюжэта, і стылю, і вар'яцтва, і шчырай графаманіі...

Чытаць было цяжка, слепа, *чакаючы* канца, і *не жадаючы* яго...

Магчыма, гэта і *ёсць* тая беларуская літаратура, якой *няма*...

●

Я быў нармальным, у меру адукаваным і інтэлігентным чалавекам — беларусам па плоці, крыві і духу, але без асаблівых *комплексаў*...

Лукашэнка зрабіў з мяне ярага *нацыяналіста*, пакуль яшчэ без *шызы*, аднак — хто ведае...

●

Бабкова разумею *фрагментарна*...

●

Стаміўся ад літаратуры дарэшты. Асабліва ў апошнія гады на рэдактарстве...

Бясконцы тэкст чужога жыцця...

●

Ці выбівалі вы дываны на чыстым, бялюткім лапіку снегу пад вокнамі свайго дома? Ну, хоць раз за ўсю зіму?!

На тым месцы, дзе вы няшчадна і ўвішна малацілі свой хатні дыван, застаецца цёмны, брудны прастакутны след. Гэта асабліва выразна бачна з вышыні

***Яно ніколі не ўздымаецца высока,
Валовае, зямное вока,***

***А понізу трымаецца кустоў,
Хаваецца ў траве густой.
Бывае, выбліснe, падобнае на пчолку —
Шукай у стозе згубленую іголку.***

***Найменшае паміж малятак,
Не лётае, а пырхае птушыны мятлік.
Дык ведайце, каб стрэць яго маглі б вы,
Што гэта беларускае калібры.***
25.12.95

## Адчай Чарнобыля

***Крычма крычыць
У адчаі Чарнобыль:
— Хто дапаможа
Смяротна хвораму?***

***Дзе ты, Альфрэдзе,
Мой новы Нобель,
Хросны айцец
Дынаміту і пораху?***

***Роўна сто год,
А ты ўсё каешся.
Замольваеш
Недаравальнае зло.***

***Сумленне,
Нібыта, верх узяло,
А ў свеце пабольшала
Зла яшчэ.***

***Праклятыя,
Што абяцалі дабро,
А расчапілі
Смерці ядро.***

***Геніі цьмы
Ніколі не возьмуць віны,
Пакуль не пагінуць
Самі яны.***
12.03.96

## Безыменцы

***Метамарфозы новай гісторыі:
"Новыя",
За мяжой каторыя
За грошы накрадзеныя жыруюць,
А імёны свае хаваюць,***

***І "новыя",
Што за мяжой ваююць,
Ужо зусім безыменцы,
Уласных імёнаў
Не маюць.***

***Завуцца тымі,
Каго забіваюць:
"Афганцы",
"Таджыкі",
"Чачэнцы".***

***Вось якія
Гісторыя
Выкідвае нам
Каленцы.***
25.03.96

## Дзікае поле

***На дзікае поле Няўзорава
Прыйшлі болей дзікія дні,
Дні ачмурэлага нораву.***

***На слых і не ўцяміш адразу,
Пакуль не пабачыш вачмі:
"Айчыне служу і спецназу!" —***

***Дэвіз галаварэзаў Чачні.
Жудасць пераварочвае душы.
Пяе чачэнскай вайны салавей,***

***Славячы камунізму містыку,
Канібалізму статыстыку:
Забойцы ахвярам адрэзваюць вушы
І кожнае як пераможны трафей.***
19.06.96

## Памяці школьных падручнікаў 1992–95

***Злачынная навіна
Стрэмкай у сэрцы.
Да скону не адбаліць яна:***

***Гаспадарова чэлядзь падручная
Валачэ на жывадзёрню
Падручнікі:***

***"Беларускую мову",
"Гісторыю",
"Літаратуру"***

***Самазваламі на макулатуру
І залаты наш "Буквар" заадно ж —
Пад нож!***

***Летазлічэнне новае пачалося.
Ставяць помнік
Апошняй эпосе.***

***Маці, якога колеру выбераш
Жалобнае
Пакрывала:***

***Чырвонае,
Чорнае,
Белае?***

***Ты ўжо нямала
Перахавала,
За ўсіх адбалелая.***

***З недаравальным дакорам вачыма
Глядзіш на нас, а мы на цябе
Падняць свае не можам, Айчына.***

***Клопат цівосе
Ужо не да песень,
Не да поўнагалосся.***

***Што ж засталося?
Што нам належыць —
Рэжуць.
Крэўная наша, няўжо ж***

***І самую —
Пад нож?***

***Хто ж дапільнуе,
Дагледзіць,
Пакрывалам пакрые якім:***

***Белым,
Чырвоным,
Чорным,***

***Памяць пазначыць
Жвірам
Ці дзёрнам***

***І пагалосіць з адчаем,
Папрычытае
Перад сусветам усім?***
29.06.96

## На развітанне

***Штораз пры кожнай
Любой з нагод,
Людзі,
Вітайце адзін аднаго!***

***Радуйцеся, што вітаецеся,
Радуйцеся, што сустракаецеся
Раніцай, днём, увечар —
Радуйцеся кожнай сустрэчы.
Адзін другога не стараніцеся,
Адзін аднаму пакланіцеся.***

***Нас меншае з кожнай гадзінай
Сотнямі, тысячамі на планеце.
Смерці, а не радзіны
Перамагаюць у свеце.***

***Які Дыяген
Пасля з ліхтаром
Знойдзе хоць напамін
Аб чалавеку,***

***Што пачынаў
Калісь дабром,
А кончыў злом
Невядомага веку?***
25.04.94

пятага паверха, як, да прыкладу, у маім выпадку.

Такой застаецца *памяць зямлі* пасля кожнага чалавека...

●

Па "Панараме" абвясцілі, што адзін з жыхароў вёскі Сялец, што на Берасцейшчыне, купіў сабе самалёт...

Дыктарка Інга Хрушчова яшчэ зыранізавала ў прэзідэнцкім стылі: гэта, маўляў, людзі пачалі назапашваць сродкі ўласнай абароны ад натаўскага пашырэння на Ўсход...

Са згаданага Сяльца і вядомы наш паэт ды філосаф Алесь Разанаў. Распавядаю яму назаўтра гэтую навіну — стрымана пасміхаецца, а крылы з-пад кашулі ўжо вымыкаюць...

●

Завітаўшы ў "ЛіМ", пачуў, як нехта з супрацоўнікаў, вычытваючы апошнюю карэктуру, няўзнак сказаў, што, вось, добры аповед Пташнікава будзе ў заўтрашнім нумары, праўда, трохі цягамотны для чытання ды, як заўжды ў яго, занадта мнагаслоўны...

Назаўтра, купіўшы тыднёвік і прабегшы вачыма па старонках, адклаў Пташнікавых "Французжанак" на позні вечар: каб паснулі сямейнікі, каб сцішылася душа, каб — адзін...

Я памятаў папярэдні яго аповед у тым жа "ЛіМе", выдрукаваны, мабыць, з год таму... І нават не сам аповед той, не сюжэт, не фабулу, не героя, а менавіта сваё ўнутранае ўражанне, свой уласны стан падчас чытання і пасля...

З Пташнікавым у мяне заўсёды так. Я ведаю, многія яго недалюбліваюць за нясвецкі вобраз жыцця, за ўнутраную аўтарскую ізаляцыю, за самасць, ну, і за тую самую тэкставую мнагаслоўнасць...

Чытаў я доўга, упарта, занудліва, часам раздражнёна, але ўважліва і без адрыву... Там-сям спатыкаючыся на асобных словах і сказах, тады-сяды роздумна супыняўся на іншых словах і іншых сказах...

Скончыў чытанне, як разагнуўся пасля цяжару, што нёс, не ўсведамляючы навошта, куды і каму...Зварыў каву, запаліў... Я ўжо ведаў, што ад усяго аповеду гэтага, як і ад папярэдняга, на мяне абрынецца і яшчэ колькі дзён будзе гнясці, не да канца зразумелае мне, адчуванне жалю, смутку, тугі, няўпэўненасці ў чалавечым жыцці; што я зноў забуду прымітыўны сюжэт і героя-"джынджыка" без імя і лёсу, але буду памятць тую пасляваенную *прыроду жыцця* — гнятлівую, сырую, халодную, росную, пыльную, прапахлую мазутам, хлебам і траской, што нітуецца ўва мне з самой *прыродай чалавека*...

З Пташнікавым у мяне заўсёды так. І сёння — таксама. Падобна... Блізка... Безвыходна...

●

Кожны дзень — "Новости", "Вести", "Сегодня", "Панарама"...

Хутка ашалею ад палітыкі... Вар'яцкі дом цікавы не вар'ятамі, а дактарамі-дыктатарамі, якія там практыкуюць. Сумнавядомыя Навінкі ўжо не выклікаюць паталагічнай грэблівасці, а — настальгію па былым здароўі...

●

Хто чытаў філігранна-іранічнае эсэ "Пробники" Віктара Шклоўскага, той павінен ведаць, як камічна выглядае чалавек, што вісіць уніз галавою, папраўляючы пры гэтым гальштук...

Гэта эсэ пра спарванне племянных коней. Калі, для распальвання любоўнай жарсці, да маладой кабыліцы падпускаюць маларослага жарэбчыка, які пры ўсім сваім жаданні *нічога "істотнага"* зрабіць не можа, апроч як давесці самку да пажаднага стану... І вось тады, у самы што ні ёсць *хвалюючы момант*, кавалера адціраюць, і выпускаюць са стойла адборнага племяннога *жарабца-вытворніка*...

Гэта эсэ яшчэ пра тое, як цяжка быць інтэлігентам *у публічным доме*...

●

Паглядзіце, як сябе трымаюць на публіцы Клінтан, Шырак, Коль, Гавел... Нязмушана, лагодна, з гонарам да сябе і з павагай да людзей. А як трымаюцца, да прыкладу, Ельцын і Лукашэнка? Пашчэнкі сціснутыя, пальцы ў кулаку, вочы бегаючыя, вусны збялелыя, словы, як халастыя вінтовачныя стрэлы...

Яны стаяць за трыбунай ці на подыуме, нібы ў апошні раз, таму ўсё, што яны адтуль ні кажуць, укладваецца ў адным-адзіны парафраз: *"Это есть наш последний и решительный бой!"*

Саюз бальшавікоў і камсамольцаў можа быць парушаны толькі піянерамі, якія, канечне ж, — "Заўжды гатовы!"

Што ж, такая наша беспартыйная доля...

●

Літаратура — гэта процьма слоў, у мітульзе якіх я ўжо мала што разумею... Проста — пішу іх і чытаю, чытаю і пішу... Маніякальнасць.

●

Адзін старадарожскі разьбяр па дрэве падараваў мне фігурку бурацкага бажка, а мо — шамана, калі яны ёсць у іх народнай абрадавай традыцыі. І стаіць ён на маім стале, і — то палохае мяне, то раздражняе, то падбадзёрвае, то смяшыць, то натхняе...

Поруч з ім, такога ж карычневага колеру, — попельніца, у выглядзе зношанага чаравіка, што курчыць неапісальную міну — "просіць есці" — і я перыядычна кідаю ў яго абсунутую халяву недапалкі гародзенскіх цыгарэтаў...

Яны — адзіныя сведкі маіх вытворчых пакут і бяссонніцы...

Мне з імі добра. А калі блага, то я адчыняю фортку насцеж і слухаю выццё тралейбусаў ды ляскат трамваяў...

Вершы ж пішуцца тады, калі ўвогуле нічога не чуеш, апроч сябе... І як толькі такое здараецца, і з-пад пяра вылузваецца твая чарговая *"геніяльнасць"*, ты абавязкова натыкаешся вачыма на здзеклівы жэст бурацкага бажка і з'едлівую іронію самабытнага чаравіка...

●

Лукашэнка ўспамінаецца да месца і не да месца — так убіўся ў галаву...

Жонка, пасля чарговых расейскіх навінаў па тэлебачанні, выйшла на балкон па моркву. Варочаецца, зачыняе дзверы, і — хапаецца ў роспачы за галаву: "Госпадзе! Чаго ж гэта я на балкон выходзіла?! Не галава — адміністрацыя прэзідэнта!"

●

Я аднойчы пісаў, што Дранько-Майсюк танцуе прыгожа, элегантна, вытанчана — для *душы*...

А вось Пётра Васілеўскі таньчыць авангардна, у стылі *постмадэрн*. І тут ужо трэба мець *нервы*...

●

Выпадкова вычытаў на папцы з рукапісам аднаго аўтара, ім ці яшчэ кім прыдуманы наватвор з тлумачэннем, як гэта робяць часам на сатырычных старонках газет: АГАЛЕЦ — непаўналетні злачынца. (Відаць, ад рускага "оголец"...)

Як у "дзесятку" ўляпіў!

●

Нацыянальны боль нас ужо атупіў... Мы зайшліся ад яго...

І найлепшы сродак ад гэтай *"хваробы"* — ад гэтых слёз і дзіцячых літанняў — толькі адзін: здаровы чалавечы *гонар*.

Мы ёсць, *не зважаючы на вас*, а вы ёсць, толькі *на нас зважаючы*.

І ўсяго. І боль адпусціць...

●

Перада мной стаіць гадзіннік, які рытмічна *вылічвае час* з майго жыцця. Я гляджу на ўсе тры ягоныя стрэлкі — і недаўменна дзіўлюся. Ужо ж даўно мудра сказана: *не час ідзе, а мы праходзім*... Тады навошта абсурдна займацца яго вылічэннем?

Час Купалы, час Разанава, час Лукашэнкі.. час кожнага з нас... А можна і так: спадчына Купалы, *каардынаты быцця* Разанава, *дэкрэты* Лукашэнкі...

Ход часу заўважаецца толькі тады, калі ў чалавеку ці ў акаляючым яго свеце нешта *змяняецца*. Час ніадкуль не ідзе і нікуды не сыходзіць — намі пэўны і намі напоўнены... Як і сам чалавек — нараджаецца ад людзей, жыве з людзьмі, памірае сярод людзей... Чалавек *змяняецца*, а людзі *застаюцца*...

Гэтак і час. Мы — з часу, мы — у часе, мы — пасярод часу...

Мы — ЧАСОВЫЯ...

●

Перад Богам усе людзі роўныя, усе — паміраюць...

А вось самі перад сабой людзі роўнымі быць не хочуць: адны разумнейшыя, другія як бы дурнейшыя, адны багацейшыя, другія бяднейшыя, адны грэшныя, другія святейшыя...

І ўсё ж — паміраюць, дзякаваць Богу...

●

У "ЛіМе" — чыстыя і ясныя, як выплаканыя вочы, — вершы Дануты Бічэль...

Аказваецца — мы ўсе адзінаверцы ў высокім храме Паэзіі...

●

Літаратура — гэта тое, што павінна *балець чытачу*, а не тое, што *баліць літаратару*...

●

Што такое сон? *Творчасць*...

Знакамітая карціна Гоі "Сон розуму нараджае пачвараў", насуперак свайму назову, якраз гэта і пацвярджае.

Сон, як і мысленне, не паўтарае пражытае, а адлюстроўвае чалавечую падсвядомасць — наша *паралельнае жыццё*, раздзяляючы яго на "ноч" і "дзень", на *цёмны* і *светлы* час нашага існавання...

Сон — перадумова *творчага* жыцця. Ён *перастварае* ўжо *створанае* чалавекам...

*Не праспаць* жыццё, а — *прысніць*, пражыць яго, як *сон*...

●

Купілі дачцэ магнітафон. Увесь час гучаць увушшу новыя, неадпаведныя маёй душы, рытмы...

Не магу *пісаць са свайго голасу*. Магчыма, і *гэта* — імітацыя "пад фанеру"...

●

Ужо даўно задумваюся над тым: навошта я пішу свае рыфмаванкі і празаічныя тэксты?

Хіба я магу абнадзеіць імі заведама няшчасных людзей? Тады — навошта? Абнадзеіць сябе, захаваць маску скамароха на стомленым твары?

Усе мы няшчасныя. Тое, што мы *пілім, габлюем, будуем, варым, адліваем, штампуем, разбураем, пішам, малюем*, — не набліжае нас да шчасця ні на ёту...

Хто адважыцца сказаць, што ён пражыў шчаслівае жыццё, той несусветны хлус.

Хіба шчаслівае жыццё павінна канчацца смерцю?!

А яно ж канчаецца...

ПОШУКІ

# Што ёсць ісціна?..

*Галаву*
*павярну на захад*
*— праблема!*
*Павярну на ўсход —*
*другая!*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Толькі ніякіх праблем*
*У зямлі пада мною.*

**М. Рудкоўскі**

Шматлікія рэлігіі аспрэчваюць сваім існаваннем тэзу, якая нікім не аспрэчваецца: ісцін аднаго накірунку не можа быць больш, чым адна. Адна частка чалавецтва не мысліць сабе іншай практыкі жыцця, як манагамія, і ў той час другая яго вельмі вялікая частка (маю на ўвазе прыхільнікаў ісламу) без аніякага душэўнага трымцення практыкуе мнагажэнства.

Нядаўна Папа Рымскі прызнаў эвалюцыйнасць развіцця чалавека. Тым самым чалавек для соцень мільёнаў вернікаў вернуты ва ўлонне прыроды. Можна казаць пра большую псіхалагічную камфортнасць жыцця вялікай масы людзей, якія зведалі б вялікі стрэс, спрабуючы прымірыць эмпірыку ды логіку навукі з дактрынай.

Тая з'ява, што людзі не заўважаюць даволі алагічных варункаў свайго бытавання, не можа не інтрыгаваць. Гэта не эфект "прыцярпеласці зроку", калі мы перастаём заўважаць прадметы ў кватэры альбо, на крайні выпадак, нецікавых нам людзей. Хутчэй тут праяўляецца рэакцыя страуса, які хавае галаву ў пясок пры небяспецы, альбо камп'ютэра, які ў выпадку алагічнай задачы падае сігнал "err or" і перастае апрацоўваць інфармацыю.

Прычына гэтага сну бачыцца ў раздваенні ўспрымання чалавека пры яго самавылучэнні з мэтазгоднай прыроды. Шуляк дзяўбе кураня і анімала не праймаецца згрызотамі сумлення: ён ажыццяўляе інстынкт выжывання ды імкнецца, каб выжылі ягоныя птушаняты. Чалавек перарабіў гэтае кола мэтазгоднасці, не забіўшы карову, а прыручыўшы яе і забіўшы пасля, калі ўжо атрымаў ад яе шмат малака і замену ў выглядзе цялушкі; ён стаў ездзіць на калёсах, гаварыць праз дынамік, глядзець у мікра- і макрасвет і нават лятаць — гэтай функцыі ён дагэтуль не меў — на адмысловых прыстасаваннях.

Такая перабудова мэтазгоднасці дазволіла чалавеку займець сваю нішу ў прыродзе. Як індывід, ён зрабіў сваё жыццё больш камфортным, але паставіў сябе пад пытанне як від.

Ні адзін від жывёлы не вядзе ўнутры сябе такіх знішчальных войнаў. Ні адзін від не знішчае матэрыяльнай падставы свайго існавання. Адбываецца гэта таму, што чалавек свядомы, непазбежна пачаўшы ў жыццядзейнасці кіравацца двайным стандартам праўды ды ісціннасці, не змог захаваць меру той і другой.

Што ж такое праўда і што такое ісціна? На мой погляд, праўда напрамую вырастала з мэтазгоднасці, і з яе дапамогай давалася ацэнка тактычных пытанняў быцця. Менш канкрэтная сфера культуры — сфера больш агульных пытанняў — адышла пад пананаванне ісціны.

У прынцыпе гісторыя чалавецтва — гэта даволі трагічная спроба знайсці гармонію праўды ды ісціны, і трагічная яна таму, што многаснасць праўда, спрычынена мультыплікацыяй мэтазгоднасці (кожны індывід пачаў праектаваць павышэнне камфортнасці свайго жыцця) больш зручная для інтэграцыі ў ментальнасць чалавека, чым даволі туманная ісціна, якая не дапускае множнасці і доказ якой патрабуе вялікіх здольнасцяў, г. зн. не кожнаму па плячы. Паказальна тое, што рэлігія фармулюе гэтыя ісціны як догмы.

Прыдатным падаецца тут прыклад адной з дамінантных сфер чалавечага жыцця — кахання. Мушу ўдакладніць тут сваю пазіцыю: прырода ідэнтыфікацыі аб'екта кахання, відаць, біялагічнага кшталту. Для падаўжэння роду выбіраюцца лепшыя, прыгажэйшыя партнёры. Але ісцінай ёсць тое, што кахаюць не толькі прыгожых.

Рэальнасць культурнасацыяльна-палітычнага кшталту такая, што нашу вялікую праўду — Беларусь павінна быць беларускай — топчуць нагамі. Гэта выяўляецца ў недапушчэнні развітых, самастойна мыслячых, кампетэнтных, свядомых беларусаў да ўдзелу ў фармаванні культурнага бытавання народа (беларусам нацягваюць фальклорныя "штонікі", іхнюю гісторыю зноўку крэмзаюць нажніцамі, ажыццяўляецца штучная культурная экспансія суседняй краіны, грошы зноў ідуць пераважна на ўтрыманне рускага школьніцтва і рускіх ВНУ і г. д.).

Але не будзем спяшацца з высновамі. Нам важна яшчэ ведаць, ці няма за тымі, хто топча, нейкай больш высокай праўды альбо і наогул ісціны, — каб не атрымалася, як у той байцы: "Вось учора радаваўся! Папаліў усіх прусакоў. Праўда, прыйшлося дом спаліць, але затое як яны лопаліся!"

Тое, што натуральна было б, каб беларусы карысталіся беларускай мовай, дазваляе даказаць сябе як праўду, але і як ісціну. Доказ ад адваротнага: было б дзіўна, каб палякі гаварылі не па-польску, шведы не па-шведску і г. д. Доказ ускосны: наяўны перакос у бок выкарыстання рускай мовы спрычынены суб'ектыўнымі фактарамі (насаджэнне ўладамі моды на рускую мову, якое праходзіла на фоне культурнага прыярытэту горада са спрадвечна небеларускімі каранямі). Пры нейкай вольнасці альбо нейтральнай пазіцыі наяўны заняпад не меў бы месца.

Культуралагічны доказ дазваляе прызнаць за сфармуляваным палажэннем статус ісціннага. У прыродзе існуе ўсеагульны закон разнастайнасці праяў пры ўнутраным адзінстве свету. Калі існуе каля дзвюх тысяч моў, сярод якіх беларуская па ўжытковасці далёка не апошняя, то не людзям дабівацца яе скону: як не іхняя заслуга разнастайнасць моў, так і не іхні клопат — іх уніфікацыя.

Падмацаваць нашу фармулёўку ў прынцыпе, як і аслабіць яе дагматычную завостранасць, дазваляе праўдзівае выказванне Вандрыеса, што ў прынцыпе людзі гавораць на адной мове. Маецца на ўвазе, што мова наогул ёсць мысленча-знакавы адбітак адзінага свету з яго суб'ектнааб'ектнымі, атрыбутыўнымі, акалічнаснымі дачыненнямі ды прэдыкацыяй як апісаннем спосабу бытавання суб'екта ў свеце. Гэтае сцвярджэнне прыярытэтнасці вобразнай сферы, якое пацвярджаецца вопытам імкнення ўсёй жывой прыроды да павелічэння камфортнасці існавання (што з'яўляецца спружынай эвалюцыі паводле Дарвіна), амаль скасоўвае паняцце "родная мова", але пры грунтоўнай тыпалагічнай тоеснасці (ізаморфнасці) моў паміж імі, акрамя нерэлевантных, на наш погляд, разыходжанняў ва унікаліях ёсць існасныя разыходжанні ў мадальнасці (стаўленні носьбіта дыялекту/ідыялекту да выказвання). Гэта адрозненні ў спосабе выражэння мадальнасці (мадальныя дзеясловы, канструкцыі, словы, нават інтанацыя і традыцыі жэсту), пабудове выказвання, стылёвай традыцыі дыялекту.

Мадальнасць на ўзроўні ідыялекту і дыялекту відавочна мае выхад на менталітэт носьбіта дадзенай мовы і менталітэт адпаведнага народа і тым самым яшчэ раз пацвярджае натуральнасць ды ісціннасць разглядаемай фармулёўкі.

Аднак ісціна заўсёды рэалізуецца на фоне пэўных праўдзівых дачыненняў, якія альбо падмацоўваюць яе, альбо ўступаюць з ёю ў супярэчнасць.

Рэчаіснасць з кароткім абсягам больш вольнага сацыяльнага развіцця натуральным чынам вылучыла запыт рэалізацыі разглядаемай ісціны, але і непазбежна спалучыла яго з двума запытамі іншага кшталту: змена формы ўласнасці ды мяжа фізічнай выжывальнасці з-за эканамічнасці крызісу. Гэтыя запыты не падымаюцца вышэй за праўдзівыя. Любая форма ўласнасці мае свае станоўчыя і адмоўныя бакі, і гэта не дазваляе ёй быць ісцінай у нейкай сваёй іпастасі, маючы іншыя формы як неісціны; праўда масавай нішчымніцы спрычынена масавай жа недзеяздольнасцю людзей у посттаталітарным грамадстве — нармальным чынам здаровы чалавек ва ўмовах адсутнасці вайны альбо стыхійных бедстваў не можа памерці з голаду. Тым не менш недастаткова падрыхтаванаму насельніцтву цяжка давесці магчымасць кан'юнкцыі разглядаемай ісціны ды наяўных праўдзівых запытаў, тым больш што наша грамадства відавочна знаходзіцца ў стане масавага псіхозу, пра які пісаў яшчэ Фрэйд, а традыцыя канфрантацыйнага мыслення, на жаль, спрыяе яму.

Неўратычны стан чалавека паўстае часцей за ўсё з-за перасільвання нервовай сістэмы нейкай дамінантай, якая ў межах ідэйнай іерархіі гэтага індывіда не мае вырашэння, г. зн. уяўляецца тупіковай.

Неўратычнасць — вельмі суб'ектыўная якасць, і гэта датычыць як індывідаў, так і народаў, аднак можна сказаць, што любая рэзкая пераарыенціроўка ідэйнай іерархіі, нават любая працяглая дэпрэсія (у грамадстве гэта крызіс) выклікаюць, як мінімум, стрэс і, як максімум, масавы псіхоз. Колішняе нямецкае шаленства непараўнальнае з нашым псіхозам, але і гэты апошні нельга, відаць, разглядаць як выздараўленне ад таталітарнага сіндрому.

Безумоўна, сутнасць такіх калізій пераломнага кшталту ў тым, што адна праўда (апраўдання патрабуе ўсялякая ўлада) мяняецца на другую, верагодна, больш адпаведную нейкім агульным крытэрыям, якія мы тут не будзем ацэньваць. Пры гэтым па розных прычынах не ўсе людзі могуць прыняць гэтую новую праўду; яны застаюцца, як рыба на пяску пасля адліву, і калі вада "новай праўды" не ратуе іх, больш за тое, калі яна выкідвае на пясок новыя ахвяры, — вось тады можна набрацца крытычная маса "стрэсеных" людзей, якая напэўна забяспечыць пераход супольнасці ў стан псіхозу.

Мне не падаецца ісцінным меркаванне, што шанцы беларускасці на выжыванне напрамую залежаць ад суверэннасці Беларусі як краіны альбо яе ліквідацыі; яно ёсць адно праўдзівым, і вось чаму.

Рэчабуднасць прымусіць чалавека распазнаваць праўду ды ісціну. Усё больш адчувае ён ісціннасць таго, што Зямля ў сутнасці невялікая і што глабальнае мысленне не мае альтэрнатывы. Экалогія ды капітал здымаюць існыя межы, і важна не захавацца ў сваіх межах, а важна ставіць перад сабой і другімі пытанне: з чым мы выйдзем у аб'яднаны свет? Чаму мы беларусы? Пры такім падыходзе развязваюцца шмат якія штучныя вузлы і канфлікты і адкрываецца дарога да дыялога як унутры праекта супольнасці пад назовам "Беларусь", так і звонку, як на Захадзе, так і на Усходзе.

На чалавека, які знаходзіцца ў стане стрэсу, нервовага шоку, крычаць нельга. Значыць, адно спакойны аналіз дае шанц, і тады ісціна выратуе ўсіх нас. Але пэўныя моманты ў гэтай рабоце, хоць і запрашаюць да далейшай дыскусіі, пазбаўляюць нездаровага аптымізму.

Дык сапраўды, як нам будзе, калі мы, не загнаўшы сябе самі, усё ж апынемся ў стане быкаўскага Плотнікава — у стане экзістэнцыяльнага выбару?

Што ж, пры любой мадыфікацыі фатальнага сыходу ад пакорлівасці халакосту да інфернальнага супрацьстаяння носьбіт ісціны мае суцяшэнне, што дзеіў у духу прыроды, а не ў духу праўды сваёй улады любой цаной, свайго жывата — любой цаной, сваёй ідэі — любой цаной.

Чым больш ісцін будзе "ўсмярочвацца" чалавекам ва ўгоду тактычным праўдам, тым менш у яго шанцаў як у віду ў рэчабуднасці.

**Яўген БЯЛАСІН**
*г. Брэст*



*Фота Анатоля Клешчука*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 10.7.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3959/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12